Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

**№25 (4620) 24 чэрвеня 2011 г.**

## У нумары:





# Сімвалічная фігура і крокі, што яднаюць

**Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ, фота Мікалая Астаф’ева**

**17 чэрвеня вядомаму расійскаму паэту Глебу Гарбоўскаму быў урачыста ўручаны дыплом намінанта на прэмію Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва.**

На саіскальніцтва прэміі вылучаны паэтычны цыкл Глеба Гарбоўскага “Беларускі сшытак”, яго паэма “Чмель у аўтобусе” і асобныя вершы, прадстаўленыя ў 2-м і 3-м тамах збору твораў паэта. Усе гэтыя творы ці то прысвечаны нашай краіне, ці то задуманы на беларускай зямлі, ці то напісаны ў невялікай вёсцы Цяцеркі, што на Віцебшчыне, дзе жылі сваякі жонкі Глеба Якаўлевіча і дзе ён перыядычна працаваў на працягу 25 гадоў.

Нагадаем, што за больш як дзесяцігадовую гісторыю прэміі літаратары атрымлівалі яе тройчы: у 2002 годзе лаўрэатамі сталі народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін (за зборнік аповесцей “Пошукі прытулку”), драматург Аляксей Дудараў (за цыкл п’ес і сцэнарыя для кіно — п’есы “Парог”, “Вечар”, “Радавыя”, “У прыцемках”, “Чорная панна Нясвіжа”; кінасцэнарый “Белыя росы”); у 2006 годзе — паэт Станіслаў Куняеў (за пераклад на рускую мову паэмы Міколы Гусоўскага “Песня пра зубра”). Такім чынам, арыгінальная паэзія мае шанц атрымаць прэмію ўпершыню. Адметнай намінацыя Глеба Гарбоўскага з’яўляецца яшчэ і таму, што яна пашырае геаграфію прэміі: звычайна намінанты прадстаўляюць дзве сталіцы — Мінск і Маскву, Гарбоўскі — паэт з Санкт-Пецярбурга.

Менавіта на пецярбургскай зямлі, у слынным Доме творчасці пісьменнікаў “Камарова” (з гэтым дачным пасёлкам звязаны імёны такіх літаратараў, як Ганна Ахматава, Міхаіл Зошчанка, Іосіф Бродскі, Яўген Рэйн, Анатоль Найман, Бэла Ахмадуліна, Данііл Гранін, Андрэй Бітаў ды іншыя) прайшоў урачысты творчы вечар, на якім Глеб Гарбоўскі быў уганараваны дыпломам намінанта.



Дыплом паэту ўручыла Людміла Курыловіч, прадстаўнік Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы: “Гэта прэмія — значная не толькі з-за свайго грашовага эквіваленту (каля шасці мільёнаў расійскіх рублёў), яе сутнасць вельмі важная для двух народаў. Чалавек, які атрымаў яе, — каштоўнасць для абедзвюх краін і для ўсяго свету”.

Падтрымалі намінацыю Гарбоўскага Саюз пісьменнікаў Санкт-Пецярбурга — на вечары прысутнічаў яго старшыня Валерый Папоў — і Саюз пісьменнікаў Беларусі, прадстаўнік якога, літаратар, прафесар, доктар філалагічных навук Анатоль Андрэеў адзначыў: “Цяпер патрэбны крокі, якія яднаюць, патрэбны сімвалічныя фігуры. Глеб Якаўлевіч — гэта якраз такая сімвалічная фігура для абедзвюх краін: 25 гадоў творчасці і больш як 1000 вершаў звязваюць яго з нашай зямлёй”.

Падтрымаць Глеба Гарбоўскага і парадавацца за паэта ў Дом творчасці пісьменнікаў “Камарова” прыехалі жонка, паэтэса і журналіст Лідзія Гладкая, дырэктар выдавецтва “Историческая иллюстрация” Мікалай Кірушчанка (гэтае выдавецтва працягвае працу над поўным сямітомным зборам твораў Гарбоўскага і выдае яго новыя кнігі, бо літаральна штодня з-пад пяра паэта з’яўляюцца новыя вершы), аглядальнік “Литературной газеты” Дзмітрый Караліс, кампазітар Яўгенія Казанава, сябры-паэты Мікалай Астаф’еў і Анатоль Дамашоў ды іншыя.

Беларускіх чытачоў на творчым вечары чакаў сюрпрыз: Глеб Гарбоўскі перадаў свае кнігі з аўтографамі ў Віцебскую абласную бібліятэку і Нацыянальную бібліятэку Беларусі. Так што ў хуткім часе ўсе жадаючыя змогуць пазнаёміцца з кніжнымі навінкамі намінанта.

Лёс прэміі будзе вырашаны ў верасні. Хто з пяці намінантаў стане трыма лаўрэатамі, будзе вядома пасля Экспертнага савета, што пройдзе ў Маскве. Свае дыпломы намінантаў ужо атрымалі народны мастак Беларусі Георгій Паплаўскі, аўтарскі калектыў спектакля “Вяселле” Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, народны артыст Расійскай Федэрацыі і СССР Юрый Башмет. Дыплом аўтарскаму калектыву мастакоў калекцыі паўлавапасадскіх шаляў “Спадчына” будзе ўручаны на Міжнародным фестывалі мастацтваў “Славянскі базар у Віцебску”.

# СМІ свету ў адказе за будучыню

**Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА**

На гэтым тыдні праходзіць ужо шосты па ліку Беларускі медыяфорум “Партнёрства дзеля будучыні: патрыятызм, духоўнасць, яднанне”, удзел у якім прымаюць больш як 80 журналістаў з 21 краіны свету. У гэтым годзе ён прысвечаны 70-годдзю з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны і 20-годдзю стварэння Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

Як адзначыла першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч, медыяфорум з кожным годам выклікае ўсё большую цікавасць у замежных журналістаў, таму колькасць удзельнікаў пастаянна павялічваецца. Так, у мінулым годзе ўдзел у ім бралі прадстаўнікі 17 краін.

Арганізатарамі форуму выступаюць Міністэрства інфармацыі Беларусі пры падтрымцы дзяржаўных органаў і арганізацый, Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў — удзельніц СНД і Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы.

Распачаты ў знакавы для Беларусі дзень — 22 чэрвеня — форум увабраў у сябе вялікую праграму, прысвечаную сумнай даце пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Журналісты, якія прыехалі ўжо 21 чэрвеня, змаглі стаць удзельнікамі мерапрыемстваў, што праходзілі ў Брэсцкай крэпасці. У першы дзень работы форуму госці ўсклалі вянкі да абеліска на плошчы Перамогі, наведалі “Лінію Сталіна” і азнаёміліся з новай праграмай “Памяць сэрца” Беларускага дзяржаўнага заслужанага харэаграфічнага ансамбля “Харошкі”. Падрыхтаваная экскурсія дапамагла пазнаёміцца з Мінскам сучасным, а таксама ўявіць, якім ён сустрэў Перамогу.

На другі дзень работы на базе Інстытута журналістыкі БДУ была арганізавана летняя школа журналістыкі, у якую ўвайшлі майстар-класы як беларускіх, так і замежных журналістаў. Цэнтральная падзея медыяфоруму — пленарнае пасяджэнне — праходзіць сёння, 24 чэрвеня, у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. У форме тэматычных дыскусій абмяркоўваюцца пытанні развіцця Беларусі ва ўмовах сучасных геапалітычных працэсаў, новая роля СМІ у фарміраванні палітычных рэалій і іншыя. Як адзначыла Лілія Ананіч, “у новых палітычных, эканамічных умовах з’яўляецца асаблівая роля і ў сродкаў масавай інфармацыі. У чым яна заключаецца, удзельнікі паспрабуюць акрэсліць у рэзалюцыі, якая рыхтуецца”. Сутнасць жа згаданай рэзалюцыі ў тым, што СМІ нясуць адказнасць за лёс сваіх народаў, яны разам з суайчыннікамі павінны свята захоўваць гістарычнае мінулае.

Як адзначыла Лілія Ананіч, інфармацыйнае поле насычана самай рознай інфармацыяй, не заўсёды праўдзівай. І таму вельмі важна, што на Беларускім форуме будзе прадстаўлена аб’ектыўная і сумленная журналістыка. Менавіта такія СМІ прыязджаюць для ўдзелу ў форуме.

## Пункцірам

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка даў прэс-канферэнцыю для цэнтральных і рэгіянальных беларускіх СМІ, якая доўжылася больш як пяць гадзін. Значная частка размовы датычыла эканамічнай сітуацыі ў краіне і мер па выйсці з яе.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падчас прэс-канферэнцыі заявіў журналістам, што скарачаць колькасць месцаў у ВНУ не плануецца. Але адзначыў, што выпускнікі павінны разумець: магчыма, пасля заканчэння ВНУ ім давядзецца працаваць не на кіруючых пасадах, тым больш што сёння нават для работы за станком (напрыклад, з лічбавым упраўленнем) патрэбна высокая кваліфікацыя кадраў.

Аляксандр Лукашэнка паведаміў на прэс-канферэнцыі, што Беларусь будзе прыцягваць іншаземныя інвестыцыі на рэстаўрацыю гістарычных помнікаў. Па-першае, рэстаўрацыя — працэс доўгі, па-другое, — надта дарагі. Беларусі цяжка будзе справіцца з гэтым сваімі сіламі. А ў цяперашняй сітуацыі прынцыпова важна не зварочваць ніякіх праграм.

Прэзідэнт Беларусі запэўніў журналістаў, што з улікам праблем настаўнікаў з заробкам ім будзе аказана дапамога. Наконт укаранення ў школах новых камп'ютарных тэхналогій Прэзідэнт сказаў, што з гэтым спяшацца не трэба: "Я люблю і люблю кнігу, мне страшна ўявіць, што хутка з-за ўсіх гэтых тэхналогій мы не возьмем у рукі кнігу. Я баюся гэтага, таму што для мяне кніга — гэта святое".

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб узнагароджанні медалём Францыска Скарыны актрыс Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі Галіны Чарнабаевай і Ганны Маслоўскай, а таксама загадчыка кафедры сацыялогіі Санкт-Пецярбургскага Расійскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя А. Герцэна Аляксея Воранава.

Міністр культуры Беларусі Павел Латушка сустрэўся з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Індыя ў Рэспубліцы Беларусь Маноджам Кумарам Бхарацi. Гутарка ішла пра арганізацыю Пасольствам Індыі шэрагу мерапрыемстваў ва ўстановах культуры Беларусі, рэалізацыю праекту па перакладзе літаратурных твораў вядомых аўтараў абедзвюх краін на дзяржаўныя мовы другой краіны, магчымасці вывучэння хіндзі ў вышэйшых навучальных установах Беларусі. Асаблівая ўвага была нададзена пытанням двухбаковага супрацоўніцтва ў сферы кінематаграфіі.

Маладыя беларускія акцёры прымаюць удзел у V Міжнароднай летняй тэатральнай школе, якая адкрылася ў Падмаскоўі. У гэтым годзе праект сабраў 85 удзельнікаў з 27 краін СНД, Балтыі, Еўропы і Азіі, Паўночнай і Цэнтральнай Амерыкі. Слухачы школы праходзяць навучанне ў вядомых расійскіх акцёраў і рэжысёраў. Маркуецца паставіць чатыры спектаклі на тэатральных пляцоўках Масквы, Звянігарада, Серпухава і музея-запаведніка А.П. Чэхава ў Меліхаве.

**Падрыхтавала**
**Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Паэтаў вабяць Масаляны

**Людміла КЕБІЧ**

**Першы адкрыты раённы фестываль паэзіі "Масалянскія салаўі" стаў сапраўднай падзеяй у жыцці літаратараў Гродзенскай вобласці. Арганізатарамі яго выступілі аддзелы адукацыі, культуры і па справах моладзі Бераставіцкага райвыканкама. Фінансавую падтрымку аказала кіраўніцтва сельгаспрадпрыемства "Масаляны".**

Як толькі госці ступілі на бераставіцкую зямлю, яны адчулі шчырасць і гасціннасць гаспадароў. Вучні Масалянскай школы-дзіцячага садка сустракалі ўдзельнікаў фестывалю вершаваным прывітаннем і запрашалі на экскурсію па школьным будынку, а настаўнікі арганізавалі цікавую прэзентацыю Масалянскага краю, з якой прысутныя даведаліся пра яго багатае гістарычнае мінулае, якое пачынаецца з 1646 года — часу, калі князь Ян Масальскі атрымаў каралеўскі прывілей на заснаванне ў Масалянах горада з кірмашом і касцёлам. Наведалі госці старую сядзібу князёў Масальскіх, парк і капліцу, якія абвешчаны запаведнымі.

У "Масалянах" жывуць і працуюць сапраўдныя патрыёты і, як высветлілася падчас фестывалю, аматары і стваральнікі высокага паэтычнага слова. Літаратурная гасцёўня і літаратурна-музычная кампазіцыя "Свет паэзіі" прайшлі ў мясцовым доме культуры пры перапоўненай зале. Запрошаны на гэты паэтычны форум былі, акрамя членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі з Гродзенскага абласнога аддзялення, паэты з Бераставіччыны, а таксама суседняга Ваўкавыскага раёна, члены паэтычнага клуба гродзенскіх настаўнікаў "Надзея", члены літаратурнага аб'яднання "Зоры над Зальвянкай" Зэльвенскага раёна, а таксама школьнікі. Пранікнёна і шчыра аўтары чыталі свае творы, дзяліліся ўражаннямі і адкрыццямі, планавалі наступныя сустрэчы, знаёміліся, нарэшце. Надзвычайную цікавасць выклікала сустрэча з сястрой вядомага паэта, члена Саюза пісьменнікаў СССР, ураджэнца Масалян Івана Леткі Аленай Касцяневіч, якая падзялілася з прысутнымі ўспамінамі пра брата, удзячная, як і ўсе мы, за тое, што на радзіме памятаюць таленавітага земляка. Нездарма і гэты паэтычны фестываль наладзілі ў яго гонар. Душою фестывалю стала настаўніца Масалянскай школы Галіна Жывіца, якая прыклала шмат намаганняў, каб фестываль адбыўся. Здзівіла яна прысутных і сваім паэтычным майстэрствам.

Шмат цудоўных імгненняў перажылі ўдзельнікі і госці новага фестывалю. Усе пагадзіліся, што ён павінен мець працяг і набыць статус рэгіянальнага. Бо мы — краіна, дзе і ў самых далёкіх куточках народ хоча чуць сваіх паэтаў і падтрымлівае іх.

# Заклік да любові і цярпімасці

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,**
**фота Кастуся Дробава**

**Кнігай сучаснага турэцкага філосафа і мысліцеля Фетхулаха Гюлена "Дыялог і талерантнасць" быў распачаты сумесны праект Саюза пісьменнікаў Беларусі і Саюза пісьменнікаў і журналістаў Турцыі — серыя "Бібліятэка турэцкай літаратуры" ў выдавецтве "Чатыры чвэрці". Рыхтуецца да выдання серыя беларускай літаратуры на турэцкай мове.**



Думка пра неабходнасць прадстаўлення турэцкай кнігі беларускаму чытачу і беларускай турэцкаму спела ўжо даўно. Шмат у чым гэтаму паспрыяла дзейнасць у Беларусі грамадскага аб'яднання "Дыялог Еўразія", прадстаўнікі якога ладзілі ў нас навуковыя і прэс-канферэнцыі, заклікаючы ў першую чаргу інтэлігенцыю да абмеркавання пытанняў асветніцтва, духоўнасці, талерантнасці, міжканфесійнага і міжкультурнага супрацоўніцтва. Гэта менавіта тыя ідэі, якія прапаведуе самы, напэўна, вядомы ў сучасным свеце турак — Гюлен. У Беларусі захады паслядоўнікаў і вучняў Гюлена знайшлі разуменне, бо талерантнасць — гэта прынцып, па якім на працягу стагоддзяў жылі нашы продкі ў складзе шматнацыянальных і шматканфесійных дзяржаўных злучэнняў — Вялікага Княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі, Савецкага Саюза.

Ці трэба здзіўляцца, што "Бібліятэку турэцкай літаратуры" вырашана было адкрыць менавіта кнігай Гюлена, які заклікае да міру, міласэрнасці, узаемаразумення і асуджае ўсялякае насілле чалавека над чалавекам.

Прэзентацыя новай серыі адбылася ў сталічным Доме літаратара. Прадстаўляючы яе першую кнігу, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, які, дарэчы, стаўся аўтарам адной з трох прадмоў, выказаўся наступным чынам: "У сучасным свеце як ніколі важны дыялог паміж рознымі рэлігіямі. Бо нас жа, людзей, аб'ядноўвае Бог — незалежна ад веравызнання".

Пасля паказу дакументальнага фільма пра Гюлена слова ўзяў дырэктар грамадскага аб'яднання "Дыялог Еўразія" Іхсан Дылекчы. Ён расказаў прысутным, што прыхільнікамі Гюлена адкрыта каля двух тысяч школ у дваццаці краінах. У гэтых школах маладому пакаленню выкладаюць не толькі навукі, але і прынцыпы духоўнасці. Бо, як лічыць Гюлен, мір, прагрэс, духоўнасць, узаемаразуменне — паняцці, несумяшчальныя з невуцтвам.

Пісьменнік і літаратуразнаўца Уладзімір Гніламёдаў звярнуў увагу прысутных на тое, што нават ідэі, якія выглядаюць наіўна, могуць прывесці грамадства да ўдасканалення, калі будуць падтрыманы шырокімі коламі ідэалістаў. І такія сёння — ідэі Гюлена, гуманіста і настаўніка дабра.

Дырэктар выдавецтва "Чатыры чвэрці" Ліліяна Анцух паведаміла, што ў бліжэйшы час у серыі маркуецца выдаць кнігу мастацкай прозы і кнігу паэзіі турэцкіх аўтараў.

***На здымку: пісьменнік Уладзімір Гніламёдаў, дырэктар выдавецтва "Чатыры чвэрці" Ліліяна Анцух, старшыня СПБ Мікалай Чаргінец і Іхсан Дылекчы абмяркоўваюць новую кнігу.***

# Фантастыка: новае пакаленне

**Кацярына ВОЙНІКАВА**

**Прайшоў чарговы сход моладзевага аддзялення секцыі прыгод і фантастыкі Саюза пісьменнікаў Беларусі. Ён закліканы аб'ядноўваць маладых пісьменнікаў-фантастаў і даць ім максімум магчымасцей для кантактавання і творчага развіцця.**

Аддзяленне было створана пасля правядзення творчага конкурсу "Новая беларуская фантастыка" сярод маладых літаратараў. Гэты своеасаблівы "клуб па інтарэсах", які аб'яднаў аматараў фантастыкі і, хочацца верыць, будучых паспяховых пісьменнікаў, узнік па ініцыятыве Уладзіміра Кулічэнкі і Аляксандра Эйпура, існуе пад іх кіраўніцтвам і ўсё яшчэ адкрыты для новых аўтараў, якія жадаюць знайсці аднадумцаў і наблізіцца да творчай кухні сучаснай беларускай літаратуры.

На сходах творцы традыцыйна абменьваюцца думкамі, дзеляцца інфармацыяй пра літаратурныя конкурсы, якія маюць быць, абмяркоўваюць творы калег. Усё гэта накіравана на ўдасканаленне стылю і агульнага літаратурнага ўзроўню твораў.

Гасцямі чарговага сходу сталі вядомы драматург, кінасцэнарыст Андрэй Курэйчык і беларускі пісьменнік-фантаст, крытык, перакладчык Яўген Дрозд, знаёмы з творамі маладых аўтараў таму, што ўваходзіў у склад журы пры правядзенні конкурсу "Новая беларуская фантастыка". Сустрэча прайшла ў цёплай сяброўскай атмасферы. Моладзь распытвала калег, якія ўжо набылі імя, ахвотна пераймала вопыт, а таксама дзялілася сваімі поглядамі і спадзяваннямі. Госці адказалі на шматлікія пытанні, што датычылі тэндэнцый у сучаснай беларускай фантастыцы і складанасцей, з якімі даводзіцца сустракацца пачаткоўцам.

## Спадчына

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

# Пад аховай ЮНЕСКА

**Пытанні ўмацавання нацыянальнага патэнцыялу па захаванні нематэрыяльнай культурнай спадчыны (менавіта народная творчасць з'яўляецца адной з галоўных каштоўнасцей беларускай культуры) разглядаліся падчас Рэгіянальнай кансультатыўнай сустрэчы экспертаў краін СНД, арганізаванай пры актыўным удзеле Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.**

Абмяркоўваліся аспекты стварэння нацыянальных і рэгіянальных спісаў (інвентароў) нематэрыяльнай спадчыны, што знаходзіцца на тэрыторы дзяржаў-удзельніц Міжнароднай канвенцыі аб ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны 2003 года. Прадстаўнікі Азербайджана, Арменіі, Беларусі, Кыргызстана, Малдовы і Расійскай Федэрацыі абмяняліся вопытам і намецілі перспектывы для далейшага супрацоўніцтва ў гэтай галіне. Пра міжнародны досвед у дадзенай сферы распавёў кансультант-эксперт ЮНЕСКА доктар Рыкс Сміт, які працяглы час узначальваў Міжурадавы камітэт па ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны пры ЮНЕСКА.

Па выніках сустрэчы былі прыняты Рэкамендацыі "Узмацаванне нацыянальнага патэнцыялу па захаванні нематэрыяльнай культурнай спадчыны". Удзельнікі сустрэчы наведалі музей народнай архітэктуры і побыту ў вёсцы Строчыцы, дзе выступіў гурт "Берагіня" вёскі Мётча Барысаўскага раёна Мінскай вобласці.

Літабсягі

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

# Вандроўка да святла

**Тамара Краснова-Гусачэнка выпусціла чарговую кнігу вершаў — "У святла ценю няма"(выдавецтва "Чатыры чвэрці"), і сталася гэта кніга пятнаццатай — юбілейнай па ліку. Ці ж не нагода для вялікай прэзентацыйнай вечарыны? Паэтка вырашыла пайсці нават далей — і абвясціла двухгадзінны паэтычна-музычны канцэрт у Віцебскай абласной філармоніі.**

Прыхільнікаў творчасці Тамары Іванаўны, якія запоўнілі ў той вечар філарманічную залу, уразіла арганізацыя мерапрыемства. У фае ім была прапанавана выстаўка кніг і публікацый паэткі. Выдадзеныя ў апошнія гады зборнікі можна было і набыць. Вечар распачала ўнучка Тамары Іванаўны, старшакласніца Даша Краснова, якая пад вальс Г. Свірыдава прачытала верш бабулі "Я прыйшла". Спецыяльна для мерапрыемства была зроблена відэапрэзентацыя аўтаркі. А пасля адзін за адным на сцэну выходзілі спевакі і музычныя калектывы, каб парадаваць публіку песнямі на словы Т. Красновай-Гусачэнкі.

Многія нават і не ўяўлялі, колькі вершаў Тамары Іванаўны лягло на душу кампазітарам, такім, як Аляксандр Іваноў, Віктар Шаваноў, Надзея Несцярэнка, Соф'я Валасевіч, Аляксандр Раўзо. Але ж і сама аўтарка ніколі, здаецца, не пазіцыянiравала сябе як паэтку-песенніцу. Салістка Віцебскай філармоніі Аксана Новікава выканала патрыятычную песню "Беларусь мая" і лірычную "Не здраджвайце сваім мілым", а таксама два рамансы. Народны вакальны ансамбль "Настальгія" прадставіў у музычнай інтэрпрэтацыі вершы "Крычыць маё сэрцайка", "Будзь шчаслівым" і "Стары дуб". Цёплыя словы захаплення і падтрымкі прагучалі з вуснаў калег Тамары Іванаўны, паэтаў Вольгі Русілкі, Барыса Бележэнкі, Юрыя Сапажкова, прадстаўніка Віцебскай Епархіі святара Мікалая Прусакова. Рэгент праваслаўнага хору, паэтка Алена Федзяева сваім пранікнёным чытаннем верша-прытчы Красновай-Гусачэнкі "Пяць узростаў" прымусіла залу заварожана замерці. А народная артыстка Беларусі Святлана Акружная кожны абраны для выступлення вершператварала ў маленькі спектакль — напоўнены трагізмам страты ці то светлы, пранізаны радасцю спасціжэння Боскай задумы. Запомнілася прысутным і выступленне ансамбля "Каўчэг" з музычнай кампазіцыяй "Памяць", і незвычайна лірычны ансамбль "Пчолынька".



Завершаны канцэрт быў славутай "Песняй пра Віцебск", таксама напісанай на словы Т. Красновай-Гусачэнкі. Яна ўжо добра вядомая віцебчанам, успрымаецца многімі як гімн горада. Дарэчы, песня прымае ўдзел у абвешчаным гарадскімі ўладамі конкурсе на ганаровае званне гімна. І хочацца пажадаць паэтцы перамогі. Чарговай і не апошняй.

Артлінія

Віктар КАВАЛЁЎ, фота аўтара

# Адраджэнне эмоцый

**У дзень 85-годдзя з дня нараджэння народнага артыста СССР Мікалая Яроменкі Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры наладзіў вечарыну, прысвечаную вялікаму майстру.**



Дырэктар Зінаіда Кучар зазначыла, што музей з'яўляецца захавальнікам эмоцый, якія атрымалі гледачы, наведаўшы тэатр у той час, калі Мікалай Мікалаевіч іграў на сцэне, выпраменьваў, шчодра дзяліўся сваім шматгранным талентам. Пра жыццё і творчасць Мікалая Яроменкі распавядае пастаянная экспазіцыя ў мемарыяльным пакоі, што абсталяваны ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі. Сёння прыхільнікі яго творчасці могуць атрымаць, падсілкаваць тыя эмоцыі, якія атрымлівалі ў тэатры. Мемарыяльны пакой нітуе тры таленты нашай тэатральнай культуры: Мікалая Яроменку-старэйшага, Галіну Арлову і Мікалая Яроменку-малодшага. У экспазіцыі дэманструюцца тэатральныя касцюмы, асабістыя рэчы, афішы, фотаздымкі… Адным словам, ушаноўваецца слаўнае імя геніяльнага чалавека.

На імпрэзу, якую супрацоўнікі музея наладзілі ў дзень юбілею артыста, былі запрошаныя сябры і сталыя майстры купалаўскай сцэны, якія доўгія гады працавалі поплеч з Мікалаем Мікалаевічам. У ліку іх — народныя артысты Беларусі Галіна Арлова, якая была для Мікалая Мікалаевіча адданай спадарожніцай і ў творчасці, і ў жыцці, Мікалай Кірычэнка, а таксама Людміла Лагун, Клара Нізгайла, скульптар Генадзь Буралкін (аўтар і выканаўца надмагілля старэйшага і малодшага Яроменкаў).

Галіна Аляксандраўна адзначыла, што калі сыходзяць такія прыгожыя, таленавітыя асобы, у нашым меркантыльным грамадстве з'яўляюцца "азонавыя дзіркі" духоўнасці. Мікалай Кірычэнка ўзгадаў сваё першае знаёмства з Мікалаем Яроменкам, сумесную работу ў спектаклях, гастрольную дзейнасць, а Людміла Лагун распавяла пра пачатак тэатральнай дзейнасці Мікалая Мікалаевіча ў Віцебску, у Коласаўскім тэатры, дзе яна служыла разам з ім пачынаючы з 1952 года.

Увазе гасцей таксама была прапанавана тэматычная стужка Белвідэацэнтра "Мікалай Яроменка. Пасляслоўе". На экране адна адну змянялі сцэны са спектакляў, кадры кінастужак, у якіх іграў і здымаўся Мікалай Яроменка, дэманстраваліся сямейныя фотаздымкі. Гэтыя манаграфічныя аповед перамяжоўваўся маналогамі сваякоў Мікалая Мікалаевіча, яго калег ды сяброў. Са слоў Галіны Арловай, інтэрв'ю Мікалай Яроменка ў гэтай стужцы даў за дзесяць дзён да сваёй смерці.

*На здымку: народная артыстка Беларусі Галіна Арлова.*

Повязі

# Думаем па-рознаму — дыхаем аднолькава

**У аматараў кінематографа абвяшчэнне ў Мінску Фестывалю шведскага кіно выклікала вялікую цікавасць. Чатыры прадстаўленыя кінастужкі — тры мастацкія, адна дакументальная — апраўдалі іх чаканні. Яны былі цікавымі з пункта гледжання мастацкасці і надзёнными па тэматыцы.**

Ірына АЛЯКСАНДРАВА

87-мінутны дакументальны фільм рэжысёра Стэфана Ярла "Падпарадкаванне" даследуе праблему, пра існаванне якой сярэднестатыстычны жыхар планеты, можа, нават не здагадваецца. Штодзённа, добраахвотна мы труцім свой арганізм хімічнымі рэчывамі. Яны трапляюць на нашу скуру і ў кроў не толькі з лекамі, касметыкай і ежай. Вадкасці для паласкання, інгібатары гарэння, павярхоўна-актыўныя рэчывы… "Як высветлілася, у маёй крыві некалькі соцень іншародных хімічных рэчываў. Не магу сказаць свой шок!" — дзеліцца ўзрушэннем з гледачом сам рэжысёр.

Не менш важнай сёння з'яўляецца праблема разрозненасці людзей у грамадстве. Старая Еўропа даўно ўжо адпачывае ад равенства "народных мас". Але там распачаўся іншы працэс. Разбіваючыся на асобных індывідуумаў, людзі губляюць такія важныя рысы характару, як неабыякавасць і спачувальнасць. Меладрама Фрэдрыка Эдфельда "Дзяўчынка" апавядае гісторыю дзесяцігадовай Бланкі Энгстром. Бацькі, якія лічаць сябе надта правільнымі, бо збіраюцца прыняць удзел у дабрачыннай місіі ў Афрыцы, "падкідваюць" дачку цётцы на цэлае лета. Іншае пытанне, ці патрэбна Бланка сваёй родзіцы. Цётка накіроўваецца ў вандроўку пад ветразем з прыяцелем, а дзяўчынка застаецца адна сярод заклапочаных уласнымі справамі суседзяў, выпадковых знаёмых, у бязлітасным і раўнадушным свеце дарослых.

Тыповая еўрапейская жанчына, якая жыве дзеля ўласнай кар'еры, паўстае перад гледачом у іншай меладраме — "Сумнеўна" (рэж. Марыя Блум). Увесь старанна створаны ёю навакольны антураж дзелавітасці і паспяховасці раптам ставіць пад сумненне каханне да хлопца, які зусім не належыць да яе кола, ды і наўрад ці наогул варты яе ўвагі.

Драма ж Рубена Эстлунда "Добраахвотна-прымусова" раскрывае свет людзей, якія, жадаючы выйсці за межы штодзённага жыцця, здзейсніць штосьці, што б вылучыла іх з натоўпу, робяць замах на свабоду, здароўе, жыццё іншых.



Безумоўна, звяртаючыся да тых тэм, якія вылучылі для сябе аўтары фільмаў, прадстаўленых на фестывалі, беларускія кінематаграфісты выбралі б зусім іншыя формы, іншую мову кінаапоседа і нават іншых герояў. Але праблемы, узнятыя шведамі, хвалявалі залу. А значыць, галоўная мэта арганізатараў была дасягнута.

*На здымку: кадр з фільма "Дзяўчынка".*

З-пад пяра

Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа ў рамках цыкла творчых сустрэч з рэдакцыямі часопісаў наладзіў літаратурную імпрэзу з удзелам галоўнага рэдактара "Вясёлкі" Уладзіміра Ліпскага і паэта Міколы Маляўкі. На сустрэчу з прадстаўнікамі "Вясёлкі" прыйшлі наведвальнікі летняга лагера сталічнай СШ № 73. Літаратары расказвалі дзецям пра часопіс, чыталі свае творы, а пасля спецыяльна для школьнікаў супрацоўнікі музея паказалі лялечны спектакль паводле народнай казкі "Як кот звяроў напалохаў".

**Лізавета БАГАДЗЯЖ**

Творчы багаж мазырскага паэта-песенніка Аляксандра Каляды нядаўна быў папоўнены: да трох дзясяткаў песень на яго вершаваныя радкі далучыўся яшчэ адзін твор, прысвечаны Мазырскаму нафтаперапрацоўчаму заводу. Музыку напісаў маэстра Эдуард Зарыцкі, а выканаў твор у Мазыры акадэмічны аркестр пад кіраўніцтвам М. Фінберга.

**Уладзімір ГАЎРЫЛОВІЧ**

У бібліятэцы № 3 горада Магілёва прайшоў творчы семінар для маладых паэтаў і празаікаў. Дэталёва прааналізавана творчасць дзвюх пачынаючых аўтарак. Свае вершы чытала студэнтка Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Куляшова Яўгенія Рудзько, апавяданні — выпускніца колішняга Магілёўскага педагагічнага каледжа імя К. Ушынскага Таццяна Снігірова. Аўтарам далі карысныя парады старшыня абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Дуктаў, а таксама паэты Марына Сліўко і Эдуард Мядзведзкі.

**Уладзімір САСНОЎКІН**

Прэзентацыя дэбютнай кнігі вершаў Іны Фраловай "Чакаю першы снег", якая пабачыла свет у выдавецтве "Кнігазбор", прайшла ў Доме культуры Мінскага аўтазавода. Адным з выступоўцаў, які адзначыў вартасці зборніка, быў паэт Віктар Шніп. У выкананні аўтаркі пранікнёна гучалі вершы пра вёску, любоў да роднай зямлі. Аздаблялі вечарыну артысты гурта народнай песні "Вербіца", у які, дарэчы, уваходзіць і сама Іна Фралова. Паэтка актыўна дапамагае стварэнню канцэртных праграм, піша для "Вербіцы" рэпрызы і словы для песень.

**Ганна СТАРАДУБ**

Трохдзённы Beatles-фестываль "Ob-la-ki, Ob-la-ka" прайшоў у Віцебску. У ім прынялі ўдзел музыканты з Беларусі, Расіі, Украіны і ЗША. Яны давалі канцэрты на сцэне Летняга амфітэатра. Акрамя гэтага, кожны дзень адбываліся велапрабегі ў гонар славутай ліверпульскай чацвёркі. А яшчэ ў праграму фестывалю ўваходзілі штодзённыя рэйсы па Дзвіне на цеплаходзе, на борце якога гучала музыка "Beatles", у тым ліку і ў жывым выкананні. Удзельнікамі фестывалю сталі славутая група "Акварыум" з Барысам Грабеншчыковым, беларускія групы "The Apples", "Flat", Дзмітрый Дзіброў, які, дарэчы, адкрываў мерапрыемства. Між іншым, адным з вынікаў фестывалю стала афіцыйнае запрашэнне беларускіх музыкантаў "The Apples" да ўдзелу ў "International Beatle Week", які штогод у жніўні праходзіць на радзіме "Beatles" у Ліверпулі.

**Аляксей ГАРБУНОЎ**

Юлія БАСАЛАЙ,
фота Кастуся Дробава

# Кніга набывае новы фармат

**Яна — кандыдат гістарычных навук, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, Беларускага саюза журналістаў, аўтар кніг “На ростанях дзвюх дарог”, “Радзімічы. Зямля непакораная”, “Лёсу зменлівыя аблічы”, а таксама паэтычнага зборніка “Балтыйскі сшытак”, і проста прыгожая жанчына — Наталля Голубева. Мэтанакіраваная і таленавітая, працуе шмат, хутка і якасна. Калі сустрэліся з Наталляй Аляксандраўнай, я зразумела, што нас хвалююць адны і тыя ж праблемы. І таму, як прадстаўнік моладзі, вырашыла, што нядрэнна будзе абмеркаваць іх.**

**— Усё часцей у моладзевым асяродку ўзнімаюцца праблемы сучаснай беларускай літаратуры. А што адметнае ў ёй бачыце вы?**

— Па-першае, яна працягвае заставацца шматнацыянальнай, і вельмі важна захаваць гэтую талерантнасць, як не менш важна захаваць традыцыі беларускай мовы ў беларускай літаратуры. Усведамленне сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці, да якой мы імкнёмся як незалежная дзяржава, немагчыма без усведамлення значнасці роднай мовы ва ўсіх сферах дзейнасці, і ў першую чаргу ў літаратуры, якая, як ніводны іншы кірунак, адлюстроўвае характар нацыі, яе духоўнасць. Па-другое, сучаснае беларускае слова — гэта стан інтэлекту нацыі. У апошні час пашыраецца шматжанравасць літаратуры, і гэта сведчыць пра тое, што мы ўсё ж рухаемся ў бок інтэлектуалізацыі грамадства. На прынцыпова новы ўзровень выходзіць дакументалістыка, публіцыстыка, навукова-папулярны жанр, дзіцячая, гістарычная літаратура. Гэта вельмі пазітыўныя тэндэнцыі.

**— Сярод сучаснай моладзі існуе меркаванне, што кніга ў звыклым для нас выглядзе знікне, бо яе месца зойме электронны варыянт. Ці згодны вы з гэтым?**

— Мяне зусім не бянтэжыць той факт, што ўсё большае месца ў нашым жыцці заваёўвае электронная кніга, электронны падручнік. Грамадства не стаіць на месцы, прагрэс развіваецца імкліва, а час дыктуе свае правілы. Наша жыццё стала вельмі насычаным і дынамічным, таму кожны выбірае зручны для сябе спосаб атрымання інфармацыі. Вельмі добра, што з’явілася магчымасць акрамя традыцыйнай кнігі мець яе электронны варыянт. Мне здаецца, што ў хуткім часе і нашы выдавецтвы будуць часцей выпускаць кнігі з дадаткам іх электронных версій, з прыкладаннем камп’ютарнай гульні або нейкай цікавай інфармацыі па тэме. Асабліва гэта актуальна для гістарычнай, навукова-папулярнай, дзіцячай літаратуры. Такая форма робіць інфармацыю даступнай і апаратыўнай. Гэта рэаліі нашага часу, шмат хто з нас ужо проста не ўяўляе сваё жыццё без гэтага. Дынамічны чалавек заўсёды імкнецца насыціць сваё жыццё зместам, максімальна выкарыстаць свой час, і тут без сучасных тэхналогій атрымання інфармацыі проста не абысціся. Ды і канкурыраваць на вялікім кніжным рынку сёння лягчэй, калі кніга, як гавораць, “упакаваная”, мае сучасныя атрыбуты новых тэхналогій і піяру. Таму што кніга — гэта не толькі інтэлектуальны прадукт, дзе павінны выкарыстоўвацца сучасныя падыходы да падачы матэрыялу, але і тавар. Няма сумненняў, што працэс змяншэння тыражоў выпуску кніг у іх класічным фармаце будзе няязменным. Але яна не знікне, не растворыцца ў велізарнай інфармацыйнай прасторы, будзе актуальнай хоць бы таму, што нясе жывое слова, без якога немагчыма інтэлектуальнае развіццё грамадства, як, безумоўна, і тое, што кніга стане іншай, больш інфармацыйнай і з больш дэмакратычнай яе падачай.

**— Звяртаючыся да тэмы “упакоўкі” кніг... Якія цікавыя праекты вы маглі б прывесці ў якасці прыкладу?**

— З выдавецтвам “Літаратура і Мастацтва”, дзе працуюць творчыя спецыялісты, мы падрыхтавалі, на мой погляд, цікавы праект. Гэта дзіцячая кніга — казкі, напісаныя мной на нашым, беларускім, унікальным гістарычным матэрыяле, які захоўвае нямала таямніц і загадак, не меней цікавых, чым тыя, што мы чытаем у кнігах пра Гары Потэра. Але паспрабавалі прадставіць гэты праект шматпланава. ААТ “Слодыч” выпусціла спецыяльную лінію сваёй прадукцыі па матывах казак, рыхтуецца спектакль па адной з іх. Спадзяюся, што бліскучы мастак Рыта Цімохава, з якой мне пашчасціла працаваць у гэтым праекце, зробіць выставу ілюстрацый. Праект будзе прэзентаваны ў хуткім часе, і, мяркую, стане ўзаемавыгадным для выдаўцоў, вытворцаў, гледачоў і чытачоў.



У той жа час актуальнай будзе заставацца такая з’ява, як рарытэт. Для Беларусі гэта пытанне асаблівае. Наша краіна мае вельмі старажытныя традыцыі кнігадрукавання — Кірыла Тураўскі, Францыск Скарына, Ілья Капіевіч, стваральнік грамадзянскага шрыфту, і шмат іншых, хто нёс святло асветы ва ўсе часы. Менавіта адтуль зыходзілі новыя тэндэнцыі і накірункі. Думаю, што мы і сёння будзем заставацца заканадаўцамі ў такой намінацыі, як “Мастацтва кнігі”. Унікальныя праекты сёння прапанаваны і паспяхова рэалізуюцца выдавецтвам “Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”. Такія выданні, як альбом партрэтаў Радзівілаў, кніга пра Белавежскую пушчу “Зямля сілы”, “Гісторыя беларускай кнігі”, кніга “Беларускае замежжа”, дзе ўпершыню прадпрынята спроба напісаць шырокую гісторыю беларускага замежжа, сталі рарытэтнымі яшчэ на стадыі падрыхтоўкі. Дарэчы, апошні праект “Беларускае замежжа”, выдадзены з удзелам Дэпартамента па архівах і справаводстве, вядомых беларускіх і замежных навукоўцаў, дзе я з’яўляюся кіраўніком, — гэта не толькі сама кніга, але і 24 тэлевізійныя фільмы пра знакамітых выхадцаў з Беларусі, якія зрабілі вялікі ўклад у развіццё сусветнай цывілізацыі.

Не менш цікавым будзе і праект, прысвечаны вядомаму беларускаму роду Ваньковічаў, які даў краіне і свету больш як 200 выдатных прадстаўнікоў, сярод якіх сусветна вядомы мастак Валенцій Ваньковіч і пісьменнік з сусветным імем Мельхіёр Ваньковіч. Праца над гэтым праектам, які ажыццяўляецца сумесна з Дэпартаментам па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Беларусі, Нацыянальным мастацкім музеем, і дзе я таксама з’яўляюся кіраўніком, будзе скончаная ў бліжэйшыя месяцы, але ўжо сёння да яго ёсць цікавасць.

Шмат праектаў і ў іншых выдавецтвах. Усё гэта з’яўляецца пацвярджэннем таго, што кніга ў нашым жыцці працягвае займаць важнае месца. Задача пісьменніка — падтрымліваць гэтую цікавасць, прапаноўваць якасны і цікавы інфармацыйна-інтэлектуальны прадукт.

**— Беларускі народ заўсёды з павагай ставіўся да сваіх продкаў, да мінулага сваёй краіны. І сёння, як ніколі раней, беларусу займае іх гісторыя. Добра, што ў нашай краіне шмат тых, хто займаецца даследаваннем гэтай тэмы, адным з аўтараў з’яўляецеся і вы, Наталля Аляксандраўна. Якія цяжкасці могуць напаткаць пісьменнікаў на гэтым шляху?**

— Калі літаратар прыступае да напісання твора, ён не шукае цяжкасцей, а робіць гэта з радасцю і задавальненнем, бо працуе над той тэмай, якая цікавіць яго. Калі пісьменнік бярэцца за тэму, значыць, ён валодае дастатковымі ведамі, каб яе асвятліць. Вынік залежыць ад падрыхтаванасці аўтара па праблеме і ўмення падаць яе аб’ектыўна, без суб’ектыўнага падыходу і ідэалагізацыі.

У гісторыі шмат нявывучаных праблем, таму магчымасцей для аб’ектыўнай падачы матэрыялу звышдастаткова. Галоўная складанасць — гэта час. Калі аналізуеш свае планы, разумееш, што яго так мала, а хочацца паспець зрабіць яшчэ вельмі шмат. Таму так важна не разменьвацца па драбязу, а ўмець шанаваць той жыццёвы адрэзак, які кожнаму адмераны лёсам.

Ірына ТУЛУПАВА

# Саюзная дзяржава: пошук праектаў

**На 39-й сесіі Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі, якая праходзіла ў Мінску, парламентарыі абмеркавалі вынікі рэалізацыі Канцэпцыі сацыяльнага развіцця Саюзнай дзяржавы да 2010 года і адобрылі Канцэпцыю сацыяльнага развіцця на 2011 — 2015 гады. Дзве дзяржавы — Беларусь і Расія — знаходзяць агульныя падыходы ў гуманітарнай сферы.**

Сацыяльную сферу дэпутаты абмяркоўвалі асабліва актыўна. Існуе нямала праблем — да прыкладу, у магчымасцях паступлення абітурыентаў у ВНУ дзвюх краін. У нашых дзяржавах розныя сістэмы ацэнак: у нас — 10-бальная, у Расіі — 5-бальная. Розніасць у форме іспытаў: на цэнтралізаваным тэсціраванні і экзаменах. Узнікаюць праблемы і пры выплатах пенсій. Усё гэта патрабуе дэталёвай прапрацоўкі на ўзроўні Саюзнай дзяржавы.

Таму намеснік Дзяржаўнага сакратара Саюзнай дзяржавы Іван Бамбіза пры аналізе становішча, у якім знаходзіцца сацыяльная сфера цяпер, спыніўся на пэўных часавых этапах. Так, агульнае прававое будаўніцтва ў сацыяльнай сферы актывізавалася ў 2004 годзе. Тады Савет Міністраў Саюзнай дзяржавы зацвердзіў план мерапрыемстваў па забеспячэнні роўных правоў грамадзян Беларусі і Расіі. Як вядома, у блізкіх тэрытарыяльна дзяржавах жыхары найчасцей сустракаюцца ды вырашаюць праблемы ўладкавання свайго жыцця, зыходзячы з простых патрэб: працягнуць род і жыць на зямлі годна. Гэтаму спрыяюць беларуска-расійскія дамовы пра свабоду выбару месца жыхарства, пра супрацоўніцтва ў галіне сацыяльнага забеспячэння і парадку выплаты пенсій пры пераездзе пенсіянераў у іншую дзяржаву, пра ўзаемны парадак аказання грамадзянам медыцынскай дапамогі, пра выкарыстанне міграцыйнай карты адзінага ўзору ды іншыя.

Працуюць і дзве сумесныя праграмы па пераадоленні наступстваў Чарнобыльскай катастрофы. Дастаткова згадаць: з выкарыстаннем саюзных сродкаў уведзены ў дзеянне Гродзенскі завод медпрэпаратаў, Рэспубліканскі цэнтр радыяцыйнай медыцыны ў Гомелі, рэканструяваны Радыялагічны цэнтр Расійскай акадэміі навук у Обнінску.

Зусім нядаўні дакумент: 27 красавіка гэтага года на ўзроўні адпаведных міністэрстваў падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве ў сферы аховы здароўя і медыцынскай навукі.

Адказваючы на пытанне карэспандэнта “ЛіМа”, які са знакавых новых праектаў сацыяльных праграм можна назваць, беларускі парламентарый Павел Здановіч адной з галоўных вылучыў праграму працы ў галіне медыцыны па выкарыстанні ствалавых клетак. Пад гэтую праграму выдаткоўваюцца сродкі, яна будзе рэалізоўвацца. Шэраг праграм, якія цягам 15 гадоў сцвердзіліся і з’яўляюцца традыцыйнымі, пераходзяць з года ў год. Так, паводле Паўла Здановіча, ніхто не стане спыняць рэалізацыю праграм падтрымкі ветэранаў па аздараўленні і аказанні медыцынскіх паслуг, турызме — гэта ўсё будзе прапрацоўвацца і надалей. Таксама як і клопат пра моладзь Саюзнай дзяржавы, правядзенне фестываляў і алімпіяд.

Дарэчы, на пасяджэнні ў Мінску старшыня камісіі Парламенцкага Сходу па сацыяльнай палітыцы, навуцы, культуры і гуманітарных пытаннях Віктар Вадалацкі прадставіў членам Савета праект Канцэпцыі стварэння Савета па справах моладзі. Праект у асноўным адобраны, ён будзе дапрацаваны і прадстаўлены да разгляду на чарговае пасяджэнне Савета Парламенцкага Сходу.

Варта зазначыць, што сход праходзіў у няпросты час для эканомік абедзвюх дзяржаў. “Я б не драматызаваў сітуацыю ў Беларусі, — заўважыў член камісіі Парламенцкага сходу па эканамічнай палітыцы, расійскі дэпутат Анатоль Локаць. — Мы атрымліваем праз СМІ інфармацыю, быццам тут усё дрэнна. Я патраціў час, каб азнаёміцца са становішчам у вашай краіне, паглядзеў, што ёсць у магазінах. Напоўненасць паліц — вялікая, людзі купляюць тое, што ім трэба. Убачанае настроіла нас на пазітыўны лад. Само правядзенне сесіі ў такія дні — важны палітычны момант. Калі хочаце — гэта наша палітычная падтрымка. Мы прыехалі ў краіну, дзе працуе эканоміка і ў якой ёсць будучыня”.

Раіса БАРАВІКОВА

**Ці не Аскару Уайльду належыць прыблізна такі выраз, што прычына нецікавасці літаратуры хаваецца ў тым, што, скажам, старажытныя гісторыкі давалі чытачу чароўныя вымыслы ў выглядзе фактаў, а шматлікія раманісты, наадварот, прапануюць грубыя факты замест чароўнага вымыслу… Вядома, з гэтым можна не пагадзіцца, але разам з тым варта было б задацца пытаннем, ці не ў тым жа "чароўным вымысле" тоіцца загадка незвычайнай прыцягальнасці твораў Уладзіміра Караткевіча альбо Людмілы Рублеўскай?**


"Восень"

# Таямніца схаванага сэнсу

Але я не пра літаратуру, дакладней, пра яе ўскосна, таму што хачу павесці гаворку пра выдатнага мастака Міколу Селешчука, які і не патрабуе асаблівых эпітэтаў. Ён — проста Мікола Селяшчук: вядомы і знакавы, зоркавы і таямнічы… Пра яго мы згадалі з Яўгенам Коктышам, блізкім Міколавым сябрам, у сваёй "літаратурнай вандроўцы", і гэтага аказалася мала, ва ўсялякім выпадку для мяне. Коктыш заінтрыгаваў сваім расповедам, што, каб даць назву той ці іншай карціне, мастак звяртаўся да паэзіі, да таго мноства паэтычных зборнікаў, якія яму даводзілася ілюстраваць, і там нярэдка сярод радкоў натрапляў на патрэбную назву. Мне стала цікава: Мікола ж "апрануў", дакрануўся сваім талентам і да маіх дзвюх кніжак паэзіі, а раптам пад яго палотнамі натраплю і на свой уласны радок. Схацелася ўжо ў каторы раз перагарнуць кнігу ўспамінаў пра яго "Гучанне музыкі нябёсаў"…

Перагарнула… І літаральна захварэла на адно палатно: "Звыкаюся з сабой і цішынёй" (1989 г.). Вось яна, тая магія ўздзеяння яго такіх дзіўных карцін! А што да згаданай, дык яна не проста прыцягвае, не проста вабіць, хочацца ўпісацца, укруціцца, улезці ў тую дымку, у тую памарась позняй восені ці ранняй зімы. Падобнае адчуванне можа быць чыста ўзроставае, выключнай цішыні і адзіноты хочацца ў пэўным узросце, калі ад дзіўнасцей жыццёвых усё ў табе прагне схавацца ў дзіўнасці манашыя, дзе свая філасофія, сваё бачанне свету і быцця. Але ж падобнае нярэдка адчуваеш, калі ўзіраешся і ў іншыя яго палотны, такія, як "Зағнаны анёл", "Аднойчы прапывалі", "Падарожжа ў Афон", "Спякотны вечар з вясёлкай на крэсле", "Злашчасны адвячорак"… Яны дыхаюць, яны жывыя, вельмі рэдкая энергетыка была ў Міколы Селешчука, ёю пранізаны палотны. І мела рацыю Наталля Шаранговіч, калі пісала пра яго: "…Мікола Селяшчук быў сябрам усім, хто яго ведаў".

Ён прыцягваў да сябе людзей, і не толькі сваёй такой загадкавай і заўсёднай усмешкай… Усмешка можа быць і дзеля абароны. Сіла прыцягнення сыходзіла ад таямніцы, якою ён быў адораны, і якую, відаць, так ніхто ў ім і не адкрыў да канца, хоць некаторым яна і прыадкрывалася. Тады тыя, некаторыя, абагаўлялі яго палотны, іншым яны былі незразумелыя… Сам жа Селяшчук у адной з анкет напісаў пра сябе: "…Люблю ілюстраваць паэзію і дзіцячую літаратуру, дзе заўжды прысутнічае таямніца схаванага сэнсу, аб'яднаная складанейшымі ніцямі асацыяцый, вельмі тонкімі адценнямі намёкаў, лёгкасці і зачараванасці". У чым жа яна, гэтая таямніца схаванага сэнсу? Асабіста я ў Селешчука знаходжу яе ў адзінкавых дэталях. Нярэдка слізгаеш позіркам па жаночых постацях незямной прыгажосці, якія на палатне адразу кідаюцца ў вочы і ашаламляюць фантазіяй мастакоўскага пэндзля, але спыняеш гэты самы позірк на някідкай дэталі, упісанай у кампазіцыю. Як тут не згадаць карціну, датаваную 1992 годам, дзе на цёмным фоне бачыш фантастычную маладую жанчыну ў стракатым уборы, сатканым не з аднаго вобраза, а спыняешся і доўга ўзіраешся ў купку дрэў і блакітную плямку стаўка, што, як бышам у нейкім гоголеўскім ахоўным коле (за якое ніякай земной нечысці не пранікнуць), знітавана з яе мілай галоўкай. Дарэчы, амаль такая ж купка дрэў і ў карціне "З твайго саду да мяне на агеньчык"… Таемныя матылі, цёплае святло той самай лямпы-газоўкі з бацькоўскай хаты, з маленства, а над імі — зноў кола, у якім купка дрэў… А можа, гэта і не ахоўнае кола, можа, гэта проста адлюстраванне Поўні, дзе ніякіх кратараў, а проста купкі зямных дрэў… А чаму б і не? Маляваў жа некалі Язэп Драздовіч "Панараму горада Трывеж на Месяцы"! Але мне чамусьці думаецца, што здаля, недзе каля далягляду, менавіта так (купкай дрэў) глядзіцца адзінокі сялянскі хутар… У сваім дзяцінстве на Берасцейшчыне мне даводзілася бачыць шмат такіх хутароў, якія пачалі зносіць, далучаць да вёсак недзе толькі ў сярэдзіне пяцідзясятых. Дык можа, гэта момант з яго маленства, які назаўжды застаўся ў памяці? Можа, такім і бачыў здаля ён той самы хутар Гусак, дзе калісьці нарадзіўся?! Але гэта толькі маё асабістае бачанне-меркаванне, ісціну ведае адно душа Міколы.



Дарэчы, яшчэ пра Берасцейшчыну… Неяк пры выпадку ў сваёй мінскай кватэры я паказала кніжку "Гучанне музыкі нябёсаў" знаёмай маскоўскай паэтцы. Зразумела, яна ўразілася жывапісам Селешчука, алe і пытанняў было шмат. Найперш: чаму так многа казачнай кваецістасці на асобных палотнах? Як і чым гэта вытлумачыць? Вялікае мастацтва не патрабуе тлумачэнняў — ім трэба проста захапляцца. Пра гэта ведаў, ды нават і казаў, сам Селяшчук (на пытанне журналісткі Наталлі Громавай: "Многія лічаць, што зразумець вашы карціны немагчыма…" адказаў: "А хто можа ўзяць на сябе смеласць сцвярджаць, што можа да канца зразумець жыццё?"). Так, жыццё… Хочацца дадаць, жыццё нашых людзей, поўнае глыбінных традыцый, звычаяў… Ну вось, скажам, гляджу на "Нацюрморт" (1995 г.) альбо на карціну "Дзве фігуры ў інтэр'еры" (1993 г.) — Яна і Ён, а на другім ярусе над імі — дзівосныя кветкі ў вазе колеру ліловатага адвячоркавага неба. Далібог, падобныя кветкі бачыла я ў дзяцінстве на Берасцейшчыне… Імі ўпрыгожвалі-ся галінкі, якія, у сваю чаргу, віты-перавітыя гэтымі кветкамі, упрыгожвалі вялікія вясельныя караваі, што выпякаліся з шышачкамі… Каравай дзялілі, шышачкі ўручаліся шматлікім сваякам паводле ранжыру і раскладу, але камусьці выпадала шышачка і з той самай дзівосна-кветкавай галінкай… Мне чамусьці думаецца, што кветкі Колі Селешчука — адтуль, ад тых вясельных караваеў…

Нас, напэўна, і наблізіла адно да аднаго Берасцейшчына. Мікола родам з Маларыцкага раёна, я — з Бярозаўскага, і нарадзіліся мы ў адным годзе, значыцца, і дзяцінства ў нечым у нас было падобным. А да ўсяго і натуры блізкія — я таксама ўсмешлівы чалавек, і ў адчуваннях нярэдка мы сыходзіліся. Быў дзесьці канец 1976 года… Мікола па маёй просьбе ўзяўся праілюстраваць маю другую кнігу паэзіі "Слухаю сэрца". Вельмі цікава было пачуць яго думку наконт рукапісу, — гэта ж ужо гатовая кніга, дзе першыя чытачы — выдавецкі рэдактар ды мастак… Селяшчук адказаў літаральна адным сказам: мне спадабаўся верш… і назваў яго. Дзіўна, на гэты кароценькі верш ніхто ніколі не звяртаў ніякай увагі, адно што сама я была да яго чамусьці нераўнадушная. Ды вось і Мікола…

*Выпадкова,*
*без пэўнай прычыны,*
*спачувальна і не без ласкі,*
*мне сказала твая жанчына:*
*— Вы, як ліска з японскай казкі.*

*Муж чытаў мне яе няспешна,*
*надта ж простая тая навука:*
*за празмерна салодкай усмешкай*
*не інакш як сардэчная мука.*

*Я нічога ў адказ не сказала,*
*ды тужэй зацягнула пасак…*
*Там, табою забыты ў зале,*
*ляжыць томік японскіх казак.*

"Японскі матыў" сустракаецца і ў Міколы, праўда, больш позняга перыяду — тая ж карціна "Ноч у аэрапорце Анталія" (1990 г.). Ды і ў яго афармленні цудоўнай кнігі паэзіі Жэні Янішчыц "Пара любові і жалю" на нейкай старонцы праяўляецца абрыс галінкі японскай сакуры… Але гэта ўсё толькі моманты розных творчых перыядаў адной жыццёвай стыхіі, над якой заўжды панавала толькі адно неба… роднае! І колькі кранальнай любасці тоіцца ў яго палатне "Дзяўчына з Палесся", дзе такі паэтычна-празрысты, супакойлівы палескі пейзаж у пору восеньскага адцвітання! Гэта напэўна і ёсць тая самая чароўная яснага геніяў.

У Міколы Селешчука сустракаецца такое выказванне: "Дэманы і чары (чарадзействы) гэтага фантастычнага свету, яснае пачуццё рэальнасці і самай безупыннай фантастыкі. Жыццё знаходзіцца паміж двума палюсамі, двума касцякамі светабудовы (але ў гэтым палягае адзінства): святло — цемра, прыгажосць — выродлівасць, паміж грахом і святасцю. Гэтыя супрацьлеглаcці абавязкова пераходзяць адно ў адно". Як, напэўна, і само мастацтва: паэзія ўплятаецца ў жывапіс, апошні ўплывае на паэзію, нярэдка на ўзроўні падсвядомасці, дзе ўжо нават прысутнічае штосьці містычнае. У мяне ёсць тры вершы, нейкім чынам звязаныя з Міколам Селешчуком, і цяпер з аддаленасці, калі я ўжо ўспрымаю іх як старонні чытач, мне яны бачацца нейкай містычна-трагічнай навелай у радках, дзе прысутнічае завязка, кульмінацыя і драматычная развязка. Першы верш з эпіграфам ад Міколы "З твайго саду да мяне на агеньчык", які заканчваецца радкамі: "…Перадам з душы ўтрапёнасць слову, што ірвецца спуджана здалёк, у шыпшыннік, пад тваю ахову, быццам саду лёгкі матылёк"… І вось такі працяг, такое развіццё пачуццяў у другім вершы з кнігі "Каханне": "…Выблісне ўся ў незабудках лагчына, і бераг агучыць усплёскам рака, гляджу на акно, там смяецца жанчына, бы на карціне Селешчука. Узнесены к небу будынак на кручы, жаласна-жаласна скрыпка гучыць… Хай плача, бо, можа, жанчыну навучыць, як тут небяспечна смяяцца ўначы". І апошні верш, які адкрывае кнігу "Сад на капялюшыку каханай", і, у прынцыпе, пісаўся пад яе (на вокладцы ж таго выбранага карціна Селешчука "Восень"):

*Я памаўчу. Ты гавары*
*сваёю шапатлівай мовай,*
*пакуль завейнасцю ліловай*
*ноч да канца не дагарыць.*

*Нішто не вернецца назад.*
*Пачуцці нашы*
*ў дымцы цьмянай,*
*а ты малюеш зноўку сад*
*на капялюшыку каханай.*

*Кране тугою краявід*
*пад боскім зоркавым кілімам,*
*і плакаць хочацца наўзрыд*
*аб нечым тайным,*
*немагчымым...*

Тайнай… Таямніцай, па вялікім рахунку, ахутана жыццё Міколы Селешчука. Дзяцінства на аддаленым ад вялікага жыцця хутары, поўным таемных шолахаў і абрысаў у паўзмроку адвячоркаў… Таямніца бачыцца і ў тым, што на нейкім этапе пачаў аддаляцца ад графікі і вельмі хутка цалкам перайшоў у жывапіс, дзе яго чакаў непадробны сапраўдны поспех. І потым… на самым-самым узлёце такі трагічны сыход з жыцця. Патрапіў пад хвалю… забрала вада — самая таемная стыхія. Не могуць не пераварочваць душу радкі з успамінаў мастачкі Раісы Сіплевіч, з якой са студэнцтва блізка сябраваў Мікола: "… Кожны дзень я прыходзіла ў яго майстэрню, карміла котку, прыбіралася, палівала кветкі. 26 верасня зайшла зусім позна вечарам. Зрабіла ўсё, як заўсёды. Падышла да календара, каб падлічыць, колькі дзён засталося да вяртання Колі.

Крычала котка.

Калі я прыехала дадому, патэлефанавала Вольга Кірэева і сказала, што Колі больш няма…"

Узіраюся то ў адно, то ў другое палатно… Пад канец жыцця ў Селешчука — густыя, прыцемненыя фарбы, але на іх нязменна праглядваецца: M. Sielia. Пад такім прозвішчам праз час, у наступных стагоддзях, магчыма, ён застанецца для далёкіх замежнікаў. І гэта можа стаць яшчэ адной таямніцай, ключ да раскрыцця якой у нашых руках, у нашым усведамленні, што беларус Мікола Селяшчук — вялікі мастак і заўжды будзе заставацца ў нашай памяці, як і належна вялікім.

Вольга ПАСІЯК

# ЛіМ: 1932 год

**Лёс вельмі непрадказальны. Здаецца, наша жыццё складаецца з шэрагу нечаканасцей, але, калі зазірнуць глыбей, не застаецца сумнення: нічога ў гэтым свеце не адбываецца выпадкова. У кожнай падзеі ёсць пэўныя наступствы, прычыны і місія. З'яўленне газеты "Літаратура і Мастацтва" амаль 80 гадоў таму таксама не стала выключэннем…**

1932 год парадаксальны па сваёй сутнасці. З аднаго боку мы ведаем яго як "рубеж першай пяцігодкі", 15-годдзе Кастрычніцкай рэвалюцыі, год "трэцяй бальшавіцкай вясны". А з другога — як перыяд нашай гісторыі, насычаны знакавымі культурнымі падзеямі, якія, на жаль, былі жорстка абмежаваны савецкай ідэалогіяй. Багата ў "ЛіМе" матэрыялаў па кожным з гэтых аспектаў, але напярэдадні юбілею прапаную, гартаючы нумары першага года выдання газеты, узгадаць найважнейшыя падзеі культурнага асяродка таго часу.

Што азначае гэты год для савецкай культуры? Створана першая рабочая група БелАПП, 5-годдзе святкуюць БДТ-2 і Яўрэйскі Дзяржаўны Тэатр БССР, а яшчэ "*Гэтымі днямі выйшаў з друку X і апошні том "Малой советской энциклопедии". Тыраж выдання дасягнуў каля 100 тысяч, у той час, калі, напрыклад, "Брытанская энцыклапедыя" мае толькі 10 тысяч*" (ЛіМ, 1932, 26 лютага). Ні адна падзея не абыходзіць рэдакцыю. Праз культурныя дасягненні, разумелі саветы, людзі адчуваюць сваю згуртаванасць, таму трэба акцэнтаваць увагу менавіта на велічы краіны, яе непераможнасці.

Ужо з першага нумара "ЛіМ" даў магчымасць сваім чытачам адчуць уключанасць у сусветны культурны працэс. Чаго варты артыкул пад назвай "*Ваша слова павінна загучэць*" *(Адкрыты ліст Ромэну Роляну, Бэрнарду Шоў, Стэфану Цвейгу)*" (ЛіМ, 1932, 26 лютага). Асвятляліся і важнейшыя падзеі, якія закраналі як далёкія ад Савецкага Саюза культуры, так і цесна звязаныя з яго ідэалогіяй: "*У сакавіку месяцы амерыканская камуністычная газэта на яўрэйскай мове (штодзенная) "Моргэн Фрайгайт" святкуе свой дзесяцігадовы юбілей існаваньня*" (ЛіМ, 1932, 6 сакавіка); "*Выданне біяграфій выдатных гістарычных дзеячаў*" (Дантэ, Байран, Мальер і іншыя).

Нягледзячы на няпростыя адносіны з Захадам, прадстаўнікі савецкага мастацтва разумелі, што ў так званай "буржуазнай культуры" ёсць што пераняць і пераацаніць. Так, у апошнім нумары за 1932 год чытаем: "*Патрэбна вучыцца ў буржуазных майстроў сусьветнага значэньня. Паглядзець, як яны вучыліся, як працавалі над сабой і над сваімі творамі*"; "*Мастак, акрамя умення назіраць, акрамя тонкага ўспрыняцця і разумення жыццёвых з'яў павінен умець і адбіваць іх*" (ЛіМ, 1932, 28 снежня).



ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

№ 1 1932 Менск 26 лютага

ЦАНА АСОБНАГА НУМАРУ 5 КАП.

ОРГАН ФЭДЭРАЦЫІ АБ'ЯДНАНЬНЯЎ САВЕЦКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ І ГАЛОЎМАСТАЦТВА БССР

Прывітаньне ЦК КП(б)Б газэце „Літаратура і Мастацтва"

ЦК КП(б)Б шле бальшавіцкае прывітаньне газэце „Літаратура і Мастацтва" у сувязі з выхадам першага нумару.

ЦК упэўнены, што газэта будзе сапраўдным баявым органам у змаганьні за генэральную лінію партыі, за ленінскую нацыянальную палітыку, за гегемонію пролетарскай літаратуры БССР, у змаганьні за бальшавіцкую партыйнасьць пролетарскага мастацтва, за стварэньне літаратуры і мастацтва—пролетарскага зьместам і нацыянальнага формай.

Сакратар ЦК КП(б)Б ШАРАНГОВІЧ.

Змагацца за магнітабуды літаратуры і мастацтва

Усе сіл… супроць…

Ваша слова…

Адкрыты ліст Ромэну Р… Стафану Цвэйгу

Важным культурным працэсам стала прасоўванне на чытацкі суд літаратуры Заходняй Беларусі. Але "дзякуючы савецкай таталітарнай сістэме" тут былі свае асаблівасці, якія выдатна прасочваюцца ў матэрыяле А. Салагуба "*Літаратурны фронт Заходняй Беларусі*": "*Літаратура — гэта зброя ў руках лягераў, якія між сабой змагаюцца*"; "*Наталля Арсеньева, Аўген Бартуль, Х. Ільляшэвіч, М. Машара, Марвы — гэта актыўныя аружаносцы беларускай контррэвалюцыі ў літаратуры, сьпявакі беларускай "Пагоні" — сымбалю беларускай буржуазнай дзяржаўнасці, рэакцыйныя пісакі, паборнікі рэакцыі і папоўшчыны — актыўныя ворагі Савецкай Беларусі, пагромшчыкі (Бартуль, Ільляшэвіч) культурна-асветніцкіх організацый вызваленчага руху ў ЗБ (Т-ва Беларускай Школы і інш.)*" (ЛіМ, 1932, 26 лютага).

Узгадваюцца і словы знакамітага фізіка П. Капіцы: "Сродкі масавай інфармацыі не менш небяспечныя, чым сродкі масавага знішчэння". Як бачым, з літаратурнага працэсу 1932 года аўтаматычна выключаўся шэраг таленавітых творцаў. Але нават такі "чорны піяр" меў станоўчы вынік — пра гэтых людзей ведалі, іх творчасцю цікавіліся.

Дарэчы, калі казаць пра своеасаблівую рэкламу дзеячаў культуры, ужо ў 1932 годзе дзякуючы з'яўленню "ЛіМа" многія пісьменнікі і выданні, якія падтрымлівалі савецкую ідэалогію, павысілі свой чытацкі рэйтынг. Для таго, каб "лінія партыі" праводзілася менавіта так, як гэта бачылася "зверху", піша даследчык Валянцін Мазенец, у СМІ час ад часу накіроўваюцца надзейныя і загартаваныя людзі. Старонка за старонкай трапляюцца публікацыі Б. Каваленкі "*Платон Галавач*", Р. Мурашкі "*Ці баяздольная часопісь "Маладняк"?*", А. Кучара "*Уладзімер Хадыка*", "*Новая часопісь "Мастацтва і Рэвалюцыя"*" і многія іншыя. Выдзяляюцца цэлыя развароты на матэрыялы пра 20-годдзе газеты "Правда", 15-годдзе "Звязды", 40-годдзе літаратурнай дзейнасці М. Горкага. Асобныя нумары за 1932 год прысвечаны 50-годдзю Я. Купалы і Я. Коласа.

У чарговым нумары трапляю на рубрыку "*Творчы агляд маладзёжнай літаратуры*". Крытыка творчасці маладых аўтараў зыходзіць з савецкіх пастулатаў, але тым не менш яна робіць пачынаючым пісьменнікам і паэтам нядрэнную рэкламу: "*…Чаротава "Камсамолія" ў той час з'явілася першым гучным мастацкім водгукам беларускай паэзіі на камсамольскую тэматыку*"; тут жа пра верш Т. Кляшторнага: "*Тут ужо сюсюканьне проста пераходзіць у трацкісцкі авангардызм (камсамол, а не партыя "на чале (!) сусьветнага імкнення")*" (ЛіМ, 1932, 6 сакавіка).

Менавіта на старонках "ЛіМа" за 1932 год чытачы пазнаёміліся з творам М. Зарэцкага "Вязьмо" і К. Чорнага "Бацькаўшчына". Важная роля адводзіцца і павышэнню ўзроўню беларускага кіно. Газета сыпле загалоўкамі "*Кіно-мастацтва на ўзровень задач сацыялістычнага будаўніцтва*", "*Некалькі слоў пра кіно-кадры*", "*На кінафабрыцы "Савецкая Беларусь"*. Тэме кінематографа прысвечаны многія артыкулы: "*У Бабруйску 3-га красавіка адбылася першая конферэнцыя кіно-глядачоў*"; "*Замежная буржуазная халтура з удзелам Дуглас Фэрбэнксаў, Гарольд Лёйдаў знаходзіла шырокую рэкламу, у той час, як лепшыя савецкія вытворчыя фільмы ("Чалавек застаўся адзін", "Вясёлае жыццё", "Суд павінен працягвацца") праходзілі незаўважанымі*" (ЛіМ, 1932, 21 красавіка).

Яшчэ адной супярэчлівай падзеяй 1932 года стаў крок да стварэння "адзінага саюза савецкіх пісьменнікаў" — "*Пастанова аб роспуску літаратурна-мастацкага згуртавання "Узвышша"*", апублікаваная на старонках "ЛіМа": "*…літаратурнае згуртаванне "Узвышша", дзякуючы сваёй арганізацыйнай вузкасці і замкнутасці, ня маючы перспектыў росту, тых задач, якія стаяць сёння перад пралетарскай і савецкай літаратурай, з поспехам выконваць ня можа*" (ЛіМ, 1932, 18 сакавіка).

Як бачым, з'яўленне "ЛіМа" нельга назваць выпадковасцю, бо менавіта на долю гэтага выдання выпала супярэчлівая задача — адстойваць правы і інтарэсы культуры насуперак шматлікім абставінам, і ў той жа час павышаць папулярнасць савецкай ідэалогіі. Што з гэтага атрымалася? Паглядзім далей на прыкладзе тых нумароў газеты, што дайшлі да нас праз гады, таму сустрэнемся ў… 1937-ым (газета з 1933 па 1936 гады не захавалася).

# Сцішылася поле, самотна на душы

Не стала яшчэ аднаго прадстаўніка старой пісьменніцкай гвардыі — адышоў у вечнасць вядомы беларускі празаік, нарысіст Сцяпан Кухараў. Развітваецца Сцяпан Іванавіч з гэтым светам, нейкі месяц не дажыўшы да свайго 92-годдзя. Што ж, Усявышні спагадліва паставіўся да яго: рэдка каму ўдаецца дасягнуць такога жыццёвага рубяжа. Хоць калі падумаць, то ў гэтым нічога дзіўнага. С. Кухараў мусіў жыць не толькі за сябе, а і за тых хлопцаў, разам з якімі змагаўся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны і якія не дажылі да светлага дня Перамогі. Ён жа, хоць і неаднойчы глядзеў смерці ў вочы — і тады, калі быў партызанскім сувязным, і асабліва на фронце, прайшоўшы шлях ад Беларусі да Берліна, — выжыў. Выжыў, каб не проста жыць, а жыць ярка, паўнакроўна, з вялікай творчай аддачай.

Хоць упершыню выступіў з артыкулам у краснапольскай раённай газеце "Чырвоны сцяг" яшчэ ў 1934 годзе, самасцвярджацца ў літаратуры пачаў у пасляваенны час, працуючы ў рэдакцыях газет "Мінская праўда", "Рудзенская праўда", "Настаўніцкая газета". Пасля чаго дваццаць шэсць гадоў аддаў часопісу "Маладосць": пачынаў літаратурным супрацоўнікам, пайшоў на пенсію з пасады рэдактара аддзела нарыса і публіцыстыкі.

Шмат пісаў сам, але з імпэтам і натхненнем падтрымліваў і маладых аўтараў, многія з якіх, друкуючыся ў "Маладосці", прайшлі свайго роду школу Кухарава. А школа яго — гэта тое высокае майстэрства, калі дакументальны жанр сваёй прывязанасцю да факта не стрымлівае мастакоўскія мажлівасці аўтара, не трымае яго ў палоне, а разнявольвае, дазваляючы пераходзіць да шырокіх абагульненняў, закранаць жыццёва важныя праблемы, і — не ў апошнюю чаргу — ствараць партрэты лепшых нашых сучаснікаў.

Нарыс-партрэт, дарэчы, быў адным з найбольш любімых жанраў С. Кухарава. Пра тое, наколькі ўпэўнена адчуваў сябе Сцяпан Іванавіч у ім, засведчылі шматлікія публікацыі не толькі ў "Маладосці", а і ў іншых выданнях. Лепшыя з гэтых нарысаў увайшлі ў кнігі "Незабыўныя сустрэчы", "Людзі крылатага ўзросту", "Ад нашага карэспандэнта", "Жыццё-легенда" і іншыя. Цягам часу з С. Кухарава-нарысіста вырас С. Кухараў-празаік. Ягоная проза ўвабрала ў сябе ўсё тое лепшае, што было ў яго нарысістыцы, публіцыстыцы, але разам з тым раскрылася і іншымі важнымі якасцямі — такімі, без якіх не бывае сапраўднай літаратуры. У прозе С. Кухарава настраёвасць, адпаведная лірычная падсветка, а перад усім гэтым — жывыя паўнакроўныя чалавечыя характары, само жыццё ва ўсёй шматзначнасці і шматколернасці ягоных праяў. Нарэшце, гэта той неабсяжны свет, які можа раскрыцца толькі ў таго, хто мае Божы дар, дасканала валодае пяром. Свет гэты ў кнігах С. Кухарава "Бацькавічы", "Суніцы для сына", "Сцішанае поле" прываблівае да сябе, як прыцягвае ўсё тое, што табе роднае, блізкае, дарагое.

Сцішылася поле на роднай Сцяпану Іванавічу Краснапольшчыне. Самотліва на душы ўсіх нас, хто ведаў яго — цудоўнага пісьменніка і чалавека. Але калі кажаш С. Кухараву "Бывай!", адно ўсцешвае: напісанае застаецца.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# Ад гісторыі да сучаснасці

Тацціяна ШАБЛЫКА

Значная частка публікацый чэрвеньскага нумара часопіса "Беларуская думка" прысвечана трагічнай даце айчыннай гісторыі — 70-годдзю з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны. У поле зроку аўтараў трапляюць пытанні ідэалагічнага, ці яшчэ шырэй — духоўнага процістаяння войскаў вермахта і Чырвонай Арміі ў пачатковы перыяд вайны (Аляксандр Гура. Бітва за розумы); праблемы дакладнасці падліку чалавечых страт у час ваеннага ліхалецця (Барыс Далгатовіч. Лічбы памяці); адшуканыя рэдкія дакументы, якія дазваляюць праліць святло на ролю Веры Харужай у стварэнні Віцебскага падполля (Ніна Дарафеенка, Анатоль Дулаў. У адпаведнасці з праўдай гісторыі); сумныя праявы захаплення фашысцкай атрыбутыкай сярод нашых сучаснікаў (Вячаслаў Бандарэнка. Прывабнасць зла).

Сярод артыкулаў ваеннай тэматыкі асаблівай увагі заслугоўвае даследаванне гісторыка Ірыны Варанковай "Мінская эпапея. Чэрвень 1941-га", якое расказвае пра першыя дні Вялікай Айчыннай вайны ў сталіцы БССР. З архіўнай дакладнасцю, але адначасова ярка і вобразна, аўтар вымалёўвае, здаецца, невялікі адрэзак часу — з 22 па 28 чэрвеня — які быў насычаны лёсавызначальнымі падзеямі ў жыцці мінчан. Працяг знаёмства з унікальнымі матэрыяламі адбудзецца ў ліпеньскім нумары "Беларускай думкі".

Артыкул кандыдата палітычных навук Яўгена Падлеснага працягвае абмеркаванне праблемы самаідэнтыфікацыі беларускай нацыі. Сама яго назва "Беларусы і ліцвіны: ці можна вырашыць спрэчку?"сведчыць пра палемічны характар публікацыі.

У рэчышчы абмеркавання актуальных палітычных праблем прайшла ў Мінску міжнародная навуковая канферэнцыя "Перспектывы "Усходняга партнёрства". Эксперты з розных краін (сярод іх быў і галоўны рэдактар часопіса "Беларуская думка" Вадзім Гігін) сабраліся, каб паразважаць пра тое, як навуковая і грамадзянская супольнасць на Захадзе ўспрымае беларускую мадэль развіцця. Публікацыя па матэрыялах гэтай сустрэчы надрукавана пад назвай "Беларусь — Еўрасаюз: новыя бар'еры і новыя магчымасці".




Журналісты часопіса працягваюць адкрываць чытачам імёны патрыярхаў айчыннай навукі. На гэты раз у артыкуле Сняжаны Міхайлоўскай прадстаўлены жыццёвы шлях і навуковая дзейнасць члена-карэспандэнта НАН Беларусі, доктара юрыдычных навук, прафесара Віктара Семянкова. Нягледзячы на церні часу, марам вясковага хлопца з Мсціслаўшчыны пра навуковую кар'еру было наканавана спраўдзіцца...

У часопісе таксама можна прачытаць меркаванні аўтарытэтных экспертаў па розных аспектах сітуацыі на спажывецкім рынку Беларусі (Сальда ў мяшку не ўтоіш). У раздзеле "Крытыка і бібліяграфія" змешчана рэцэнзія доктара філалагічных навук А. Гіруцкага на кнігу У. Мартынава "Культуралогія. Тэорыя культуры: вучэбны дапаможнік". Рэцэнзент характарызуе метадалагічныя прынцыпы, якія вызначылі асаблівасці кнігі, паэтапна разглядае спецыфіку развіцця культуралагічнай думкі пачынаючы з міфалагічных уяўленняў пра культуру і заканчваючы сучаснасцю.

Марыя ДАНІЛЕВІЧ,
Леся ВАШКІВ,
Цярнопаль

# Шаўчэнкаўскі код

**Шаладонава Ж. С. *Духоўныя спектры агню. Тарас Шаўчэнка і беларуская літаратура пачатку XX ст.: Манаграфія. — Мінск: Беларуская навука, 2009. — 191 с.***

**Тарас Шаўчэнка — гэта постаць, якая не толькі прыцягвае ўвагу чытачоў ужо трэцяе стагоддзе, але і аб'ядноўвае вакол сябе даследчыкаў. Асабліва радуе, што колькасць астатніх сутнасна павялічваецца імёнамі літаратуразнаўцаў суседніх еўрапейскіх дзяржаў. Так, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі Жанна Шаладонава апублікавала ў 2009 годзе працу пад знакавай назвай "Духоўныя спектры агню. Тарас Шаўчэнка і беларуская літаратура пачатку XX ст.", у якой сінтэзавала шматгадовыя пошукі ў галіне беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей, пазначаных уплывам творчасці Кабзара.**

Інтэнсіўнае развіццё беларускага пісьменства на мяжы XIX і XX стагоддзяў у даследаванні прачытана з пункта погляду "скіраванасці літаратуры да нацыянальнага, этнічнага і ўніверсальнага пад уплывам сілавога поля традыцый геніяў сусветнага маштабу, духоўных прарокаў, такіх, як Дантэ, Шэкспір, Пушкін, Міцкевіч, Шаўчэнка".

Першы раздзел даследавання — гэта актуальная, вельмі інфарматыўна насычаная літаратурная карта, на якой пазначаны і пракаменціравана (што асабліва прыкметна!) узаемаадносіны Шаўчэнкі і Беларусі. Той парытэт, якога ўдалося дасягнуць даследчыцы ў гэтай частцы працы, уражвае, а патлумачаная гісторыя пытання ўяўляе своеасаблівы энцыклапедычны даведнік, важны і неабходны для далейшых даследаванняў, сведчыць пра навуковую кампетэнтнасць аўтаркі.

У другім раздзеле ("Мастацкі экскурс у XIX ст.") Ж. Шаладонава аналізуе ўплыў творчасці Шаўчэнкі на станаўленне нацыянальнага беларускага літаратурнага дыскурса ў XIX стагоддзі. У зазначаным кантэксце каштоўнасць паэзіі Кабзара даследчыца знаходзіць у змесце яго "ідэйных запаветаў", эстэтычных прынцыпах і мастацкіх уроках, а шаўчэнкаўскі досвед характарызуе як нацыянальна самабытны і адначасова ўніверсальны. Аўтарка манаграфіі абсалютна пераканальна і аргументавана акрэслівае сутнасныя асаблівасці літаратурнага дыялогу кожнага з беларускіх пісьменнікаў са "славутым украінскім папярэднікам". Напрыклад, адзначае, што Уладзіслаў Сыракомля, які добра ведаў паэзію Шаўчэнкі і перакладаў яго творы на польскую мову, найбольш захапляўся шаўчэнкаўскай традыцыяй сакралізацыі нацыянальнага быцця, апявання высокіх маральных рыс і дабрачыннасцей простага народа. Тыпалагічная блізкасць праяўляецца і ў культываванні абодвума паэтамі незнікомай вартасці "праўды і навукі", сцвярджэнні канцэпцыі нацыянальнай духоўнасці. Акрамя таго, У. Сыракомля заканамерна не ўспрымаў бунтоўнага характару шаўчэнкаўскіх паэм.

Агульнасць маральных прынцыпаў, блізкасць паўсядзённа-пабытавага ладу украінцаў і беларусаў прасочваецца таксама пры супастаўленні твораў Тараса Шаўчэнкі і Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Стылявая дамінанта творчасці беларускага пісьменніка — наяўнасць чыстага народнага элемента — набліжае яго творчасць да пісьма Шаўчэнкі. Як вядома, рэаліі гістарычнага быцця украінцаў і беларусаў "дыктавалі народны вобраз непрываблівым у сваёй рэалістычнай адкрытасці і канкрэтыцы". Па перакананні даследчыцы, заслугай абодвух мастакоў было мадэляванне такога народнага тыпу, які выклікаў сімпатыю, сцвярджаўся ў імкненні да прыгожага, прэзентаваў "багаты духоўны, эмацыянальна-пачуццёвы свет, мараль і жыццёвую філасофію, асаблівасці светаадчування", сцвярджаў "цэласнасць, самабытнасць народнай культуры і матэрыяльных каштоўнасцей".

У раздзеле "Янка Купала і Тарас Шаўчэнка" Ж. Шаладонава адштурхоўваецца ад думкі М. Горкага пра тое, што апошні "не ведае іншага паэта, акрамя Янкі Купалы, які так поўна і пранікнёна засвоіў бы творчыя прынцыпы ўкраінскага Кабзара". Дарэчы, адным з гэтых прынцыпаў (хутчэй інтуітыўных, чым свядомых) была апора на народнапаэтычную славеснасць. Гэтая ж рыса вызначальная і ў мастацкім свеце Янкі Купалы. Варта адзначыць, што ўкраінскі даследчык прафесар Львоўскага ўніверсітэта І. Дзенісюк яшчэ на пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя сцвярджаў: "Фальклорызм творчасці Янкі Купалы — вельмі цікавая, своеасаблівая з'ява ў сусветнай мастацкай культуры, праблема, што патрабуе сучасных навуковых рашэнняў. Вывучэнне гэтай праблемы звязана яшчэ з адным важным пытаннем — узаемадзеянне фальклору і літаратуры славянскіх народаў, асабліва ўкраінскага і беларускага". Такім чынам, можна канстатаваць, што рэцэнзаваная праца ў найвышэйшай навуковай ступені рэалізуе абазначаны кірунак даследаванняў.

У асобах Тараса Шаўчэнкі і Янкі Купалы ўзаемадзеянне ўкраінскай і беларускай літаратур прасочваецца на прадмет іх ролі ў тварэнні нацыянальных канцэпцый мінулага абодвух народаў (III раздзел даследавання). Не звяртаючыся да выразнай гістарычнай канкрэтыкі, спачатку Шаўчэнка, а ўслед за ім і Янка Купала "сакралізуюць мінулае", надзяляючы творы "выразным мясцовым каларытам" — і такім спосабам актуалізуюць "пачуццё нацыянальнага болю, абвостраную тугу за ранейшай славай, веліччу, незалежнасцю і страчанай дзяржаўнасцю".

Даследчыца знаходзіць у паэтычных тэкстах ключавыя вобразы "магіл і курганоў", інтэрпрэтуючы іх свежа і цікава. Калі для гісторыкаў / гістарыёграфаў шматлікія курганы і магілы — сімвалы "мёртвага і зніклага" ў плыні часу, то ў абодвух паэтаў яны "непасрэдным чынам звязваюцца з уваскрасенням мінулай рэальнасці". Такую асаблівасць аўтар манаграфіі трактуе на карысць паэтаў, бо іх версія была віталънаю для нацыянальнага духу зняволеных народаў.

У трэцім раздзеле манаграфіі ёсць і падраздзелы, у якіх ідзе размова пра паэта і яго духоўны статус, тыпалогію рамантычнага героя. Так, да цікавых назіранняў аўтаркі належыць тэзіс пра рэанімацыю, або "ўваскрасенне сто гадоў таму пахаванага" (М. Багдановіч) рамантызму ў беларускім пісьменстве пад пяром Янкі Купалы. Гэта з'ява была, па перакананні даследчыцы, сітуацыйна дарэчнай і па-мастацку апраўданай, бо менавіта рамантызм як творчы метад дазволіў Янку Купалу рэалізаваць канцэпцыю паэта як песняра, духоўнага лідара і нацыянальнага прарока (што назіраем і ў Тараса Шаўчэнкі на паўстагоддзя раней).

*"У раздзеле "Янка Купала і Тарас Шаўчэнка" Ж. Шаладонава адштурхоўваецца ад думкі М. Горкага пра тое, што апошні "не ведае іншага паэта, акрамя Янкі Купалы, які так поўна і пранікнёна засвоіў бы творчыя прынцыпы ўкраінскага Кабзара". Дарэчы, адным з гэтых прынцыпаў (хутчэй інтуітыўных, чым свядомых) была апора на народнапаэтычную славеснасць. Гэтая ж рыса вызначальная і ў мастацкім свеце Янкі Купалы.*

Даследчыца праз параўнальны аналіз вобразаў Шаўчэнкавага Перабендзі і Купалавага Гусляра на прадмет іх рэальнажыццёвага напаўнення (звычайна гэта сляпы вандроўны старац) і метафізічнага зместу (агонь і слава) выказвае думку, што «крэатыўна-энергетычны прарыў паэтычнага слова ў духоўна-метафізічную прастору адкрывае паўнату высокага прызначэння творцы". Мае рацыю Ж. Шаладонава, завяршаючы раздзел сцвярджэннем: "Творцы ўскладалі вялікія надзеі на здольнасць паэтычнага слова абнавіць, узвысіць і ўпрыгожыць жыццё. Метафарычна разгорнутыя палотны іх паэтычных шэдэўраў фіксуюць сапраўдны трыумф волі, слова, розуму, а таксама кахання і красы, раскрываюць невычэрпны патэнцыял духоўнасці ў чалавечым быцці".

Прадуманасць структуры аналізаванага раздзела, канцэптуальнасць бачання, логіка выкладу выклікаюць у чытача, "атручанага (паводле Лесі Украінкі) прафесійнай хваробай аналізу", шчырае захапленне і намер наследавання.

Уласна гарманізуючы чыннік поліфанічнай творчасці Шаўчэнкі, на думку даследчыцы, мае найбольшае ўздзеянне на развіццё беларускай літаратуры і шырэй — культуры. Гэтая цікавая гіпотэза па-навуковаму дакладна абгрунтоўваецца ў працэсе аналізу тыпалагічнага падабенства творчасці Тараса Шаўчэнкі і Якуба Коласа (IV раздзел). Заўважана, што абодва паэты, будучы далёкімі ад захопленага ўспрымання рэальнасці, усё ж адштурхоўваліся ад сентыментальна-рэлігійнага архетыпу біблейскага Лазара (рыса, уласцівая многім славянскім літаратурам). "Раскрыццё ўнутраных супярэчнасцей аб'ектыўнага свету праз іх глыбокае філасофскае "перажыванне" вызначыла станоўча-пазітыўны рух мастацкага мыслення Якуба Коласа, трывалую дыялектыку аптымізму ў яго творчасці, яе ідэйна-эстэтычную эвалюцыю".

*"Уласна гарманізуючы чыннік поліфанічнай творчасці Шаўчэнкі, на думку даследчыцы, мае найбольшае ўздзеянне на развіццё беларускай літаратуры і шырэй — культуры. Гэтая цікавая гіпотэза па-навуковаму дакладна абгрунтоўваецца ў працэсе аналізу тыпалагічнага падабенства творчасці Тараса Шаўчэнкі і Якуба Коласа (IV раздзел). Заўважана, што абодва паэты, будучы далёкімі ад захопленага ўспрымання рэальнасці, усё ж адштурхоўваліся ад сентыментальна-рэлігійнага архетыпу біблейскага Лазара (рыса, уласцівая многім славянскім літаратурам).*

Як яшчэ адну аб'ядняльную рысу Ж. Шаладонава называе эвалюцыю мастацкага мыслення ад рамантызму да рэалізму. Цікава таксама пракаменціравана агульнасць падыходу абодвух мастакоў да тварэння метафары дзяржаўнасці: паэты-рэалісты бачылі вобраз хаты (Шаўчэнка) і новай зямлі (Колас) як знаходжанне Бацькаўшчыны, як спосаб нацыянальнай самаідэнтыфікацыі, як пошук гармоніі, сінтэз палярных бакоў рэчаіснасці. Адсюль вынікае "агульнасць мастацкай інтэрпрэтацыі асноўных вобразных канстант". Аналіз эпічнасці мыслення Якуба Коласа і Тараса Шаўчэнкі даў даследчыцы падставы гаварыць пра абодвух паэтаў як заснавальнікаў стварэння нацыянальнага беларускага і ўкраінскага вобраза свету.

Пачатак XX ст., як метафарычна выказаўся прафесар І. Дзенісюк, "пераворвае глебу беларушчыны". У літаратуру прыходзяць шматлікія таленты на чале з Янкам Купалам і Якубам Коласам. Перад пісьменнікамі паўстае задача за які дзясятак гадоў дагнаць еўрапейскія літаратуры, засвоіць культурныя здабыткі сусветных літаратур і зрабіць уласны ўнёсак у культурную скарбніцу. Менавіта пад такім лозунгам праходзіць творчасць Максіма Багдановіча. І менавіта з такога пункта погляду і разглядае аўтарка манаграфіі літаратурныя ўзаемадачыненні Т. Шаўчэнкі і "ўладара зачараванага царства" (І. Дзенісюк), "мастака-сінтэтыка" (М. Драй-Хмара), класіка беларускага пісьменства Максіма Багдановіча.

Невялікі абсяг раздзела "Максім Багдановіч і Тарас Шаўчэнка" тлумачыцца прыналежнасцю мастакоў да розных часоў і розных мастацкіх парадыгм. Нягледзячы на гэта, рэцэпцыя Шаўчэнкі Максімам Багдановічам, як даводзіць Ж. Шаладонава, змяшчае адзнакі тыпалагічнага адзінства. Найперш "тыпалагічная блізкасць вершаў Тараса Шаўчэнкі і Максіма Багдановіча вынікае з агульнай тэндэнцыі творчага засваення імі элементаў фальклорнай паэтыкі, але Багдановіч у першую чаргу звярнуў увагу на "персанажныя", "суб'ектныя" творы Кабзара, спалучыўшы досвед, задачы іх стварэння і ідэйна-мастацкія функцыі з беларускім фальклорным матэрыялам". У беларускім фальклоры Максім Багдановіч убачыў паэтычны свет душы беларуса, форму яго тысячагадовага вобразнага мыслення, яго філасофію прыроды. Як заўважае аўтар манаграфіі, тыпалагічнае падабенства твораў "у народным духу" Багдановіча і Шаўчэнкі адлюстроўвае дыялектычную сувязь літаратуры і фальклору. Гэта падабенства праяўляецца і на ўзроўні жанрава-вобразнай структуры: "у адзінстве любоўнай ці сацыяльна-драматызаванай тэматыкі, адпаведнай скандэнсаванай форме лірычнага маналогу-споведзі; наяўнасці псіхалагічна выразных вобразаў, шматлікіх народна-гумарыстычных элементаў, музыкальнасці верша таксама".

Літаратуразнаўца Ж. Шаладонава не абышла ўвагай і постаць М. Багдановіча. Даследаванні мастацкай спадчыны Тараса Шаўчэнкі — асобная старонка творчай біяграфіі беларускага паэта. Апублікаваныя ў 1914 годзе (да 100-гадовага юбілею Шаўчэнкі) два артыкулы пра яго ("Краса і сіла", "Памяці Т. Г. Шаўчэнкі") увайшлі ў залаты фонд шаўчэнказнаўства, не страцілі сваёй актуальнасці ў плыні гадоў, адкрылі новыя шляхі даследавання спадчыны пісьменніка. У процівагу прадстаўнічаму колу даследчыкаў, што шанавалі ў творах Кабзара змест (ідэю!), Максім Багдановіч ці не ўпершыню прадставіў Шаўчэнку як вялікага майстра формы. Усё гэта з належнай пільнасцю і навуковай грунтоўнасцю даводзіць Ж. Шаладонава ў сваёй манаграфіі.

Ёсць усе падставы канстатаваць, што рэцэнзаванае даследаванне ўвогуле і кожная яго асобная структурная частка аб'яднаныя канцэптуальнасцю навуковага падыходу, метадалогіі і шляхоў аналізу. Нягледзячы на тое, што асобныя дэкляраваныя праблемы былі ўжо прадметам навуковага разгляду, Ж. Шаладонава змагла паглядзець на іх па-новаму, скарыстаўшы магчымасці сучаснай кампаратывістыкі — заўважыць і зафіксаваць не адзінкавыя супадзенні, а сутнасныя характарыстыкі творчых ўзаемакантактаў розных літаратур. Да таго ж, даследаванне беларускага літаратуразнаўцы Ж. Шаладонавай свядома пацвярджае актуальнасць творчасці Тараса Шаўчэнкі на ўсіх этапах літаратурнай эвалюцыі.



Васіль Макарэвіч

## …І прагне душа дабрыні

Гледзячы маскоўскую
тэлеперадачу "Момант існасці"

*Каму ён трэба,*
*Гэткі момант існасці, —*
*Капкана енк з вар'яцтвам чардаша?*
*Такую праўду хіба можа вынесці,*
*Хоць будзе і драпежная,*
*Душа?!*

*Які не быў бы*
*Шчыруном і донарам,*
*Ды сам ты не паверыш нізашто, —*
*Разваляць і развеяць тое долары,*
*Што з месца не скране*
*І люты шторм.*

*А болю з горкай*
*Горыччу не менее, —*
*З замежжа йдуць данайскія дары.*
*Абселі Свіслач берагі каменныя,*
*На іх — не вудары,*
*А — гандляры!*

*Час круціць дні*
*З абноўленымі гімнамі,*
*З жывых зноў цягне сілу і жыллё.*
*І на рублі мае, што колісь згінулі,*
*Жыруе на Багамах дзесь*
*Жуллё.*

*Рэформы так*
*Нас па мазгах шарахнулі,*
*Што хоць прысмакаў груды на стале, —*
*Паўдзён спякотны цягнецца жырафаю,*
*Лісток хмурынкі ў небе*
*Дастае.*

*За небасхілам*
*Век і дні ўчарашнія,*
*Дзе д'ябал быў шаўцом і куцюр'е.*
*А напамін, як наждаком ці рашпілем,*
*Па сэрцы пройдзе і душу*
*Цярне.*

*Відно, хлусні*
*Занадта наварочана, —*
*Не меней, чым камення на палях!*
*Гісторыю вядуць вунь на вяроўчыне, —*
*Хто за яе заступіцца?*
*Алах?*

*Чаканы рай*
*Прысніўся ці прытрызніўся.*
*Ды што ты будзеш з раем тым рабіць?*
*Калі ў капкан бяруць бядоты з крызісам,*
*Ці толькі ў рэйку трэба*
*Біць і біць?!*

* * *

*Век — не дварышча і не старыца,*
*З дзяругай ціны ці з жарствой.*
*Даўно ў мяне ўжо не зрастаецца*
*Вярста-крывуліна з вярстой.*

*Сярпы з грамамі-канавалам*і
*Нашто на схіле год каваць?!*
*Як мне гады наканаваныя*
*Паміж сабой састыкаваць?*
*Сцяга, з экзотыкай узведзенай*
*У сто дваццатую ступень,*
*Цераз калоду лезе ведзьмаю,*
*То зноў куляецца праз пень.*

*Не выручаць суфлёры з гідамі,*
*Як іх ражном не варушы!*
*Цераспалосіца агідная*
*І — за сталом, і — на душы.*

*Рагаты сатыр, як з-за бруствера,*
*З дрыготкай выпусціць чаргу.*
*Даўно эстрадная індустрыя*
*Ў нас — на шырокую нагу!*

*Яна зрабілася плантацыяй —*
*Гарні багацце, а не глей!*
*З жывёльнаю арыентацыяй*
*Крыўляецца на сцэне гей!*

*Нічога болей і не хочацца.*
*Абрыдлі д'яблы і багі.*
*Калі ў спектаклі дзея скончыцца*
*Ды і пачнецца акт другі?*

* * *

*Гэй, вы, хлопцы-глінатопцы,*
*Кіньце ў вочы мне пыліць.*
*Трэба вобмегам у топцы*
*Нам цагліны апаліць.*
*Хіба мы ў сяле цяцеры?*
*Хто нам ходу не дае?*
*Адмастачыць варта церам*
*Саламянпай удаве.*

*І не церам, а — харомы:*
*Мур з цэменту, з гонты дах!*
*Каб хапала гулу-грому*
*І пад столлю і ў кутах.*

*Як пачнуць за лыжкі брацца,*
*То выходзіць зноў і зноў —*
*За сталом аж дзевятнаццаць*
*І дачушак і сыноў.*

*Хоць глядзяць па-забіяцку,*
*Ды не так, як з-пад дручка...*
*Прызнавайся, кожны бацька,*
*Хто твой сын, а хто дачка?*

* * *

*Ён — карантыш, і па душы*
*Яму і строф карантышы,*
*Як і чужое апякунства.*
*На пляжы і на кірмашы,*
*Нібы аладкі-спарышы,*
*Шэдэўры гэткія пякуцца.*

*Калі ты свой загон арэш,*
*Прыціхне нават Белавеж*
*І не дыхне суседка Дражня.*
*Пакуль не выверне лямеш,*
*Нібы руно з глыбіняў, верш,*
*І найчасцей — паўнаметражны.*

* * *

*Адкуль? З якіх зямель і краю*
*Ўзялося іх — няўжо пісцы? —*
*Нашчадкаў столькі самураяў,*
*Што ні праехаць ні прайсці?!*
*Каб забрытаць і пушчу ў хоку,*
*Ідуць натоўпам — так і знай! —*
*Яны на прыступ кожнай хвойкі*
*З рашучым выгукам: "Банзай!"*

## Сцежка

*Сініцай пырхае, то пенкай,*
*Бяжыць ад вёскі да сяла.*
*Напэўна, выбралася з пекла*
*Ці з апраметнай уцякла.*

*Смалу вазіла, ў дыме глохла,*
*Ледзь пераводзячы духі.*
*Ах, як ёй цесна без аглобляў!*
*Ах, як маркотна без дугі!*



Фота Кастуся Дробава



Людміла Кебіч

**Людміла Кебіч нарадзілася ў пасёлку Краснасельскі Ваўкавыскага раёна. Скончыла музычна-тэатральнае аддзяленне Маладзечанскага музвучылішча і філфак Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Цяпер працуе старшынёй гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Выдала кнігі вершаў "Па музычных законах" (1996) і "Зялёная рутвіца" (2001). Паэтэса Людміла Кебіч неўзабаве святкуе свой юбілей.**

## Пакуль бягу

*Гродна, я ўрасла ў твае завулачкі,*
*у бульвары, плошчы і сады.*
*Адкушу будзённай крохкай булачкі*
*і бягу праз іх цераз гады.*

*Тут за што паглядам ні зачэпішся,*
*у напеўны просіцца радок.*
*Тут жыву здавён, і сэрца цешыцца,*
*што маёй тут творчасці выток.*

*Тут прабегла Маладосці станцыю,*
*дзе надзеі, воля, інстытут…*
*Дзе каханне белаю акацыяй*
*бласлаўляла кожны мой маршрут.*

*Тут брыла між Сталасці прыпынкамі:*
*праца — дзеці — дом — сябры — сям'я…*
*Шчырымі памкненнямі, учынкамі*
*там і застануся, пэўна, я.*

*А пакуль што галубамі белымі*
*успаміны пырхаюць з-пад ног,*
*ды унукі ягадамі спелымі*
*коцяцца ў жыццё цераз парог.*

*А пакуль бягу па родных вулачках…*
*Горад мой, які ж ты малады!*
*Тут сваю абгрызеную булачку*
*Раскрышу я птушкам без жальбы...*

## Над берагам

*Над берагам, над рэчкаю*
*ляцела мая песня,*
*самотная, шчымлівая,*
*лунала ў паднябессі.*

*Гаротнай белай чаіцай*
*аплаквала каханне,*
*гукала свайго любага,*
*вымольвала вяртанне.*

*Спыняла песню сонейка,*
*апальвала ёй крылы,*
*шапталі хвалі звонкія:*
*"Не вернецца твой мілы".*

*А песня не спынялася,*
*за ім услед ляцела,*
*і плакала, і клікала,*
*і верыць не хацела.*

*Заззяла ў небе зорачка*
*над цёмнаю вадою,*
*і стала маё горачка*
*вялікаю бядою.*

*У вочы ява даўкая*
*растайна зазірнула,*
*і песня захлынулася,*
*навекі патанула.*

## У вянок Максіму

*У вянок Максіму,*
*бы свайму сыночку,*
*назбіраю ў жыцце*
*сініх васілёчкаў.*

*Пасвятлее ў хаце*
*пасля доўгай ночкі*
*ад нябесных кветак —*
*незабыўных вочкаў.*

*Як прачнецца хлопчык,*
*усміхнецца ясна,*
*родны край аздобіць*
*талентам нязгасным.*

*І памкне да волі*
*сэрца маладое,*
*поўнае надзеяў,*
*ды журбою болей.*

*Скоціцца так хутка*
*зорачкай з нябёсаў,*
*і заплача дудка*
*над гаротным лёсам.*

*І праступіць болем*
*з кожнага радочка*
*беларуса доля,*
*сына-васілёчка.*

*…Назбірала ў жыце*
*самых сініх кветак —*
*у вянок Максіму,*
*на журбу сусвету.*

## Дзень стаміўся

*У высокіх прыбярэжных травах*
*Надыходзячы згубіўся дзень.*
*Што яму зямныя нашы справы,*
*Мітусня спрадвечная людзей.*

*Дзень стаміўся і, прылёгшы ў травы,*
*Залатую раніцу праспаў.*
*Ён, магчыма, меў на гэта права,*
*А, магчыма, час на роздум даў.*

*Бо вядома — непраглядную ноччу*
*Бачацца выразней нам, наўздзіў,*
*Золь дарог, з якіх ужо не збочыш,*
*І шляхі, якімі не хадзіў.*

*Дзень, між іншым, нібы воблак сіні,*
*Сонечна, салодка, светла спіць,*
*І скрозь недасяжныя Вышыні*
*Нас, шчаслівых, бачыць. Або сніць…*

## Таму, хто ідзе

*Ты марыш, каб хто падарожжа*
*Табе падарыў.*
*Між тысяч дарог — раздарожжа,*
*А дзе той прарыў?*

*Дарогі не подыум строгі,*
*куды не ўзысці.*
*Яны нашых лёсаў трывогі —*
*Якою ісці?*

*Яны то ляцяць, нібы птушкі,*
*То ўюцца гюрзой…*
*А ты прамачыла падушкі*
*Вагання слязой.*

*А ты ўжо зняверыла Неба —*
*У трансе Багі!*
*Не хочаш падмогі — не трэба,*
*Больш будзе другім.*

*Тым, хто не трасецца ў знямозе*
*За кожны свой крок,*
*А шпарка ідзе па дарозе*
*Скрозь буру і змрок.*

*Ідзе, не зважае, што коўзка*
*І што да жытла*
*Шчэ пехам і полем… ён дзёрзка*
*Ідзе да святла.*

*Ідзе, па любых раздарожжах,*
*Пад ветра выццё…*
*Адно даў нам Бог падарожжа —*
*ЖЫЦЦЁ.*

**Як адбываецца кнігавыдавецкі працэс у іншых краінах свету? Па якіх прынцыпах арганізоўваецца праца ў гэтым кірунку? Ці супрацоўнічаюць выдавецтвы з літаратурна-мастацкімі газетамі і часопісамі? Думаецца, такія пытанні хвалююць не толькі выдаўцоў-прафесіяналаў, але і простых чытачоў. Сёння мы маем магчымасць зазірнуць у “выдавецкую кухню” Германіі. На пытанні карэспандэнта “Кніжнага свету” адказвае Карын Хербер-Шлап, магістр германістыкі, загадчык рэдакцыі навукова-папулярнай літаратуры выдавецтва Krüger (падраздзялення выдавецтва Fischer).**



# Па рэцэпце Карын

**Марына ВЕСЯЛУХА,
фота аўтара**

**— Спадарыня Карын, ці існуе строгае раздзяленне выдавецтваў Германіі ў адпаведнасці з профілем літаратуры, што ў іх выходзіць?**

— Так, профільнае раздзяленне існуе — у адпаведнасці з тэматыкай кніг. Выдавецтва Fischer, у якім я працую, складаецца з пяці падраздзяленняў: літаратурнага (займаецца выпускам мастацкіх твораў), забаўляльнай літаратуры, кніг для дзяцей, маладзёжнай кнігі і выданняў у мяккай вокладцы. Натуральна, што апошняе ахоплівае найбольш шырокі тэматычны спектр. І найбольшая колькасць кніг рыхтуецца менавіта ў гэтым падраздзяленні.

**— А ў цэлым колькі кніг выходзіць у вашым выдавецтве на год?**

— 100 выданняў у цвёрдым пераплёце і 400 — у мяккай вокладцы. Дзякуючы ўсяму гэтаму мы — адно з буйнейшых выдавецтваў Германіі, што займаецца выпускам папулярнай літаратуры для шырокай аўдыторыі.

**— Вы працуеце менавіта ў рэдакцыі навукова-папулярных кніг. У Беларусі, каб такое выданне пабачыла свет, яно павінна быць афіцыйна адрэцэнзаваным. Ці існуе такая ж працэдура ў Германіі?**

— У нас пад тэрмінам “навукова-папулярная літаратура” маюцца на ўвазе кнігі для шырокай аўдыторыі, публікі, што спецыяльна не займалася вывучэннем дадзенай тэмы. Гэта, канечне, спецыяльная літаратура, але не навуковая. На аснове такіх кніг дысертацыі не пішуцца. Таму і афіцыйная рэцэнзія — неабавязковая ўмова. Мы зыходзім з таго, што нашы аўтары валодаюць інфармацыяй у дастатковай ступені, каб быць у стане напісаць кнігу для шырокай аўдыторыі, але карэктна з прафесійнага пункта гледжання. Тым больш што ў нас ёсць рэдакцыя, якая займаецца праверкай рукапісаў. Але ўсё гэта афіцыйна завяраць не трэба.

**— У вашай краіне існуе такая арганізацыя, як Біржавы саюз нямецкіх кнігагандляроў…**

— Ён аб’ядноўвае большасць выдаўцоў і кнігагандляроў краіны з мэтай навучання, павышэння кваліфікацыі кадраў, забеспячэння агульнай інфармацыйнай падтрымкі. У яго ўваходзяць розныя выдавецтвы, як вялікія, так і маленькія, і нават маленькія ўдзельнічаюць у агульнай дыскусіі, выказваюць сваё меркаванне. Біржавы саюз кнігагандляроў выпускае спецыяльны галіновы часопіс, займаецца сувязямі з прэсай і грамадскасцю. Па сутнасці, гэта адзіная ў краіне арганізацыя, што прадстаўляе сумесныя інтарэсы кнігагандляроў, і менавіта тут прымаецца рашэнне аб змесце, асноўных тэмах, кірунках навучальнага курса для будучых прадаўцоў кнігі.

**— Выдавецтва Fischer супрацоўнічае з літаратурнымі часопісамі і спецыялізаванымі кніжнымі выданнямі?**

— Існуе два бакі такога супрацоўніцтва. З аднаго боку, мы, канечне, хочам, каб вакол кнігі ўзнікала грамадская дыскусія, шырокае абмеркаванне, каб на нашы выданні з’яўляліся рэцэнзіі ў друку. Таму, выдаўшы кнігу, адпраўляем экзэмпляр у газеты і часопісы, і мы рады, калі выходзіць нейкая інфармацыя пра яе. Рыхтуючы жаночыя раманы ці літаратуру для шырокага кола чытачоў, аплочваем артыкулы, каб выклікаць грамадскае абмеркаванне яшчэ да таго, як выйшла кніга. Ці праводзім сустрэчы з аўтарам. У гэтым кірунку працуем не з літаратурнымі, а з жаночымі часопісамі. Літаратурныя выданні павінны заставацца незалежнымі, таму з імі складана разлічваць на супрацоўніцтва такога кшталту, жаночыя часопісы могуць сабе гэта дазволіць.

**— З улікам якіх фактараў складаецца план выдавецтва? Ці існуе ўвогуле такое паняцце?**

— Так, існуе, але ў нас ён называецца “праграмнае планаванне”. Мы маем дзве праграмы — асеннюю і вясновую, у кожную з якіх уключаецца пэўная колькасць важных кніг, што павінны выклікаць большы інтарэс, плануем прыблізна агульны аб’ём выпуску кніг і сродкі, што можам патраціць на іх выданне.

**— Каб рукапіс стаў кнігай у вашым выдавецтве, якім крытэрыям ён павінен адпавядаць?**

— Кожны рукапіс, што да нас трапляе, павінен вытрымаць адбор рэдакцыйнай калегіі і выпускаючай рэдакцыі. Мы ацэньваем, ці падыходзіць ён у цэлым нашаму выдавецтву па змесце, ці дастаткова высокая яго якасць. Ацэньваем і сітуацыю на рынку з пункта гледжання канкурэнцыі. У першую чаргу гэта тычыцца спецыяльнай літаратуры: ці ёсць ужо кніга на гэтую тэму, калі так, то ў якой меры рынак напоўнены такімі выданнямі. Ну і, канечне, нашы меркаванні, ці ў стане мы прадаць прадукт і ў якім аб’ёме. Гэта вельмі важна.

**— Ці выходзяць у вашым выдавецтве перакладныя кнігі? Які працэнт ад агульнага аб’ёму яны складаюць?**

— Так. У галіне спецыяльнай літаратуры іх доля — 30—35 працэнтаў, што да літаратуры мастацкай, тут мы выдаём 50 на 50 працэнтаў твораў нямецкай і сусветнай літаратуры. Натуральна, што калі гэта перакладны твор, то напісаны аўтарам, якога ведаюць ва ўсім свеце. Мы выбіраем самых лепшых пісьменнікаў з ЗША, Вялікабрытаніі, Швейцарыі, Ісландыі. Што да нямецкай літаратуры, тут можам сабе дазволіць працу па стварэнні новых імён — друкуем маладых аўтараў, часам нават дэбютантаў.

## *Прэзентацыя*

# Хатынь — не адна

**Чэслава ПАЛУЯН,
фота Кастуся Дробава.**

**У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь прайшла прэзентацыя электроннай базы беларускіх вёсак, спаленых у гады Вялікай Айчыннай вайны, і беларуска-расійскага зборніка дакументаў “Трагедыя беларускіх вёсак. 1941 — 1944 гг.”. Выданне, выхад якога прымеркаваны да 70-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны, падрыхтавана Дэпартаментам па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальным архівам Беларусі, Белдзяржархівам кінафотафонадакументаў і Расійскім фондам садзеяння актуальным гістарычным даследаванням “Гістарычная памяць”.**



Над праблемай вывучэння спаленых вёсак у нашай краіне пачалі працаваць параўнальна нядаўна. У 2009 годзе пабачыў свет першы тэматычны зборнік дакументаў “Хатынь: трагедыя і памяць”. Над падрыхтоўкай жа прэзентаванага выдання праца вялася шмат год, і яе завяршальны этап распачаўся ўвосень 2010 года. У якасці кіраўніка работы выступіў галоўны архівіст Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Селяменеў.

Выхад зборніка дакументаў, а таксама прэзентацыя электроннай базы, што змяшчае інфармацыю пра больш як 5 тысяч спаленых беларускіх вёсак, куды апроч агульных звестак пра населены пункт і яго жыхароў увайшлі і алічбаваныя архіўныя дакументы, фотаздымкі, успаміны сведак трагедыі спаленых вёсак, — значная падзея для архівістаў нашай краіны. Так, Уладзімір Адамушка, дырэктар Дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, падкрэсліў: “Архівісты доўга думалі, як адзначыць сумную дату ў гісторыі нашай краіны — 70-годдзе пачатку Вялікай Айчыннай вайны. І мы прыйшлі да думкі: няхай праўду скажуць яго вялікасць архіўны дакумент, яго вялікасць гістарычны факт”.

Зборнік “Трагедыя беларускіх вёсак. 1941 — 1944 гг.” уключае 212 дакументаў, большая частка якіх публікуецца ўпершыню. Гэта дакладныя запіскі, даведкі, сведчанні, спецпаведамленні, паказанні сведак, а таксама загады, дзённікавыя запісы, паведамленні розных часцей і арганізацый вермахта, СС, паліцыі і грамадзянскай акупацыйнай адміністрацыі аб правядзенні карных аперацый супраць партызан і мірнага насельніцтва. “Думаю, гэта пачатак вялікай справы, — заўважыў Аляксандр Каваленя, акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі. — Зборнік дакументаў і электронная база — неабходныя навукоўцам інструменты для аб’ектыўнага асвятлення нашай трагічнай, гераічнай гісторыі”.

***На здымку: галоўны архівіст Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Селяменеў прэзентуе зборнік дакументаў “Трагедыя беларускіх вёсак. 1941—1944 гг.”***

## *У падтрымку чытання*

### Актрыса Тамара Міронава:

# У юнацтве захаплялася Дастаеўскім

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Віктара Зайкоўскага**



— Я нарадзілася ў Вільні. Мама — медык, чалавек высокаадукаваны, — любіла кнігі. У дзяцінстве чытала мне казкі Пушкіна, я ведала іх на памяць і вельмі любіла. Былі ў сямейнай бібліятэцы творы, якія мне чытаць не дазвалялася, бо “рана”: раманы Льва Талстога “Уваскрэсенне”, Панаса Мірнага “Вулічная”. Зразумела, чытала іх у першую чаргу. У юнацтве захапілася Дастаеўскім, чытала яго, аж пакуль ад напалу пачуццяў не пачыналі калаціцца рукі. Потым Чэхавым захапілася, прачытала ўсяго, Купрына таксама. І дасюль перачытваю. Гучыць як новае: тады было адно ўспрыманне, цяпер зусім іншае. Руская літаратура — самая блізкая маёй душы. Люблю герояў Людмілы Уліцкай, акунінскага Фандорына. Апошнім часам чытаю толькі тое, што патрэбна па рабоце, — сцэнарыі. З цікавасцю прачытала сцэнарый Тамары Лісіцкай да фільма “Ціхі цэнтр”. Гераіня, ролю якой я выконваю, злоўжывае алкаголем. У яе складанае жыццё, але самае добрае, што ў ёй ёсць, — любоў да дачкі і людзей, — засталося нязменным. І гэта любоў трымае яе на свеце. У канцы фільма жанчына кідае піць. І я веру аўтару сцэнарыя і не веру медыкам, якія лічаць жаночы алкагалізм невылечнай хваробай.


Віктар Какорыч

# Контрпрыём

## Апавяданне

Калі не прыглядацца да дзіўнавата-таўставатых, падобных да пельменяў, вушэй гэтага вядомага не толькі ў расійскіх спартыўных колах загарэлага мужчыны перадпенсійнага ўзросту з кароткімі, пад вожыка, сівымі валасамі і апранутага ў модную тэніску, то ў астатнім ён звонку не вылучаўся анічым сярод мноства дзённых кліентаў піўнога бара на адкрытым паветры. Бар месціўся перад старым, на тры паверхі, жылым домам з высокімі арачнымі вокнамі. Ён займаў былы тратуар і трохі прыхопліваў праезджую частку багатай на гістарычнае мінулае вуліцы з дарэвалюцыйнымі, у пераважнай большасці, дамамі, якія з цягам часу адрамантавалі, адрэстаўрыравалі, пафарбавалі. Цяпер менавіта яна, шматлюдная ўдзень і ўвечары, лічылася асаблівай гордасцю гараджан, якім даспадобы прыйшлася старая назва, і цяпер казалі: "Пройдзем па Садовай" альбо "Пагуляем па Вялікай Садовай"... І Андрэй Сусіч гэтаксама з цікавасцю прайшоўся па ўсёй сваёй былой вуліцы, дзе жыў тры гады ў юнацтве і якая пачыналася недалёка ад галоўнай плошчы і доўжылася вярсты са дзве, ажно да плошчы над вялікай ракой з прыгожым Дняпроўскім краявідам, са скульптурай маладой жанчыны на высокім пастаменце. У чаканні родзіча ён сядзеў бы яшчэ колькі часу ў сваім ціхім задуменні, скрыжаваўшы рукі на грудзях і глядзячы кудысьці паўз шэраг дзвюх недакаркаваных бутэлек з нямоцным півам на стале, калі б не пачуў здзіўлены барытоністы голас:

— Няўжо Андрэй?!

Такое імя было і ў яго, але на вуліцы, калі чуў падобнае, ніколі не рэагаваў — ці мала каго клічуць. Але ў наступны момант зусім побач ізноў прагучала яго імя, і ён міжволі мусіў павярнуць галаву. Насупраць стаяў і пазіраў на яго, прыязна ўсміхаючыся, мужчына з чорнай папкай у руцэ, прыкладна ягоных гадоў, не палетняму незагарэлы, зусім лысы, у зялянковай безрукаўцы і ў джынсах.

— Вы да мяне?

— А да каго ж яшчэ... — прагучала у адказ. — Тут адзін толькі Андрэй Сусіч.

— Вы мяне ведаеце?

— Анягож... — усміхаўся чалавек. — Вы двойчы чэмпіён Саюза, Еўропы, бронзавы і залаты медаліст Алімпіяды, а цяпер — заслужаны трэнер.

— Ну, гэта можна было і ўчора пачуць, — паморшчыўся Сусіч. — У вашым Доме спорту, дзе я хлопцаў секундаваў.

— А яшчэ раней былі чэмпіёнам Саюза сярод вайскоўцаў. Пра гэта наўрад ці гаварылі.

— Вы чыталі дзе-небудзь?

— Было такое... — пацвердзіў незнаёмы. — У цэнтральнай вайсковай "Красной звезде". Выпісваў, а цяпер куплю...

— Нармальна, — усміхнуўся кліент. — А то мне падалося... Вы так смела і ўпэўнена сябе паводзіце... Быццам мы даўно знаёмыя.

— А чаму б і не.

— Так нават... — варухнуўся на месцы Сусіч. — Можа, мы ў садок хадзілі, у школе вучыліся? На адной жылі вуліцы, разам служылі? Нешта не магу ні пазнаць, ні здагадацца. Не падкажаце?

— Ды... Калісьці меў за гонар вас пакласці на абедзве лапаткі.

— Вы? Мяне? — іранічная ўсмешка кранула вусны былога чэмпіёна. — Не ўгадалі. Калі я і прайграваў, то па балах толькі.

— Па вольнай барацьбе, — удакладніў незнаёмец. — А я вас па класічнай. На юнацкім першынстве вобласці, у Бобрыне.

Сусіч раптам страпянуўся, у вачах прамільгнула здзіўленне, некалькі імгненняў ён пільна ўглядаўся ў чалавека, і рукі яго павольна апусціліся на калені.

— Загуменнік? — ціха прамовіў. — Алег?

— Ён самы, — усміхнуўся чалавек. — Жывы і на нагах.

— Божа мой родны, як любіў казаць мой дзед-беларус, — усхапіўся з лаўкі Сусіч. — Колькі лет, колькі зім! Не пазнаў бы ніколі. Што з намі час робіць. Ну, здароў, здароў!

Сусіч моцна сціснуў працягнутую руку свайго колішняга саперніка, працягваючы гаварыць:

— Не забыўся, помню. Як мяне кідануў са стойкі. Мяне, чэмпіёна вобласці! Без малога ўжо тры гады займаўся, а ты… Праз грудзі, з захопам рукі!..

— Бывае.

— Між іншым, я гадоў дзесяць таму заходзіў у ваша адраснае. Пабачыць хацеў цябе. Сказалі, у вобласці такі не пражывае.

— Ужо даўно ў суседняй, — махнуў рукой Загуменнік у паўночны бок. — Прагнала радыяцыя. І ўсю маю радню. Во на дзень сюды камандзіраваны. Уранні выйшаў з вагона і на супынку ўбачыў афішу. Яшчэ не знялі. Падумаў, мо дзе ў горадзе яшчэ, не паехаў. Я ж тваю фізіяномію ведаю. Сачыў за тваёй кар'ерай. Бачыў, як не на жыццё, а на смерць змагаўся за алімпійскае золата. Так бурна перажываў, аж суседзі пачалі званіць: "Што здарылася?" І як трэнера цябе паказвалі. Я праз талерку гляжу спартыўныя праграмы. Але якое супадзенне! Іду і вачам не веру.

— А мне захацелася яшчэ дзянёк пабыць, — падзяліўся Сусіч. — Па мясцінах знаёмых прайсціся. Учора нашы з'ехалі, а я пасля абеду аж у тры музеі паспеў. Сёння зрабіў прабежку, на пляжы пазагараў, у Дняпры пакупаўся. А зараз павінен родзіч падысці, аматар гісторыі. Абяцаў звазіць на Салтанаўскае поле. Дзе Раеўскі даў французам прыкурыць. На Буйніцкім ужо быў калісьці… Прысядзь, Алег, раскажы... Нешта пра цябе нідзе і нічога... Куды падзеўся? Ты ж, як чэмпіён, павінен быў выступіць на рэспубліцы, у Мінску. А, помню, тэлефануе трэнер. Чамусьці твой, а не мой. І ўгаворвае прыехаць на зборы. Ты з-за хваробы не зможаш выступіць, і трэба ехаць мне на рэспубліку. Але я наадрэз адмовіўся. Раскажы...

— Не, так не пойдзе, — мякка запярэчыў, усміхаючыся, Загуменнік. — Я цябе ўбачыў першым. Маю права і на роспыт першым. Пачуць ад самога, як здабываюцца высокія тытулы. А то магу і не паспець. Яшчэ трэба металургічны наведаць. Як інжынер па забеспячэнні.

Загуменнік сеў на лаву насупраць, паклаў на калені папку.

— Давай-ка прамочым горла, — прапанаваў Сусіч і пацягнуўся рукой да бутэлькі.

— Не-не, ні грама, — рэзка адмовіўся, выстаўляючы далонь перад сабой. — Не п'ю: ні віна, ні піва, ні гарэлкі. Ёсць прычына. Пасля...

— Ну і я тады не буду. Не люблю адзін...

— Дык я сур'ёзна, Андрэй, — пачаў Загуменнік. — Мой сын абсалютна раўнадушны да спорту. А вось унук дзесяцігадовы, Данік... Ну проста ірвецца ў барцы. Спасу ад яго няма... Так што дзяліся вопытам. Як табе ўдавалася быць першым? Што трэба для гэтага: перамагаць на такім высокім узроўні?

— Харч, Алег... — не затрымаўся з адказам Сусіч. — Добры харч. Мне пашчасціла. Бацька, як кандыдат навук, а пазней як доктар, прыносіў немалыя грошы. Ды яшчэ матуліны, настаўніцкія. А мама — кулінар на ўсе сто. Гатавала смачна. Мы ж пераехалі ў Маскву... Недзе праз паўмесяца пасля майго фіяска. Бацьку ўзялі на адзін абарончы завод.... Паўнацэннае кармленне, Алег.

— Няўжо толькі харч? — усумніўся Загуменнік. — Я сур'ёзна.

— І я сур'ёзна, — пацвердзіў Сусіч. — Падругое, у сталіцы былі ідэальныя ўмовы. Не тое што тут калісьці. Абмыеш галаву пасля трэніроўкі халоднай вадой і спатнелы дамой бяжыш. Быў трэнер класны. Да службы я ўжо насіў майстарскі значок.

— Ну, гэта ўсё ўвогуле, — настойваў Загуменнік. — А самае-самае?

— Быць мацней, лаўчэй, тэхнічней за свайго саперніка. Выбіраць правільную, выйгрышную стратэгію і тактыку для кожнага канкрэтнага паядынка. Думаць перад атакай, думаць, калі прайграеш... І дужа хацець перамагчы. Больш, чым твой сапернік. А для гэтага — толькі на перамогу настройвацца. І яшчэ шмат нюансаў...

— Так і скажу ўнуку.

— А калі зірнуць у корань, то ты і дапамог мне завяваць прызы і медалі. Без перабольшвання.

— Не разумею...

— Ты падштурхнуў мяне да выбару, — працягваў Сусіч. — Я ж пасля таго "палёту" збег дамоў. Напісаў і пакінуў на падушцы пяток слоў, каб не шукалі. Сеў на рэйсавы і праз дзве гадзіны піў дома чай. І ў той жа дзень — ужо трэніраваўся ў вольнікаў. Мне і раней хацелася... Недалюбліваў я барацьбу да пояса, з-за абмежаванасці прыёмаў. Так і падмывала прайсці ў ногі, зрабіць "мельніцу" ды нагой падсечку. Але мой стрыечны брат... Вучыўся ў інстытуце фізкультуры і на заводзе быў спортарганізатарам. Сам бароўся і мяне зацягнуў на класіку. І ўсё агітаваў: "Самая старажытная і культурная барацьба. Не трэба за ногі хапаць. Будзеш майстрам спорту СССР". Быў фанатам. І вось я збег. І ад класікі, і ад бráтавай залежнасці. Пасля гэтага мы нават не бачыліся: не тэлефанавалі, не пісалі. А заўчора яго сын прыйшоў у гасцініцу.

— Наладзіць сувязь.

— Родзічы ж... А брата можна было зразумець. Самому ніяк не ўдавалася выканаць майстарскую норму. Нечага не хапала. Так і застаўся першаразраднікам. Вось хацеў мяне бачыць майстрам. А пасля такога фіяска я і зрабіў выбар. Я ж не лічыў цябе за саперніка, калі выведаў, што ўсяго чатыры месяцы займаешся. Думаў, на першых секундах завалю. А тут... Не мог я перажыць... І каму паддаўся — амаль навічку. Які яшчэ і паўгода...

— Калі не ведаць большага, — усміхнуўся Загуменнік. — Мяне два месяцы трэніраваў майстар спорту міжнароднага класа, з Кіева. Да вучобы ў рамесным.

— А, во дзе сабака закапаны, — як не ўсклікнуў Сусіч. — І як жа вашы дарогі сышліся?

— З жонкай у мястэчка наша прыязджаў. Да яе радні, на адпачынак. Сабраў нас, хлопцаў... Паказаў прыёмы і заразіў барацьбой. Слаўныя дзянькі былі. Трэніраваліся на лузе, на пясчаным беразе. Кідалі адзін аднаго ў ваду па трыццаць разоў. Шліфавалі прыёмы, контрпрыёмы. Дзівіўся маёй добрай гнуткасці. Дый я не быў слабаком. Нароўні з бацькам араў, касіў, калоў дровы. Мяхі з мукой цягаў на млын, дзе бацька рабіў. Быў настырны, выйграваў нават у старэйшых. Параіў мне вучыцца ў Мінску і трэніравацца ў Караваева. Прыйсці да яго і сказаць: "Хачу, як вы, быць чэмпіёнам свету і Алімпіяды". А я не паслухаўся, падаўся ў суседняе вучылішча. Бліжэй хацеў да сваіх быць, дапамагаць. У бацькі ўжо са здароўем было кепска. Прайшоў жа ўсю вайну. Так што першым трэнерам быў Дзяніс Атаманаў. Чэмпіён Украіны і пераможац міжнароднага турніру імя Паддубнага.

— Суду ўсё ясна. Гэтага я ўжо ніяк не мог уведаць. Ну, а што далей? Кінуў займацца?

— Па дурноце сваёй... — Загуменнік рэзка сціснуў і расціснуў кулакі на стале перад сабой. — А мо і не толькі... Быў на зборах адзін хлопец, з мясцовых. Сашка, мой прыяцель. У аднаго трэнера займаліся. І неяк зацягнуў дадому мяне і яшчэ аднаго... У выхадны, пасля калектыўнага паходу ў парылку. Адзначыць дзень народзін. У яго ён прайшоў. А хацеў яшчэ з намі... Мамаша была ў бальніцы на дзяжурстве, бацька-дальнабойшчык недзе ў рэйсе, за мяжой. Адчыніў Сашка халадзільнік — повен прадуктаў, адчыніў бар у сценцы — цэлая калекцыя рознага пітва. Гарэлка, віно, каньякі, лікёры, віскі, брэндзі, ром... І ўсе бутэлькі пачатыя. Я дома ніколі самагонкі ў рот не браў. Нават паху не пераносіў. А тут як нешта найшло... Выпілі па фужэры лікёру. Піўся як салодкі сок. Пасля пакаштавалі ўсяго. Здаецца, пілі нямнога і закусвалі... І ўсё ж наклюкаліся. У цябе не было такога?

— Было разок, — усміхнуўся Сусіч. — На адным вяселлі. Тры дні кефірам лячыўся.

— А назаўтра ў дзесяць трэніроўка, — працягваў Загуменнік. — Галовы балаць, моташна, на душы паскудна. Пачалася разміна, а мы не паспяваем. Хістае нас туды-сюды. Мой трэнер быў у Мінску, а вашага ўначы забралі ў бальніцу з апендыцытам. І па яго просьбе заняткі праводзіў нейкі Марозаў. З вашых, адсюль. Прыехаў на "Масквічы". Помню, ён бакавым суддзёй быў, калі мы бароліся. Спыніў размінку: "Што такое?" Пачаў дапытвацца. Сашка ва ўсім прызнаўся. Думаў, адпусціць. А той як акрысіўся: "На зборах піць удумалі! Я сем гадоў займаюся барацьбой і нават ста грамаў не выпіў! Я вам, салагі, зараз пакажу як піць!.." І — нам яшчэ больш інтэнсіўную нагрузку.

— Нельга ж так, — вырвалася міжвольна ў спахмурнелага Сусіча. — Які быў сэнс?.. Абавязаны быў адпусціць. А пазней пагаварыць па-добраму.

— Дзе там... Пачаў ганяць як сідаравых коз. Ганяе і крычыць: "Вось вам як піць! Будзеце ведаць! На ўсё жыццё ў мяне запомніце". Сашка адпрасіўся ў туалет і не прыходзіў. Марозаў паслаў па яго другога майго таварыша па няшчасці. І той не вярнуўся. А я нават вады папіць ужо не магу адпрасіцца. Няёмка неяк. Падумае, здрэйфіў. У галаве адно круціцца — толькі б вытрымаць. Самому кепска, сэрца калоціцца, як не выскачыць. А я ўсё цярплю. Толькі б неяк дацярпець да канца трэніроўкі. А пасля… Калі ўрачы паглядзелі кардыяграму, то сказалі завязаць са спортам. Я заплакаў. Нешта парушылася ў маім сэрцы. І ў войска з-за гэтага не ўзялі. Такая вось гісторыя п'яніцы Грыгорыя. Прабач, Андрэй... Не магу больш сядзець. Не забыцца ў камісіёнку зазірнуць. Шукаю адну рэч, — Загуменнік паглядзеў на свой наручны гадзіннік.

— Паслухай, Алег. Прыедзь-ка да мяне ў Маскву з унукам, — запрасіў Сусіч, вымаючы з задняй кішэні штаноў сваю візітоўку. — Вось мае каардынаты, — працягнуў яе Загуменніку. — Прыму па самым вышэйшым разрадзе. Пагаворым з унукам і пра заняткі барацьбой. На трэніроўку зважу яго. Толькі раней пазвані. Сустрэну вас на вакзале. За праезд і ўсё астатняе не хвалюйся. Маскву вам пакажу, па музеях паходзім.

— Дзякуй, Андрэй... Ты не ўяўляеш, як будзе Данік рады. Прыедзем. Колькі таго жыцця...

Загуменнік развітаўся і хутка пакрочыў да выхаду. І амаль у той жа час, але з супрацьлеглага боку, як па заказе, да стала падышоў чарнявы дзяцюк, на выгляд гадоў пад трыццаць, у сонцаахоўных акулярах з дыоптрыяй, у белай сарочцы з закасанымі па локці рукавамі, такога ж колеру штанах і белых летніх туфлях. Ён парукаўся з Сусічам, парывістым рухам узяў бутэльку са стала, адкруціў закрутку, з прагнасцю зрабіў некалькі вялікіх глыткоў і толькі тады прысеў на лаву.

— З кім гэта вы гаварылі, Андрэй Нікіфаравіч? — пацікавіўся ён, трымаючы на вісу бутэльку.

— Былы барэц адзін... — прамовіў Сусіч, — Алег Загуменнік. Вялікі барэц.

— Нешта не чуў пра такога.

— Нават калі б ты, Ігарок, быў не доктарам, а барцом, то і тады не ведаў бы, — зазначыў Сусіч. — Перапынілі яму спартыўную кар'еру.

— Ці не вы, Андрэй Нікіфаравіч? — зірнуў хітравата Ігар на родзіча. — Сваімі перамогамі над ім?

— Не я, — прамовіў Сусіч. — Мяне ён уклаў за сорак тры секунды. Адзін чалавек... — дадаў і як спахапіўся: — Ты сёння абяцаў нешта паказаць. Не забыўся?

— Ні ў якім разе, — ажывіўся Ігар. — І яшчэ на Буйніцкае заедзем. Там нямецкі танк нядаўна паставілі. Выцягнулі з ракі.

— Тым больш. Тады — у дарогу. Дарэчы, як твае курортнікі дабраліся? Як уладкаваліся?

— Мама званіла, усё добра, — паведаміў Ігар. — Мора не халоднае, плавалі ўжо. Толькі бацька насмарк схапіў. Перакупаўся. На дзюны хадзілі...

— Шкада, мы размінуліся, — пажалкаваў Сусіч. — А хацелася пабачыцца. Асабліва з бацькам.

Яны дапілі піва, дайшлі да бліжэйшай вуліцы, якая перасякала пешаходную і за якой да наступнага, крокаў за семдзесят, перасячэння другой транспартнай, стаялі рознакаляровыя легкавікі. Яны селі ў цёмна-сіні "Форд", і Сусіч накінуў на сябе рэмень бяспекі. Машына кранулася. Калі выехалі на галоўную магістраль, Ігар пачаў уголас разважаць:

— Ну як можна перапыніць спартсмену кар'еру? Несправядлівы трэнер не ўключыў у каманду на важны чэмпіянат, і той, як кажуць, "ляснуў дзвярыма"? Урач не змог траўму вылечыць, бо не так лячыў або немагчыма было? Ад некага прымаў забароненыя стымулятары і за гэта расплаціўся здароўем? Наехаў п'яны вадзіла і паламаў косці?..

— Не займайся гаданнем, — спыніў яго Сусіч. — Зусім не цікавы факт. Асабліва для цябе. Лепей раскажы: у якой рацэ танк знайшлі? У якім месцы?

На яго душы было такое адчуванне, як быццам нечым нябачным ударылі са спіны, наўздагон. Бо трэніроўку ў той далёкі паслябанны дзень праводзіў Ігараў бацька.

# Паляванне... на прыгажосць

## Сёння ў Нясвіжы пачынаецца фестываль «Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў».

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

Летась у нашай некаранаванай старажытнай сталіцы ўпершыню адбылося музычна-тэатральнае свята пад назвай "Вечары беларускай оперы і балета ў замку Радзівілаў". Нават апрыёры ніхто не сумняваўся, што гэты супольны праект Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі ды Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка "Нясвіж" будзе паспяховы і абавязкова атрымае працяг у наступным годзе. Так і адбылося, і цяпер ужо можна сцвярджаць, што з адраджэннем славутага замка звязанае нараджэнне новай традыцыі ў творчым жыцці Беларусі. А ці можна казаць пра перспектыўнасць гэтай прыгожай традыцыі? Можна! Мяркуйце самі: сёлета оперна-балетнае свята працягнецца ўжо не паўтара, а тры дні; пашырыўся яго жанравы абсяг, колькасць музычных праграм. Давялося нават уключыць у фестывальны расклад дадатковы камерны канцэрт у Нясвіжскай ратушы. Бо той адзіны, што быў запланаваны, выклікаў ажыятажную цікавасць, білеты раскупілі вокамгненна, і, як высветлілася, колькасць патэнцыяльных гледачоў значна перавысіла рэальную колькасць месцаў у зале.



З чаго ж складаецца праграма трохдзённага праекта з новай назвай "Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў", які ладзіцца ў Нясвіжы з 24 па 26 чэрвеня? Сёння ў ратушы адбудуцца два канцэрты "Вяртанне раманса" з удзелам салістаў Таццяны Траццяк, Станіслава Трыфанава і струннага квартэта "Серэнада". Для прадстаўнікоў СМІ плануюцца прэс-канферэнцыя арганізатараў і куратараў фестывальных праграм — у прыватнасці, кіраўніцтва НАВТ оперы і балета і Нацыянальнагагісторыка-культурнага музея-запаведніка "Нясвіж", экскурсіі па ратушы і замкавым комплексе. А позна вечарам, калі ў тэатры спектаклі ўжо заканчваюцца, ва ўнутраным двары замка пачнецца ўнікальны і сімвалічны для гэтага легендарнага гістарычнага асяроддзя паказ оперы Уладзіміра Солтана "Дзікае паляванне караля Стаха" — з выкарыстаннем візуальных эфектаў, мастацкага святла, маляўнічых праекцый. Захапляльнае музычна-сцэнічнае відовішча, незалежна ад умоў надвор'я, працягнецца да паўночы.

Назаўтра тамсама, у замкавым двары, і таксама з аншлагам, адбудзецца вечар балета, які складаецца з вялікага канцэртнага аддзялення з удзелам зорак айчыннай сцэны і паказу аднаактовага спектакля "Пахіта" на музыку Людвіга Мінкуса. За некалькі гадзін да гэтага ў Нясвіжскім Касцёле Божага Цела прагучыць прэм'ера араторыі Ігара Хадоскі "Жальбы" на лібрэта Рыгора Барадуліна, Уладзіміра Мархеля, Васіля Сёмухі. Выканаўцы — лаўрэаты вакальных конкурсаў, вядомыя салісты Алена Золава (сапрана), Наталля Акініна (мецца-сапрана), Юрый Гарадзецкі (тэнар), Сяргей Лазарэвіч (барытон), хор і аркестр Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі, артыст-чытальнік Алег Вінярскі. За дырыжорскім пультам выступіць галоўны хормайстар тэатра Ніна Ламановіч. У нядзелю свята завершыцца гала-канцэртам зорак тэатра пад кіраўніцтвам галоўнага дырыжора Віктара Пласкіны.

Заснавальнікамі "Вечароў Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў" з'яўляюцца НАВТ оперы і балета Беларусі, Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік "Нясвіж" пры падтрымцы Міністэрства культуры краіны, Мінскага аблвыканкама, Нясвіжскага раённага выканаўчага камітэта. Генеральны партнёр — кампанія МТС.

***На здымку: салістка Наталля Бундзелева ў спектаклі "Дзікае паляванне караля Стаха".***

# Да сустрэчы, Берлін!

**Семдзесят тысяч чалавек, сто пяцьдзясят адна краіна, два дні — і незлічоныя ўражанні. Такая самая агульная статыстыка Сусветнага фестывалю культуры, які пройдзе 2 і 3 ліпеня ў Германіі на берлінскім стадыёне "Алімпія". Пра гэтае грандыёзнае свята, у якім возьмуць удзел і нашы суайчыннікі, чытачам "ЛіМа" расказвае Ігар САРОКА, каардынатар фестывалю ў Беларусі.**

Фестываль ладзіцца ў гонар 30-годдзя Міжнароднага фонду "Мастацтва Жыцця" з мэтай аб'яднаць людзей розных краін, культур, унесці ўпэўненасць і веру ў заўтрашні дзень, разрадзіць напружаную сітуацыю ў свеце. Што і казаць, у наш час у кожнага хапае праблем, пэўныя складанасці ёсць сёння і ў кожнай краіны. Таму ўдзельнікі фестывалю збяруцца ў Берліне дзеля сцвярджэння і распаўсюджвання ідэалогіі ненасілля і стваральнай дзейнасці на карысць усяго свету — праз умацаванне агульначалавечых каштоўнасцей. На гэтыя пару дзён стадыён "Алімпія" ў Берліне ператворыцца ва ўнікальны дом, дзе будзе панаваць атмасфера свята, міру, гармоніі, радасці. А культурная разнастайнасць, якая ахопіць вялікую фестывальную тэрыторыю, не пакіне абыякавым нікога. Прадстаўнікі розных кантынентаў, многіх і многіх краін створаць уражлівую панараму самабытнасці людзей, якую складаюць нацыянальныя звычаі, традыцыйныя абрады, народнае адзенне, мастацкая творчасць, адметнасці кухні. Святочнае адкрыццё (стадыённы канцэрт) прадставіць самыя яркія танцы ды музыку ўсяго свету.

Падчас працы фестывалю наўкруг "Алімпіі" разгорнецца некалькі павільёнаў. "Павільёны Сусветных Кантынентаў" прадставяць сусветную культурную спадчыну кожнага з чатырох кантынентаў. Кожны зможа спрычыніцца да літаратуры, музыкі, танцаў ды традыцыйных страў Афрыкі, Азіяцка-Ціхаакіянскага рэгіёна, Еўропы, Амерыкі. Тамсама пройдзе міжнародны фестываль вытанчанага вегетарыянскага харчавання. Адмыслова і глыбока будзе прадстаўлена культурная спадчына Індыі як крыніцы ёгі. Дарэчы, адкрыецца і ёга-парк, а спецыялісты розных традыцый гэтай сферы падзеляцца сваім досведам падчас канферэнцыі ды семінараў. Так, павільёны стануць таксама месцам правядзення шэрагу канферэнцый, у ліку якіх Пятая Міжнародная жаночая канферэнцыя, Сусветная маладзёжная ды спецыяльная канферэнцыя, прысвечаная чалавечым каштоўнасцям. Аўтарытэтныя прадстаўнікі розных дзяржаў, дзелавых колаў, кіраўнікі грамадскіх арганізацый, дзеячы навукі, рэлігійныя і духоўныя лідары абмяняюцца меркаваннямі, распаўсюдзяць пасланні міру, адзінства і гармоніі ў шматстайнасці. Асаблівую глыбіню і прыгажосць у фестывальную атмасферу ўнясе знакавая Малітва міжканфесійнага міру.

На фестывалі будзе больш як 150 прадстаўнікоў Беларусі, у прыватнасці, людзі, якія ўдзельнічаюць у міжнародных гуманітарных праектах фонду "Мастацтва Жыцця". Гэта прадстаўнікі творчых прафесій і аматары, педагогі і студэнты. Напрыклад, рыхтуецца да паездкі ў Берлін аб'яднаны калектыў студэнтаў мінскіх ВНУ. Гэтыя маладыя людзі захапляюцца беларускім фальклорам і павязуць на сусветны форум праграму нашых каларытных народных песень з танцавальнымі элементамі. "Паўнамоцныні прадстаўнікамі" самабытнага нацыянальнага фальклору будуць, безумоўна, і разматыя падзелкі, сувеніры з Беларусі.

Абавязкова наша дэлегацыя возьме ўдзел у выкананні гімна фестывалю, што прагучыць над стадыёнам як шматгалосны акорд гармоніі, міру і паразумення між народамі планеты. Ужо сёння вядома, што будзе ўстаноўлены беспрэцэдэнтны рэкорд, які ўвойдзе ў славутую Кнігу Гінеса. Рэкорднай стане колькасць удзельнікаў зводнага ансамбля музыкантаў на фестывальнай сцэне: нават цяжка ўявіць ігру такога грандыёзнага калектыву: больш як 2 тысячы гітарыстаў, 30 піяністаў! Сярод іх — 10 музыкантаў з Беларусі.

Многія нашы суайчыннікі маюць магчымасць трапіць у лік гасцей берлінскага форуму народаў Зямлі. Прынамсі, для работнікаў культуры бясплатна афармляюцца мэтавыя візы, арганізуецца дастатковая колькасць спецыяльных аўтобусных рэйсаў; плата за праезд, знаходжанне ў Берліне і наведванне фестывальных мерапрыемстваў ды павільёнаў не надта вялікая. Я перакананы, што кожны, каму давядзецца наведаць фестываль, які ўшаноўвае каштоўнасці розных культур праз сцвярджэнне гармоніі ў невычэрпнай разнастайнасці нашага агульнага свету, па-новаму адчуе ўласную спрычыненасць да вялікага Мастацтва Жыцця і шчырую неабыякавасць да ўсяго навакольнага.



## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА, фота Віктара Кавалёва і з сайта НАВТ

Бенефіс заслужанай артысткі Беларусі Людмілы Кудраўцавай адбыўся ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета. Яркая прадстаўніца айчыннай харэаграфічнай школы стварыла на сцэне нямала ўражлівых вобразаў: Джульета ў "Рамэа і Джульеце", Ева ў "Стварэнні свету", Фрыгія ў "Спартаку", Аўрора ў



"Спячай красуні", Нэле ў "Легендзе пра Уленшпігеля", Маша ў "Шчаўкунчыку"... А бенефісным для балерыны стаў спектакль "Сільфіда" на музыку Х. Левенсхольда. І гэтым рамантычным балетам, прэм'ера якога адбылася сёлета, тэатр закрыў свой 78-ы сезон.

Хор студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі вылучыўся на міжнародных фестывалях *Festival Harmonie* ды *Klangvocal* у Германіі. Выступленні калектыву пад кіраўніцтвам дацэнта Інесы Бадзякі высока ацаніла журы, ганараваўшы канкурсантаў з Беларусі трыма залатымі дыпломамі і адным срэбным у намінацыях "Маладзёжныя хары", "Камерныя жаночыя хары", "Змяшаныя хары", "Джазавы вакал ды іншыя жанры". Да таго ж на фестывалі ў Дортмундзе хор БДАМ паспяхова ўдзельнічаў у запісе оперы Дж. Вердзі "Карсар" на буйной еўрапейскай студыі *WDR* разам са знакамітымі выканаўцамі, сярод якіх, напрыклад, — колішняя салістка Беларускай оперы Марыя Гулегіна, дырыжор Карла Мантанара.

Паспяхова ажыццявіўшы ўнікальны праект "Чароўная ноч класікі ў музеі пад адкрытым небам", Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр парадаваў публіку яшчэ адной прэм'ерай *open air*. Яна адбылася ля сцен Мірскага замка і ўяўляла сабой вечар старадаўняга раманса. Лепшыя ўзоры гэтага жанру гучалі ў суправаджэнні сімфанічнага аркестра тэатра пад кіраўніцтвам Юрыя Галяса. Спявалі Маргарыта Александровіч, Ганна Бляева,



Наталля Дзяменцьева, Ірына ды Антон Заянчкоўскія, Леся Лют, Анатоль Олех, Сяргей Суцько, Віктар Цыркуновіч ды іншыя салісты. Праграма "Музычныя вечары ў Мірскім замку" запісвалася для паказу на тэлеканале АНТ.

***На здымках: заслужаная артыстка Беларусі Людміла Кудраўцава ў партыі Сільфіды; Мірскі замак.***



*Кандыдат мастацтвазнаўства Людміла Налівайка працягвае сваю даследчую працу, звязаную з тэмай рэпрэсій творчай інтэлігенцыі Беларусі ў 1930-я гады. У рэчышчы гэтага даследавання і публікацыя, прапанаваная сёння ўвазе чытачоў "ЛіМа". У архіве Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Людміла Налівайка выявіла невядомы рукапіс скульптара і педагога Міхаіла Керзіна (1883 —1979), дырэктара Віцебскага мастацкага тэхнікума (1923 —1932), заслужанага дзеяча мастацтваў БССР (1939), прафесара Ленінградскага інстытута жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна (1946 — 1979). Сваю знаходку даследчыца каменціруе так: "Гэта ўнікальны і па сваёй сутнасці страшны дакумент. Рукапісны тэкст пад назвай "К истории Витебского художественного училища" красамоўна даказвае, што не з "маўклівай згоды" асобных грамадзян адбываліся арышты мастакоў і мастацтвазнаўцаў. Міхаіл Керзін выкрывае дзейнасць такіх дзяржаўных устаноў, як Наркамасветы БССР, Інбелкульт у прапагандзе "нацдэмаўшчыны", прытым "пасыпаючы попелам" сваю галаву". Матэрыял публікуецца ўпершыню. Рэдакцыяй зроблены яго скарочаны, адпаведны фармату газеты, варыянт і пераклад на беларускую мову.*

**Аддзел мастацтваў "ЛіМа"**

# «Выкрыццё» з трагічнымі наступствамі



**М. Керзін. "Матэрыял. Да гісторыі мастацкага вучылішча ў Віцебску"**

У 1918 годзе ў Віцебску была, па ініцыятыве мастака Ю. Пэна, адкрыта народная мастацкая школа. Сярод першых выкладчыкаў быў адметны пецярбургскі мастак Дабужынскі. Прыблізна ў тым жа 1918 годзе ў Віцебску пачалі збірацца мастакі-фармалісты на чале з Маркам Шагалам, былым вучнем Пэна, ураджэнцам г. Віцебска. Народная мастацкая школа ў 1920 ці ў 1919 годзе была пераарганізаваная ў Мастацка-практычны інстытут. Дырэктарам інстытута быў зацверджаны Марк Шагал. Інстытут аж но да сваёй рэарганізацыі ў мастацкі тэхнікум быў рассаднікам самых крайніх фармалістычных плыняў. Адтуль вялі сваю мастацкую пропаведзь сам Марк Шагал, супрэматыст Малевіч, Ермалаева, Фальк ды інш.

Да 1923 года прыкметныя фармалісты адно за адным раз'ехаліся, засталіся малакваліфікаваныя маладыя мастакі, якія працягвалі традыцыі фарматворчасці. Пэн усе гады заставаўся ў інстытуце (...). Яго майстэрня і яго вучні не вылучаліся ў гэтых абставінах, улічым яго пачціцы ўзрост. У жніўні 1923 года былы заг. Віцебскага губАНА прапанаваў мне рэарганізаваць Мастацка-практычны інстытут у Мастацкі тэхнікум. Мяне ён ведаў па г. Веліжы, дзе я працаваў са снежня 1919 года. Ён там займаў пасаду заг. павятовага АНА. Я пагадзіўся на ўмовах, калі мне дадуць дазвол выдаліць усіх выкладчыкаў і правесці паўторныя іспыты ўсіх навучэнцаў інстытута. На першае я дакладную згоду не атрымаў, супраць другога не было пярэчанняў. Выпадак дапамог пазбавіцца выкладчыкаў-фармалістаў. Прафсаюз быў настроены супраць іх, бо рэвізія РКК знайшла ў інстытуце вялікія злоўжыванні з пайкамі — большасць наведвальнікаў фармалістычных майстэрняў была фіктыўнымі вучнямі з-за пайкоў, і на праверачныя іспыты з 300 улічаных вучняў з'явілася не больш як 60 чалавек.

Супраць інстытута была настроена і частка губАНА. Інстытут займаў памяшканне сумесна з кансерваторыяй, якая на той час квітнела ў Віцебску. Кансерваторыя дамагалася высялення інстытута. Інстытут упарціўся і не падпарадкоўваўся распараджэнням губАНА. За непадпарадкоўванне і быў зняты рэктар інстытута нейкі таварыш Гаўрыс. Мне было прапанавана прыстасаваць будынак сінагогі па Валадарскай вуліцы для тэхнікума. Я пагадзіўся. Памяшканне было пераробленае ў майстэрню. (...) Выкладчыцкі склад быў падабраны з мастакоў, якія трывала сталі на глебе рэалістычнага мастацтва (...). Для выкладання гісторыі мастацтваў быў запрошаны выпускнік Маскоўскага ўніверсітэта малады мастацтвазнаўца (які ўрэшце аказаўся ворагам народа). Асноўны калектыў мастакоў-выкладчыкаў быў згуртаваны яшчэ ў Пецярбургу прыналежнасцю да адной мастацкай суполкі "Община художников". (...) Аднолькавасць разумення задач савецкага мастацтва дала магчымасць не без поспеху скарыстоўваць калектыўны метад выкладання. Гэтая акалічнасць дыктавалася тым, што сілы мастакоў былі не роўныя. В. В. Волкаў быў мацнейшы за ўсіх жывапісцаў у жывапісе, малюнку і станковай кампазіцыі. Эндэ быў моцны ў дэкаратыўным жывапісе і плакатнай графічнай кампазіцыі, Лебедзева была наймацней за ўсіх у дэкарацыйным мастацтве. (...) Асноўнай дысцыплінай лічылася кампазіцыя. (...) Кампазіцыя пачыналася з простага геаметрычнага арнаменту, кампазіцыі шрыфта, расліннага арнаменту, сілуэта фігуры і г.д., аж да кампазіцыі станковай карціны.

У 1924 годзе кампазіцыйныя работы навучэнцаў, выкананыя пад непасрэдным кіраўніцтвам выкладчыкаў, былі накіраваныя ў Маскву для Парыжскай выстаўкі. Работы атрымалі добрую ацэнку ў артыкуле, што выйшаў у *Московских известиях* (назва — з арыгінала рукапісу. — **Рэд.**) У 1925 годзе тэхнікум наладзіў першую публічную выстаўку вучнёўскіх работ. Паколькі ў Віцебску наогул іншых маст. выставак не бывала, дык на яе вельмі старанна наведвалася шырокая публіка. Характар работ быў зразумелы шырокім масам. На выстаўцы былі прадстаўленыя кампазіцыйныя работы прыкладнога мастацтва, графічнага плакатнага і станковага, скульптура, жывапіс, малюнак. Пачынаючы з гэтай даты, тэхнікум на заканчэнне навучальнага года ладзіў аналагічныя выстаўкі да 1930-га ўключна. Работы навучэнцаў тэхнікума выстаўляліся і ў Мінску на ўсебеларускіх выстаўках. У 1925 годзе пры тэхнікуме было адкрыта керамічнае аддзяленне. Выкладчыкам і кіраўніком гэтага аддзялення быў М. М.Міхалап.(...)



Мэтавая ўстаноўка тэхнікума вар'іравалася амаль штогод, але ў асноўным яна зводзілася да падрыхтоўкі для паступлення ў мастацкую ВНУ і педагагічнай дзейнасці ў якасці настаўніка маляванне. У гады з 1922 па 1932 (...) Віцебск быў апірышчам рэалістычнай установы, і ў ім былі засяроджаныя найбольш кваліфікаваныя мастакі, якія займалі пасады выкладчыкаў тэхнікума. У Мінску ў Наркамасветы сядзелі ворагі (...). Яны вялі двайную гульню ў Мінску, падтрымлівалі фармалістаў. У Віцебскім маст. тэхнікуме ў фармалістычны бок не ўмешваліся, а навязвалі свае заданні па кампазіцыі, галоўным чынам.

Тэхнікуму было вызначана заданне распрацаваць беларускі стыль паводле крыніц, якія даваў Наркамасветы ды інстытут культуры (Інбелкульт. — **Рэд.**). Трэба шчыра сказаць, што выкладчыцкі калектыў тэхнікума ў гэтым не разабраўся, ён прымаў усё за чыстую манету. Стыль шрыфту вынікаў, як з першакрыніцы, са Скарынавага евангелля, арнаментыка са слуцкіх паясоў, сінагагальных роспісаў, з арнаментаў царскіх брамаў і г.д. Асабліва навязваліся сцэны з сялянскага і аднаасобнага жыцця і г.д. Дзякуючы такім таленавітым мастакам, як М. В. Лебедзева, гэты стыль і пачаў паспяхова выкрышталізоўвацца. Адпаведным сродкам служылі штогадовыя паездкі навучэнцаў да сябе на радзіму, адкуль яны прывозілі замалёўкі народных арнаментаў і роспісы старажытных цэркваў, сінагог і г.д. Тэхнікум, на гэта выдаткоўваліся спецыяльныя сродкі, збіраў калекцыі старажытнага беларускага адзення, вышывак. (...)

Становішча тэхнікума было вельмі цяжкае — увесь яго гадавы бюджэт быў 5000 рублёў, уключаючы грошы на зробленыя капітальны рамонт. ГубАНА ўсе сімпатыі аддаваў кансерваторыі і сродкі, што дасылала Масква, галоўным чынам аддаваў ёй. Выкладчыкі тэхнікума і дырэктар атрымлівалі 60 працэнтаў свайго заробку. Вучням сродкі на стыпендыі вылучаныя не былі. Інтэрната не было. З. І. Азгур жыў у тэхнікуме, начаваў у вялікім куфры. Выратоўваў энтузіязм, які згуртаваў калектыў. Каб даць магчымасць існаваць вучням, агромністая бальшыня якіх бедавала, тэхнікум браў усялякія заказы па галінах, вельмі аддалена звязаныя з выяўленчым мастацтвам, як, напрыклад, заказы на шыльды і г. д. Нягледзячы на сістэматычнае недаатрыманне заробку калектыў выкладчыкаў добраахвотна ўзяў на сябе нагрузку і бясплатна адвозіць усе заняткі на вячэрніх курсах малюнка, арганізаваных тэхнікумам.

У 1924 годзе тэхнікум перайшоў на бюджэт беларускага Наркамасветы. Ён атрымаў той будынак, у якім цяпер месціцца Віцебскае мастацкае вучылішча. Бюджэт яго павялічыўся да 18 тысяч. Былі вылучаныя сродкі на стыпендыі вучням. Адна з залаў аддадзена пад інтэрнат.

Летам 1924 года тэхнікум праз вялікую барацьбу атрымаў права на роспіс кіно "Художественный" на вакзальнай вуліцы. Канкураваць давялося з мясцовым знакамітым маляром т. Далгіцарам. Пасля ўмяшальніцтва выканкама перамога засталася за тэхнікумам. Выкладчыцкі склад і навучэнцы паставіліся да гэтай працы з вялікім уздымам. (...) Зала была зроблена паводле эскізаў В.В.Волкава. Насценныя пано прадстаўлялі фігуры рэвалюцыйных герояў мінулага ад Праметэя да рабочага нашых дзён. Фае стваралася паводле эскізаў Эндэ, асабіста ім былі напісаныя насценныя пано, што адлюстроўвалі свята ў вёсцы з чырвонаармейцамі. Работы загінулі часткова ад пажару, часткова былі проста знішчаныя пры рамонце.

У 1929 годзе ўпершыню былі разгромленыя нацдэмы, але подлыя ворагі не былі да канца выкрытыя. Астатнія замаскіраваліся фальшывай барацьбой з нацдэмаўшчынай і пад выглядам гэтай барацьбы яны знішчылі ўсё і намагаліся затармазіць развіццё савецкай культуры. Тэхнікум быў велізарным прыкладам гэтай подлай справы. (...) Я перастаў быць дырэктарам тэхнікума. Мяне змяніў тав.Вольскі, ён удумліва падышоў да тэхнікума, выпраўляючы палітычныя памылкі яго, ён імкнуўся захаваць сістэму мастацкай адукацыі і захаваць кваліфікаваныя кадры выкладчыкаў. На бяду, да восені 1931 года ў дырэктара пралез мацёры вораг народа (прозвішча якога не хачу называць). Пачаўся развал тэхнікума. Сістэма, якая давала свае станоўчыя вынікі, была знішчана. Кваліфікаваныя выкладчыкі-мастакі змушаныя былі пакінуць тэхнікум. Найбагацейшы збор вучнёўскіх работ, назапашаных з 1923 года, — знішчаны. Калекцыя беларускіх тканін, адзення, вышывак разрабавана і знішчана. Праца з натуры выкаранена як фармалістычны занятак. (...)

**Публікацыя Л. Налівайкі**

***На здымках: работы з першай публічнай выстаўкі навучэнцаў тэхнікума (1925, калекцыя НММ Беларусі); Генадзь Мурамцаў, скульптурны партрэт Міхаіла Керзіна (бронза, 1973).***

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ "Залатая Ліцера"**

## Слова краязнаўцы



**Анатоль Трафімчык з Мінска разважае пра значнасць і пачэснасць працы на ніве вывучэння роднага краю:**

— Краязнаўства цягам ХХ стагоддзя стала папулярным, не страціўшы прыцягальнасці і сёння, у ХХІ. Больш таго, гэта галіна гуманітарных даследаванняў апярэдзіла многія кірункі навуковага дыскурсу. Прычым у розных дысцыплінах. Напрыклад, гістарычная навука ў другой палове ХХ стагоддзя звярнулася да актыўнага вывучэння так званай гісторыі з чалавечым тварам (Норман Дэвіс) і пачала інтэнсіўна даследаваць мікрагісторыю, гісторыю штодзённасці, гістарычную антрапалогію. А што казаць пра этнаграфію, фальклярыстыку, мовазнаўства (дыялекталогію)? Як бачна, усё названае цесна пераплятаецца з краязнаўствам, якое нібы ўвабрала гэтыя навукі ў сябе, даўшы ім пры гэтым багатую ніву матэрыялаў.

Цяжкі крыж краязнаўцы… Калі дзейнасць навукоўца, як правіла, абмяжоўваецца афіцыйнай працай, то краязнаўца — гэта перадусім энтузіяст. Хаця значэнне апошняга аніяк не меншае за ролю прадстаўнікоў навукі. А з улікам усіх акалічнасцей, можна сказаць, і больш пачэснае.

Не кожны гэту лямку пацягне. А праца краязнаўцы тым не менш ганаровая. Менавіта дзякуючы ёй асобныя мясцовасці захавалі звесткі пра багатае мінулае — людзей, падзеі, культуру. Беларуская нацыя ўвогуле ўзнікла ў многім дзякуючы краязнаўчым распрацоўкам.

Найноўшы час толькі ўзмацніў важнасць краязнаўства: хаця б з той прычыны, што развіццё цывілізацыі ў ХХ ст. набыло такія тэмпы, што проста на вачах асобна ўзятага чалавека, век якога, на жаль, кароткі, карцінкі быцця мільгаюць з калейдаскапічнай хуткасцю. Навука з яе скрупулёзнасцю, рэвізіяніцскім скептыцызмам, метадалагічнай абумоўленасцю не заўсёды можа ўгнацца за трансфармацыямі — як часавымі, так і ментальнымі. І тут на першы план выходзяць краязнаўцы. Дакладней, яны павінны былі б выйсці. Але, на жаль, далёка не заўсёды так адбываецца. Між тым патэнцыял у беларускага краязнаўства даволі ёмкі. Яго асноваю з'яўляюцца школы і работнікі культуры, асабліва гэта тычыцца сельскай інтэлігенцыі.

## Памёр Іван Вашкевіч...

Ён служыў айчыннай культуры, роднаму слову. Беларушчыне. Іграў на Коласаўскай сцэне. У 1982 — 97 гг. быў генеральным дырэктарам тэатра імя Янкі Купалы. Узначальваў Беларускую канфедэрацыю творчых саюзаў. Рупіўся пра папулярызацыю нацыянальных традыцый прыгожага пісьменства на пасадзе дырэктара Літаратурнага музея імя П. Броўкі... Заслужаны работнік культуры Беларусі Іван Вашкевіч вылучаўся адміністратыўным талентам і любоўю: да тэатра, да роднай літаратуры, культуры. У наступным годзе яму споўнілася б 75...

## Музейны ўнікат

# Партыя ў тысячу гадоў

**На тэрыторыі Кіеўскай Русі, у якую пэўны час уваходзілі землі сучасных Беларусі, Расіі і Украіны, вядома дванаццаць гарадоў, дзе знойдзены шахматныя фігуры. Шаснаццаць фігур знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі. Адной са старажытных шахматных "кропак" з'яўляецца Слуцк, куды мы і запрашаем чытачоў у віртуальную вандроўку.**



**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ, фота аўтара**

Дзейнасць Слуцкага краязнаўчага музея пачалася ў 1952 годзе. Але спачатку ўстанова размяшчалася ўсяго ў двух невялікіх пакоях гарадскога Дома культуры. І толькі ў 1966-м, калі адзначалася 850-годдзе Слуцка, для экспазіцыі і фондаў музея быў перададзены будынак былога Дома дваранскіх сходаў — помнік архітэктуры XVIII стагоддзя. З таго часу музейная справа ў горадзе атрымала новы імпульс.

На пачатак 2000-х гадоў музейныя фонды налічвалі больш як 21 тысячу адзінак захоўвання. Паколькі плошча экспазіцыі складала 280 квадратных метраў, паўстала непазбежнае пытанне пра яе пашырэнне. Таму неўзабаве сваіх наведвальнікаў прынялі два філіялы ўстановы. У чэрвені 2001 года — Музей этнаграфіі, а ў 2005-м — Галерэя мастацтва.

Тым не менш і цяпер асноўнай музейнай пляцоўкай горада застаецца будынак былога Дома дваранскіх сходаў. Сярод экспанатаў краязнаўчага музея наведвальнік убачыць упрыгожванні ІІІ стагоддзя да нашай эры — І стагоддзя нашай эры з гарадзішча Івань, каменныя і бурштынавыя крыжыкі ХІІ стагоддзя, сярэбраны слуцкі пояс, габелен "Паляванне на дзіка" XVIII стагоддзя, вырабы ўрэцкага шкла і цэлы шэраг іншых цікавых экспанатаў з мінулага слуцкага краю. Але прызнаюся, што пры аглядзе экспанатаў маю ўвагу найбольш прыцягнулі шахматныя фігуры.

Гісторыкі лічаць, што адпаведная гульня, верагодна, узнікла ў Індыі ў канцы V стагоддзя нашай эры ў форме так званай чатурангі, у якую гулялі чатыры чалавекі. У VII — VIII стагоддзях яна стала вядомай у арабскіх краінах у форме шатрандж (шатранг), у якую ўжо гулялі два чалавекі. А праз некалькі соцень гадоў гульня трапіла на тэрыторыю Кіеўскай Русі.

Беларуская калекцыя старажытных шахмат складаецца з больш як трыццаці асобных фігурак, якія датуюцца XI—XIII стагоддзямі. Яны знойдзены падчас раскопак у Брэсце, Ваўкавыску, Віцебску, Гродне, Друцку, Копысі, Лукомлі, Мінску, Мсціславе, Навагрудку, Полацку, Рагачове, Слоніме, Тураве і ў гарадзішчы на Менцы (за 12 км ад Мінска). Апошняя знаходка, а таксама фігуры, выяўленыя ў Ваўкавыску і Друцку, найбольш старажытныя: яны датаваныя XI стагоддзем.

Матэрыял, з якога выраблялі фігуры, самы разнастайны. Як пісаў даследчык Станіслаў Цярохін, "пераважная большасць іх выразана або выточана з костак і рагоў. <…> У Друцку і Копысі шахматы знойдзены на месцы старажытных кастарэзных майстэрняў сярод недаробленых касцяных рэчаў, нарыхтовак і іх адходаў. Ёсць драўляныя фігуры, і толькі адна — гродзенская ладдзя — зроблена з пакуль не вызначанага мінералу светла-жоўтага колеру з зялёнымі пражылкамі".

У Слуцкім краязнаўчым музеі знаходзяцца чатыры фігуры: пешка, ладдзя, слон і кароль. Першыя дзве, якія захоўваюцца ў фондах, выразаныя з дрэва. У экспазіцыі прадстаўлены касцяныя фігуры: слон, датаваны XIII стагоддзем, і кароль, старэйшы за яго прыкладна на стагоддзе. Асабліва адметнай падаецца фігура караля. Яна ўяўляе сабой выяву чалавека шляхетнага выгляду ў дарагім галаўным уборы, які сядзіць на троне. Яе вышыня — 6,8 см. Цікава, што бліжэйшы аналаг такой знаходкі вядомы… у Нарвегіі. Як сцвярджае археолаг Леанід Калядзінскі, на тэрыторыі Усходняй Еўропы гэта пакуль што першая знаходка такога кшталту.

Як вядома, першая згадка пра Слуцк сустракаецца ў "Аповесці мінулых гадоў" пад 1116 годам. Таму шахматныя фігуры можна лічыць ці не равеснікамі горада. Цяжка ўявіць, але нашыя прашчуры гулялі ў шахматы яшчэ падчас існавання Полацкага і Турава-Пінскага княства.

З таго часу на беларускай зямлі адбылося багата падзей. Але шахматы так і не зніклі з нашага жыцця. І цяпер, калі грасмайстар з Мінска Барыс Гельфанд змагаецца за сусветную шахматную карону, разумееш, што нічога дзіўнага тут няма. За яго поспехамі — традыцыі беларускіх шахмат працягласцю амаль у тысячагоддзе.

***На здымку: касцяныя шахматныя фігуры: кароль (XII ст.) і слон (XIII ст.).***

## Беларускія прыватныя гербы

# Знакі годнасці і гонару



*Герб "Абданк"*



*Герб "Гут залаты"*



*Герб "Калумна"*

### Герб «Абданк» (зменены)

Уласны герб роду Бялінскіх.

### Герб «Гут залаты»

Уласны герб роду Гутакоўскіх.

### Герб «Калумна»

Гербам карысталіся: Бярлінскі, Вігура, Дакішэвіч, Даўкша, Дукшта, Кажухоўскі, Монтвіл, Пяркевіч, Пяркоўскі, Пярхальскі, Цяцішэўскі.

### Герб «Орля»

Гербам карысталіся: Бардскі, Бергман, Вілямоўскі, Гер'ятовіч, Лудкевіч, Пальчэўскі, Пацэвіч, Плеер, Рамша, Саламановіч.

### Герб «Радван» (зменены)

Гербам карысталіся: Гарбацкі, Канановіч.

### Герб «Рыхтар»

Уласны герб роду Рыхтараў.

**Вядучы рубрыкі — Уладзімір Крукоўскі**



*Герб "Орля"*



*Герб "Радван"*



*Герб "Рыхтар"*

Анатоль КАПЦЮГ,
г. Вілейка

# Іван Фёдараў і маёнтак Хаценчыцы: доказы ўскосныя і прамыя

**Пытанне аб месцы нараджэння расійскага першадрукара да гэтага часу застаецца нявырашаным. Сваю сенсацыйную гіпотэзу прапануе даследчык з Вілейкі.**



### Месца ў Радаводзе

У 1968 годзе польскі гісторык тэхнікі У. Галубіцкі апублікаваў ліст першадрукара Івана Фёдаравіча (так ён называў сябе ў ВКЛ) да саксонскага курфюрста Аўгуста, знойдзены даследчыкам у гарадскім архіве Дрэздэна. Да ліста быў прыклеены папяровы фальц з адбіткам пячаткі з выявай шчыта пад каронай, з выгнутай паласой, увянчанай стралой. Тады і было знята пытанне аб прыналежнасці Івана Фёдарава да пэўнага роду. Вядома, што варыянт герба, які адпавядае выдавецкаму знаку і гербу першадрукара Івана Фёдарава, належыць выключна Рагозам, дваранскаму роду Вялікага Княства Літоўскага. У фондах Вілейскага краязнаўчага музея шмат матэрыялаў з расійскіх і беларускіх архіваў, што тычацца роду Рагозаў, звязанага з паселішчамі і маёнткамі ў межах сучаснага Вілейскага раёна. Гэта дакументы аб межавым судзе, дзе ў пісьмовых крыніцах упершыню ўзгадваецца не толькі горад Вілейка (гэта 1460 год, а не 1599, як раней лічылася), але і прозвішча Рагоза. У судовых справах прымаў удзел Рагозін чалавек Філіп.

Даследаванне роду Рагозаў і яго сувязі з першадрукаром Іванам Фёдаравым прывяло нас да перапісу войска ВКЛ 1528 года, дзе аказалася восем чалавек з прозвішчам Рагоза. Івану Фёдаравічу ў той час было 14 —18 год. Сярод дакументаў з нацыянальных архіваў Беларусі і Расіі па гісторыі населеных пунктаў Вілейскага раёна знайшліся судовыя лісты і акты аб падзеле спадчыны, куплі і продажы частак маёнткаў Хаценчыцы і Лукавец Мінскага павета (сёння вёскі Вілейскага раёна). У дакументах былі адшуканы сем з васьмі Рагозаў — зямян і баяр гаспадарскіх і іх шматлікіх нашчадкаў (восьмы, хутчэй за ўсё, валодаў часткай Маладзечанскага маёнтка). Гэта дало магчымасць скласці радавод роду Рагозаў. Сярод іх быў толькі адзін Фёдар Мірaслававіч Рагоза — баярын гаспадарскі і яго старэйшы сын Багдан Фёдаравіч — падскарбій надворны, па другіх звестках — падскарбій вялікі літоўскі.

Такім чынам, друкару Івану Фёдаравічу знайшлося сваё месца і па часе, і па сітуацыі ў радаводзе Хаценчыцкіх Рагозаў, іншых у той час не было. Плошча іх спадчынных маёнткаў на землях сённяшніх Вілейскага, Лагойскага і Маладзечанскага раёнаў складала каля 40 тысяч гектараў, хаця, напэўна, былі і меншыя маёнткі (пасагі ад шлюбаў).

### Іван сын Фёдара Масквіцін

Пра Івана Фёдарава (Фёдаравіча), праслаўленага асветніка і маскоўскага першадрукара, напісана мноства кніг, манаграфій, артыкулаў, а сайтаў у Інтэрнэце не злічыць. Затрымаюся толькі на асобных момантах яго біяграфіі, якія маюць дачыненне да гэтага аповеда.

1510 год падаецца ў навуковай літаратуры як самы ранні час яго нараджэння. Калі Іван Фёдаравіч стаў студэнтам у 1529 годзе, што вядома з актавых кніг Кракаўскага ўніверсітэта, то апошні магчымы год нараджэння — 1515-ы (ва ўніверсітэты таго часу набіраліся студэнты ва ўзросце не менш як 14 год). У альбоме ўступных запісаў універсітэта ў 1529 годзе ўпісаны нейкі Іван сын Фёдара з Петкавіч. Пра месцазнаходжанне гэтага населенага пункта дыскусіі яшчэ не скончыліся. Хачу толькі заўважыць, што за 15 кіламетраў ад Хаценчыц, у паўночнай частцы Мінскага раёна, ёсць вёска Пецькавічы. Розніца толькі ў мяккім знаку, які не сустракаецца ў дакументах XVI стагоддзя. Так, на надмагільнай пліце друкара напісана "ЛВОВЕ", а не "ЛЬВОВЕ". У кнізе прысуджэння ступеней Кракаўскага ўніверсітэта пазначана, што ў 1532 годзе ступень бакалаўра атрымаў "Іван Фёдараў Масквіцін", і далей, да 1564 года, біяграфія яго пакуль не вядома даследчыкам.

Упершыню імя Івана Фёдарава ўпамінаецца ў пасляслоўі да Апостала — першай датаванай маскоўскай друкаванай кнігі, якую ён выдаў з Пятром Мсціслаўцам 1 (10) сакавіка 1564 года. Імі было надрукавана яшчэ некалькі кніг у Маскве, а потым у 1566 годзе яны перасяліліся з Масквы ў Вялікае Княства Літоўскае, прыхапіўшы з сабой усе друкарскія матэрыялы, акрамя вялікага абсталявання. Маёнткі Лукавец і Хаценчыцы знаходзіліся (і знаходзяцца) на перакрыжаванні шляхоў з Мінска ў Полацк (Даўгінаўскі тракт) і з Барысава, а значыць і з Масквы, у Вільню. Іван Фёдаравіч па дарозе мог пакінуць у сваякоў цяжкі багаж і падарожнічаць далей.

Да 1570 года Іван Фёдаравіч выдаваў кнігі ў Заблудаўскай друкарні ў маёнтку Хадкевічаў. Між іншым, адзін з братоў Хадкевічаў — сусед Рагозаў, яму належалі ў той час маёнткі Даўгінава і Пагост (цяпер Вілейскі раён) на процілеглым беразе Віліі. Затым друкар пераехаў у Львоў, бо пасля падпісання уніі з Каралеўствам Польскім у 1569 годзе ўскладніліся грамадска-палітычныя стасункі, і Заблудаўская друкарня перастала існаваць. Хадкевічы ж, застаючыся праваслаўнымі, страцілі свае высокія пасады. Заснаваўшы друкарню ў Львове, а пазней і ў Астрозе, спадчынным маёнтку князёў Астрожскіх, Іван Фёдаравіч выдаў нямала добра аздобленых кніг, у тым ліку знакамітую Астрожскую Біблію — першую поўную Біблію на праваслаўнай прасторы.

Ёсць звесткі, што друкар Іван Фёдаравіч быў яшчэ і майстрам ліцейнай справы, механікам і наогул рознабакова адукаваным чалавекам, ведаў некалькі еўрапейскіх моў, латынь. Якасць выдадзеных ім кніг была вельмі высокай, нават пераўзыходзіла многія еўрапейскія. Памёр Іван Фёдаравіч 5 (15) снежня 1583 года ў Львове, пахаваны быў у Ануфрыеўскім манастыры. На магільнай пліце, па баках каменя надпіс: "Иоанн Фёдорович Друкарь Москвитин, который своим тщанием друкование занедбалое обновил…" З надпісу ўзнікае яшчэ адно пытанне: калі "…друкование занедбалое обновил…" гэта азначае, што яно існавала раней, толькі яго занядбалі. Абнавіць можна тое, што было…

### Род Рагозаў

Літаратуры і копій архіўных дакументаў, якія захоўваюцца ў Вілейскім краязнаўчым музеі, было дастаткова, каб скласці радавод Рагозаў на XVI стагоддзе — час жыцця Івана Фёдаравіча. Верагодна, род быў заснаваны ў пачатку XV стагоддзя, як і большасць шляхецкіх родаў не княжацкага паходжання ВКЛ. Заснавальнік рода Рагоза, сварлівы чалавек, разам з уганараваннем атрымаў у валоданне каля 40 тысяч гектараў раллі, лясоў, лугоў і пустак ад Маладзечна да Крайска Лагойскага раёна і на рацэ Сэрвач. Напэўна, значнымі былі яго заслугі перад вялікім князем. У спісах высокіх чыноўнікаў таго часу Рагозаў няма, хутчэй за ўсё гэта былі вайсковыя заслугі.

У пачатку XVI стагоддзя вялікі маёнтак ужо быў раздроблены, падзелены паміж нашчадкамі. Да канца стагоддзя ўсе дробныя часткі маёнткаў Хаценчыцы і Лукавец распрададзены ці перайшлі нашчадкам па жаночай лініі, застаўся толькі маёнтак Сэрвач. Рагозы пачалі перасяляцца пад Магілёў і Оршу, пазней у Расію. Сёння ў памяць пра іх захавалiся дзве вёскі: Рагозіна каля Крайска і Рагазы пад Маладзечнам. Каля Магілёва і Оршы ёсць населеныя пункты з такімі ж назвамі.

Адметнай рысай роду таго часу была вернасць праваслаўю, таму пасля падпісання уніі з Каралеўствам Польскім Рагозы (далёка не ўсе) пачалі перасяляцца на ўсход княства, затым — пад Калугу і Цвер.

Прыналежнасць Івана Фёдаравіча да шляхецкага роду Рагозаў навукай пад сумненне не ставіцца, іншая справа — прыналежнасць да маёнтка Хаценчыцы. Усё напісанае вышэй, кажучы тэрміналогіяй крыміналістаў, доказы ўскосныя (пасведчанне аб нараджэнні, што магло б стаць прамым доказам, пакуль не знойдзена), але ёсць запіс у адным з дакументаў, які тычыцца маёнтка Хаценчыцы. Частка маёнтка Хаценчыцы, спадчына Фёдара, называецца "Багданаўскай і маскоўскай" — падзелена паміж нашчадкам Багданам і невядомым "маскоўскім нашчадкам". А гэта ўжо прамы доказ, які відавочна паказвае на Івана Фёдаравіча друкара Масквіціна.

# Жывы агонь на Замкавай гары

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота Святланы Вакулы

**Гукі дуды лунаюць над замчышчам. Дзяўчаты танчаць у рэканструяваных строях мінулых стагоддзяў. Мужчыны ў кальчугах і адмысловых скураных ваенных уборах. Бугурты, адзінаборствы, эстафета, вайсковыя забавы, выступленне музыкаў, прадстаўленне даўніх рамёстваў і пляцоўкі "жывой археалогіі"… У старажытным Браславе, на Замкавай гары, прайшоў II фестываль сярэднявечнай культуры "Меч Брачыслава", што ладзіўся ў межах міжнароднага свята "Браслаўскія зарніцы". У фэсце прынялі ўдзел больш як 130 сяброў клубаў гістарычнай рэканструкцыі з Віцебска, Мінска, Ліды, Полацка, Наваполацка, Брэста, Санкт-Пецярбурга і Бранска.**

Сама назва фэсту "Меч Брачыслава", у якасці арганізатара якога выступае Браслаўскае музейнае аб'яднанне, ад самага пачатку была рабочай, але прыжылася і, думаецца, трывала замацавалася за святам сярэднявечнай культуры ў гэтым старажытным горадзе.

— Летась, калі святкавалася 945-годдзе Браслава, у фэсце прымалі ўдзел сябры клубаў гістарычнай рэканструкцыі ў асноўным з Віцебшчыны, сёлета яго геаграфія значна пашырылася, — распавёў Аляксандр Панцялейка, дырэктар Браслаўскага музейнага аб'яднання. — Пры гэтым не было жорсткага абмежавання па рэканструяваным перыядзе для клубаў.

Але нягледзячы на адсутнасць абмежаванняў, склад удзельнікаў сёлетняга фэсту апынуўся досыць роўным па рэканструяваным перыядзе. Так, на Замкавай гары з'явіліся шатры скандынаваў эпохі вікінгаў — канец IX — пачатак XI ст. (клубы "Варгенторн", "Наглфар"), жыхароў Дзвінскага і Днепра-Дзвінскага рэгіёнаў ранняга сярэднявечча (Nordry, Try varing і "Крыўя"), рыцараў-тамплieраў XII — XIV ст. ("Полацкая камандорыя Ордэна Паўночнага храма"), ВКЛ і Польшчы 1350—1500 гг. ("Чорны Война")... Непаўторны каларыт фэсту надавалі і выступленні гуртоў "Люташ" (Мінск), "Княжыч" (Полацк), дудовая музыка ў выкананні пана Скіргайлы (Мінск).



Здавалася б, што адметнага ў Браслаўскім фэсце? Звычайныя вайсковыя забавы, шатры, сярэднявечная кухня і ўсе элементы, што ўжо сталі традыцыйнымі. Але не, тут ёсць і свае "фішкі". Адна з іх — сімвалічнае запальванне Жывога агню пры дапамозе спецыяльнай тэхналогіі (шляхам трэння). Упершыню гэты эксперымент правялі браслаўскія аматары "жывой археалогіі", цяпер запаліць агонь у іх атрымліваецца досыць хутка і пры любым надвор'і. Асаблівасцю фэсту можна назваць і яго "адукацыйную частку" — экскурсію з расповедам пра народныя рамёствы (у гэтым годзе акцэнт быў зроблены менавіта на іх), што правяла загадчык Браслаўскага музея традыцыйнай культуры Эла Зінкевіч.

Разважаючы пра перспектывы развіцця фэсту, арганізатары адзначаюць імкненне надаць яму археалагічны ўхіл, звязаць свята з "жывой археалогіяй", правядзеннем эксперыментаў, семінараў, майстар-класаў з дэманстрацыяй тэхналогій, мірных рамёстваў і вайсковых заняткаў. Але што падразумяваецца пад такім дзіўным на першы погляд панецем, як "жывая археалогія"? Бо з усёй сістэмы гістарычных навук менавіта археалогія — самая жывая і рэальная. Пра гэта распавёў кіраўнік групы "жывой археалогіі", супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь Мікалай Плавінскі, які, дарэчы, сам неаднаразова праводзіў раскопкі на Браслаўшчыне:

— "Жывая археалогія" — пераклад з англійскай мовы тэрміна "living archeology" ці "living history" — назва для напрамку даследаванняў, калі звычайныя навуковыя дадзеныя дапаўняюцца звесткамі, атрыманымі ў выніку эксперыменту. Зазвычай археалогія мае справу з мёртвай матэрыяльнай культурай — да нас даходзіць толькі невялікая частка сапраўдных артэфактаў, зазвычай у фрагментарным стане. А дзякуючы эксперыментам, што праводзяцца на розным узроўні, і навуковым, і тэхнічным, мы маем магчымасць атрымаць больш дакладнае ўяўленне і пра тое, як выглядалі старажытныя людзі — кшталту таких, што ходзяць тут і цяпер (*смяецца*): у сапраўднай вопратцы, з сапраўднымі ўпрыгажэннямі. Натуральна, гэта вельмі важна для аднаўлення аўтэнтычных нацыянальных уяўленняў нашага народа.

***На здымку: удзельнікі фэсту падчас вайсковых забаў.***

# Прымаем калектыўную

Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА,
Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ,
фота Кастуся Дробава

**Мінскі гаркам прафсаюза работнікаў культуры аб'ядноўвае шматлікія творчыя калектывы сталіцы і вобласці, адпаведныя вышэйшыя навучальныя ўстановы, спартыўныя і фізкультурныя арганізацыі, а таксама сродкі масавай інфармацыі. У Мінску існуе 124 прафсаюзныя арганізацыі, у сталічнай вобласці іх 199, на ўліку якіх знаходзіцца 24320 сяброў.**



*Віктар Маліноўскі*



*Валерый Прышчэп*



*Святлана Каліноўская*



*Аляксандр Пятровіч*



*Людміла Шугаева*



*Галіна Камароўская*

Як наймальнікі ставяцца да прафсаюзаў? Ці распаўсюджваецца калектыўная дамова на ўсіх працаўнікоў? Якім чынам прафсаюз можа ўнесці змены ў гэты дакумент? На якіх падставах?

На гэтыя і іншыя пытанні спрабавалі знайсці аргументаваныя адказы ўдзельнікі "круглага стала", які арганізавалі Мінскі гаркам прафсаюза работнікаў культуры і рэдакцыя "ЛіМа". У ім прынялі ўдзел Віктар Маліноўскі, старшыня Мінскай гарадской арганізацыі Беларускага прафсаюза работнікаў культуры; Андрэй Кухарэнка, старшыня прафсаюзнага камітэта Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь; Людміла Шугаева, старшыня прафсаюзнага камітэта Цэнтралізаванай сістэмы дзіцячых бібліятэк г. Мінска; Святлана Каліноўская, старшыня прафсаюзнага камітэта Алімпійскага спартыўнага комплексу "Стайкі"; Валерый Прышчэп, старшыня Барысаўскага райкама прафсаюза работнікаў культуры; Алена Шацько, старшыня прафкама студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі; Аляксандр Пятровіч, дырэктар Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра; Таццяна Ждановіч, старшыня прафсаюзнага камітэта Беларускага дзяржаўнага ансамбля "Песняры"; Галіна Камароўская, старшыня прафсаюзнага камітэта ААТ "Чырвоная зорка"; Марына Сабалеўская, старшыня прафсаюзнага камітэта мінскага стадыёна "Дынама"; Генадзь Апанасенка, галоўны прававы інспектар працы Мінскага гаркама прафсаюза работнікаў культуры.

Адкрываючы сустрэчу, старшыня гаркама прафсаюза **Віктар Маліноўскі** адзначыў, што калектыўная дамова паміж наймальнікам, прафсаюзам і працоўным калектывам — дакумент, пры прыняцці якога ўзнікае нямала спрэчак. Задача прафсаюзных арганізацый — зрабіць усё неабходнае, каб абараніць правы працоўных, зрабіць іх не статыстамі, а ўдзельнікамі стварэння такіх важных дакументаў.

**Валерый Прышчэп:**
— Разумеецe, наймальнікі зацікаўлены, каб быў адзіны дакумент, па якім жыве калектыў, і каб максімальная колькасць працаўнікоў была ахоплена прафсаюзам. Наш райкам прафсаюза аб'ядноўвае 15 арганізацый. І я як старшыня не адчуваю нейкіх цяжкасцей. Што тычыцца змен у дамову… Мы прапаноўваем іх уносіць. Напрыклад, прадугледжана магчымасць браць адпачынак за свой кошт працягласцю да 60 дзён, можна дзяліць адпачынак на тры часткі.

**Святлана Каліноўская:**
— Наш наймальнік — Алег Сполак — сам час ад часу бывае ініцыятарам розных цікавых прапаноў. Па ініцыятыве прафсаюза да аплачваемага адпачынку, што прадастаўляецца на час сесіі, мы дадалі тры дні. Доўгі час адміністрацыя не аказвала матэрыяльнай дапамогі на набыццё агародніны. Аднак у калектыўнай дамове, якая была заключана сёлета, гэта прадугледжана.

**Галіна Камароўская:**
— Наймальнік хоча даць работнікам больш льгот, чым нават прафсаюз. Я лічу, што льгот дастаткова, і павялічваць іх не мае сэнсу — дай Бог, каб гэта выканаць.

**Аляксандр Пятровіч:**
— Пры распрацоўцы дамовы ідзе карпатлівая праца па пошуку кампрамісу. Любы работнік лічыць, што максімальна магчымае трэба атрымліваць з мінімальнай аддачай. Перад кіраўніком стаіць іншая задача. Па-першае, клапаціцца пра ўсіх аднолькава і даць магчымасць зарабляць грошы. Але ў той жа час зарабляць на агульную карысць. Парой старшыні прафсаюзных камітэтаў, прадстаўнікі калектыву не ведаюць усіх праблем, якія ёсць у арганізацыі, фінансавага становішча. Таму ў працэсе работы над калектыўнай дамовай заўжды ўзнікаюць спрэчкі. Ва ўсялякім выпадку, у маёй практыцы яшчэ не было такога, каб мы аднадушна прымалі той ці іншы пункт — толькі калі ён не строга ў межах заканадаўчай базы. Але кампрамісы знаходзім, яны бываюць розныя. Акрамя традыцыйнага запісу "пры наяўнасці грашовых сродкаў" мае месца і такая форма: калектыўная дамова прымаецца за аснову, а некаторыя пункты затым разглядаюцца асобна і, адпаведна, уносяцца (ці не ўносяцца) змены.

**ЛіМ:**
— Наколькі хутка можна адрэагаваць і ўнесці некаторыя змены ў дамову?

**Аляксандр Пятровіч:**
— У многім гэта залежыць ад фінансавага становішча. Калі яно дазваляе — уносім папраўкі. Калі не — я супраць. Усё вырашаем па выніках года.

**Андрэй Кухарэнка:**
— Правільна кажа Аляксандр Яўгенавіч: трэба ведаць спецыфіку работы, гаспадарчую дзейнасць прадпрыемства, для таго каб граматна пабудаваць калектыўную дамову. І каб пункты працавалі, а не былі галаслоўнымі. Што тычыцца змен… Мы прынялі дамову за аснову, а на працягу года ўжо ўнеслі чатыры дапаўненні. Калі ёсць магчымасць і згода ўсіх бакоў, унесці дапаўненні можна літаральна на працягу тыдня. Не трэба гэтага баяцца. Я заўжды тлумачу людзям, што калектыўная дамова замацоўвае асноўныя параметры, а нюансы, адносна якіх мы ў дадзены момант не можам знайсці пагадненне, можна пакінуць на дапрацоўку.

**Віктар Маліноўскі:**
— Як старшыня гаркама прафсаюза работнікаў культуры Мінска і Мінскай вобласці я шчыра ўдзячны наймальнікам. Гэта — людзі дзяржаўныя. Яны разумеюць, што толькі ва ўзаемадзеянні можна дабіцца выніку і ісці наперад.

**Людміла Шугаева:**
— Мы — бюджэтнікі, і казаць пра сур'ёзныя даплаты не даводзіцца. Калі складалі дамову, несупадзення думак не было. Дамова абмяркоўвалася практычна тры месяцы, але асноўныя пункты ўлічаны.

**Алена Шацько:**
— Роля студэнцкага прафсаюза выяўляецца ў іншым. Вельмі важная юрыдычная кансультацыя: калі на першым курсе каля дваццаці працэнтаў студэнтаў працуе, то на пятым — практычна дзевяноста. І ў асноўным усе пытанні звязаныя з працоўным правам. Другі важны напрамак нашай работы — аздараўленне. Так, першакурснікі не адразу пагаджаюцца ўступіць у прафсаюз, але да канца года, як правіла, самі прыходзяць і пішуць заяву.

**Марына Сабалеўская:**
— Гадоў дванаццаць назад была прынята калектыўная дамова, і вельмі моцная. Асноўныя палажэнні былі закладзены яшчэ тады, і яны засталіся цяпер.

**Віктар Маліноўскі:**
— Згодзен. Там людзі актыўна працуюць і ніхто не скардзіцца на нейкія парушэнні.

**Марына Сабалеўская:**
— Таму што дамова выконваецца. Працаўнікі атрымліваюць матэрыяльную дапамогу на набыццё агародніны, мы адпраўляем дзяцей у аздараўленчыя лагеры, прычым бацькі ў выніку аплачваюць толькі дзесяць працэнтаў кошту пуцёўкі. І гэта закон — пры любым фінансавым становішчы. Ёсць у нас у калектыўнай дамове і запіс, што працаўнік, які самастойна набыў пуцёўку на аздараўленне, можа звярнуцца да наймальніка з заявай на аплату да 50 працэнтаў яе кошту.

**ЛіМ:**
— Так, прафсаюз дапамагае. А як прывабіць у яго?

**Таццяна Ждановіч:**
— Наша арганізацыя была створана чатыры гады таму, дарэчы, па ініцыятыве наймальніка. Калі мы агітавалі работнікаў уступаць у прафсаюз, не ўсе пагаджаліся. Нікому ніколі не адмаўлялі. І ўжо за два гады змяніліся адносіны — людзі бачаць добрыя справы прафсаюзнай арганізацыі. Калі ў калектыў прыходзіць новы чалавек, нашы артысты раяць: "Пішы заяву на ўступленне ў прафсаюз! Не пашкадуеш!" У артыстаў вельмі насычаны графік, але мы знаходзім час і арганізоўваем паездкі, спартыўныя мерапрыемствы, экскурсіі… Не трэба шмат гаварыць, трэба рабіць.

**ЛіМ:**
— У вас сто працэнтаў калектыву — члены прафсаюза, але ёсць і дзевяноста, дзевяноста пяць. Між тым калектыўная дамова распаўсюджваецца на ўсіх. Ці згодны вы з такім становішчам?

**Святлана Каліноўская:**
— У нас у адным з пунктаў калектыўнай дамовы сказана, што распаўсюджваецца яна толькі на членаў прафсаюза. Аднак мы не крыўдзім астатніх працаўнікоў — у матэрыяльным плане. Калі што-небудзь арганізоўваем — так, чалавек можа застацца ўбаку.

**Галіна Камароўская:**
— У нас зусім па-іншаму. Калектыўная дамова распаўсюджваецца на ўсіх без выключэння членаў калектыву. Таму што друкар, які атрымлівае добрую зарплату, не заўсёды хоча аддаваць грошы ў прафсаюз. І ты яго нічым не зацікавіш. Ён мае дастаткова сродкаў, і прафсаюз яму не патрэбен. Тое, што вы казалі, не падыходзіць да арганізацый, дзе працуюць рабочыя. Таму ўсё, што ёсць у калектыўнай дамове, распаўсюджваецца на ўсіх. Аздараўленчы лагер у нас аплачвае прадпрыемства, матэрыяльную дапамогу аказвае наймальнік. Прафсаюз аплачвае білеты, арганізуе бясплатныя паездкі.

**Аляксандр Пятровіч:**
— Многія работнікі часам не разумеюць адной дэталі: усё, што яны атрымліваюць ад наймальніка, яны атрымліваюць дзякуючы прафсаюзу. Вось канкрэтны прыклад. Калі ў творчым калектыве ўзнікае пытанне наконт прыняцця ці непрыняцця калектыўнай дамовы, я як дырэктар кажу так: "Я за тое, каб калектыўная дамова не была прынята. У мяне тады з'явіцца эканомія сродкаў". Але ж работнікі згубяць прэмію, матэрыяльную дапамогу, дадатковы адпачынак, даплаты, льготы… Таму роля прафсаюза ў арганізацыі каласальная ўжо таму, што заключаецца калектыўная дамова. У савецкі час гаварылі "сумленныя і несумленныя людзі". Я ж хачу сказаць пра спажыўца. Чалавек, які атрымлівае добры заробак і не хоча дапамагаць калектыву (а ў прафсаюзе на баку кожнага выступаюць усе), аднак карыстаецца ўсімі выгодамі, якія дае яму наймальнік… У гэтым выпадку я за тое, каб калектыўная дамова распаўсюджвалася толькі на членаў прафсаюза. Яна размяркоўвае сродкі наймальніка. Аднак наймальнік мае права ўпісаць у яе пункт, згодна з якім матэрыяльная дапамога члену прафсаюза вышэйшая, чым іншым работнікам. Тое ж і даплат тычыцца. Гэта я яшчэ не скарыстаў, але ўжо падыходжу да такога рашэння. Таму што ўтрыманства — страшная рэч. Яно, нібы ржа, раз'ядае наша грамадства. І калі мы ставім пытанне, што можна зрабіць, каб колькасць членаў прафсаюза ўзрасла, я хачу сказаць, што гэта залежыць у першую чаргу ад двух чалавек: кіраўніка арганізацыі і старшыні прафсаюза. Калі яны будуць працаваць у пары, рабіць адну справу, тады калектыў арганізацый узрасце. Аднак у той жа час у чалавека павінен быць стымул.

**Андрэй Кухарэнка:**
— Правільна! Мы прапісалі, што калектыўная дамова распаўсюджваецца толькі на членаў прафсаюза. І гэта адна з матывацый уступлення ў прафсаюз. Мы ствараем агульную касу і затым, калі хтосьці мае патрэбу, дапамагаем. Яшчэ адна матывацыя — абарона правоў нашых працаўнікоў. Бывае, дырэктар не можа напрамую звярнуцца да, скажам, міністра. А прафсаюз мае такое права. І мы рабілі гэта. Трэба разумець, што калектыўную дамову заключылі два бакі — наймальнік і прафсаюз. А калі вы не там і не там, вы трэці бок. І атрымліваецца, вам неабходна альбо заключаць дамову з наймальнікам, або ўступаць у прафсаюз.

**Валерый Прышчэп:**
— Мы гэта пытанне паспрабавалі вырашыць: запісалі ў калектыўнай дамове, што распаўсюджваецца яна толькі на членаў прафсаюза, а на астатніх працаўнікоў — толькі са згоды наймальніка і прафсаюза.

**Андрэй Кухарэнка:**
— Мы закранулі матэрыяльны бок. І часам, вырашаючы гэтыя пытанні, забываем, што задача прафсаюза ў першую чаргу — абарона правоў і інтарэсаў працаўнікоў. Галоўнае — прытрымлівацца ка-

# дамову!

лектыўнай дамовы. Калі не будзе прафсаюза, хто будзе гэта кантраляваць?

**Генадзь Апанасенка:**

— Гэта праблема, па якой можна не толькі “круглы стол” праводзіць. Пра яе кажуць на ўзроўні Федэрацыі прафсаюзаў не першы год. У самім Працоўным кодэксе закладзена супярэчнасць. З аднаго боку, прафсаюзам далі права заключаць калектыўную дамову. А ў артыкуле “Сфера дзеяння калектыўнай дамовы” няма яснай пазіцыі, дзе было б напісана, ці на ўсіх працаўнікоў яна распаўсюджваецца. Прафсаюз, калі заключае калектыўную дамову, абараняе інтарэсы ўсяго калектыву. З другога боку, гэта грамадская арганізацыя: хто хоча — уступае, хто не хоча — не. Гэта пытанне пастаянна выносіцца на абмеркаванне, аднак пакуль яно не вырашана. Таму мы вырашаем яго, напрыклад, праз тарыфныя пагадненні, што заключаюцца на ўзроўні галіны. Нашы сацыяльныя партнёры разумеюць гэту сітуацыю, таму ўсюды прынята прыкладна такая фармуліроўка: “Калектыўная дамова распаўсюджваецца на членаў прафсаюза. На тых, хто не з’яўляецца членамі прафсаюза, калектыўная дамова распаўсюджваецца з пісьмовай згоды бакоў, якія падпісалі гэту дамову”. Лічу, гэта фармуліроўка не парушае нічыіх правоў і інтарэсаў. Ніхто нікога не адрывае ад калектыву. Не хочаш быць членам прафсаюза — ніхто не прымушае. Але ў гэтым выпадку ты нешта страчваеш. Калі ты член прафсаюза — нешта знаходзіш.

**ЛіМ:**

— Ці апраўдвае сябе кантрактная сістэма? І ці даводзіцца прафсаюзам умешвацца?

**Валерый Прышчэп:**

— Што тычыцца сферы бюджэтнага фінансавання, дагэтуль мала што выконвалася.

**Галіна Камароўская:**

— Кантракт — вельмі добра! Дзякуючы яму мы можам падняць людзям заробак. У нас якая тарыфная стаўка першага разраду? А тут — пяцьдзясят працэнтаў наймальнік даў за адно, потым за другое…

**Валерый Прышчэп:**

— А заключаць кантракт ці дамову на нявызначаны тэрмін — права выбару кожнага.

**Аляксандр Пятровіч:**

— Ёсць людзі, што прыходзяць і пішуць заяву: перавядзіце мяне на дамову… Менавіта тая катэгорыя, што ўвогуле працаваць не хочуць.

**Генадзь Апанасенка:**

— Пасля прыняцця Указа Прэзідэнтам большая частка арганізацый бюджэтнай сферы, асабліва ў Мінскай вобласці, што мелі мінімальныя павышэнні тарыфнай стаўкі, а гэта больш як пяцьдзясят працэнтаў, перайшлі з працоўнага кантракта на працоўную дамову на нявызначаны тэрмін.

**Аляксандр Пятровіч:**

— Кантракт — той дакумент, які дазваляе кіраваць, рэгуляваць адносіны паміж наймальнікам і работнікам. Законным шляхам даць надбаўку, павялічыць заробак.



*Марына Сабалеўская*



*Андрэй Кухарэнка*



*Алена Шацько*



*Таццяна Ждановіч*



*Генадзь Апанасенка*

*«Круглы стол» выявіў простую ісціну: няма ў арганізацыі прафсаюза — няма калектыўнай дамовы. А значыць, няма і дадатковых льгот, дадатковых гарантый працоўных і сацыяльных правоў працаўнікоў, матэрыяльнага стымулявання. А таму цяжка пераацаніць ролю прафсаюза ў арганізацыі.*

## Нашы лаўрэаты

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

**Яны знайшлі адно аднаго: артыст — свой тэатр, тэатр — свайго акцёра. Ці не таму гэтак шчасліва складваецца лёс Віктара Цыркуновіча ў мастацтве, а родны творчы калектыў прызнае ўнікальнасць яго таленту і шчыра шануе за высокае майстэрства?**



# Тэатр Віктара Цыркуновіча

Прыйшоў ён у Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр восем гадоў таму, адразу пасля заканчэння альма-матар. Выпускнік вакальна-харавога факультэта Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі (клас незабыўнага майстра айчыннай опернай сцэны, народнага артыста СССР Аркадзя Саўчанкі), Віктар Цыркуновіч вылучаўся не толькі адметнымі вакальнымі ды акцёрскімі здольнасцямі, але ўжо і прафесійнымі дасягненнямі. У гады студэнцтва стаў лаўрэатам Мінскага абласнога конкурсу вакалістаў “Убельская ластаўка”, прысвечанага Станіславу Манюшку, і лаўрэатам міжнароднага конкурсу маладых оперных выканаўцаў “Салаўіны кірмаш” імя Анатоля Салаўяненкі (Данецк, Украіна).

Першыя ролі? Стойкі алавяны салдацік у аднайменным спектаклі для дзяцей, афіцэр Макараў у рок-оперы «“Юнона” і “Авось”», Даніэль у класічнай аперэце “Капялюш Напалеона”. Дастаткова было і гэтых трох разнапланавых вобразаў, увасобленых дэбютантам, каб і калегі, і знаўцы музычна-тэатральнага мастацтва зразумелі: на беларускай сцэне з’явіўся сапраўды ўніверсальны малады артыст з багатым творчым патэнцыялам.

Цяпер у рэпертуары вядучага майстра сцэны больш як тры дзясяткі шматстайных роляў.

Яркая індывідуальнасць Віктара Цыркуновіча, тонкае адчуванне сінтэтычнай прыроды музычнасцэнічнага мастацтва, стылістыкі пэўных жанраў, высокая культура і густ, прафесійная сумленнасць, працаздольнасць — як усё гэта адпавядае сучаснаму статусу аднаго з самых папулярных творчых калектываў нашай сталіцы: акадэмічнага, музычнага, дзяржаўнага! Тэатр апошнім часам вядзе грунтоўную рэпертуарную палітыку, скіраваную на ўзбагачэнне жанравага дыяпазону і найбольш поўнае выяўленне творчага патэнцыялу ўсіх “складнікаў” дзівоснага сінтэзу музыкі і сцэны. А менавіта — сімфанічнага аркестра, хору, балета, салістаў. Віктар Цыркуновіч арганічна існуе ў гэтым жанравым сінтэзе: адпаведна законам партытуры, задуме рэжысёра, звышзадачы спектакля. І ў дыяпазоне сваіх багатых вакальных ды акцёрскіх магчымасцей стварае характары запамінальныя, якія не выбіваюцца з ансамбля, але ўжо з першых жа хвілін з’яўлення артыста на сцэне прываблваюць увагу і спрыяюць глядацкай сімпатыі да вобраза ў цэлым.

“А Цыркуновіч там будзе?” — я неаднойчы міжволі чула такое пытанне ад заўсёднікаў тэатра, якія цікавіліся білетамі на бліжэйшыя спектаклі. Атрымаўшы ад касіра станоўчы адказ, ужо не вагаючыся набывалі білеты. І не мела значэння, у якім вобразе выходзіў на сцэну іх кумір.

Пазбягаючы штампаў, скарыстоўваючы сцэнічную імправізацыю, трапныя знаходкі ў пластычным малюнку ролі, у галасавых інтанацыях, ён стварае пераканальныя вобразы-характары ў прэм’ерах 2010 — 2011 гадоў. Віктар Цыркуновіч неперайманы ў вобразе Паляўнічага з “сямейнага” мюзікла “Чырвоны Каптурок. Пакаленне NEXT”. У спектаклі “Мая жонка — падманшчыца” інжынер Джымі Джэксан у выкананні гэтага артыста выглядае то інфантыльным завадатарам “лёгкага” жыцця, то вартым жалю недарэкам, то добрым дзіваком, здатным на братэрскую самаахвярнасць...

А паспрабуйце ўявіць акцёрскі ансамбль расійска-беларускага праекта “Блакітная камея” без В. Цыркуновіча ў ролі дыпламата Шустава, расійскага рэзідэнта сакрэтнай службы! Шустаў — Цыркуновіч уносіць у сцэнічныя стасункі псіхалагічную завостранасць, непрадказальнасць каварства і... флёр суровай, але не “фельдфебельскай” мужнасці, здатнай уразіць і легкадумную какетку, і пачуццёвага Нуарэ, і, мабыць, саму імператрыцу. Нездарма кампазітар і прадзюсар Кім Брэйтбург, параўноўваючы і расійскія, і мінскую версіі пастаноўкі “Блакітнай камеі”, прызнаўся, што з усіх іх толькі Віктар Цыркуновіч вылучаецца як артыст, найбольш адэкватны аўтарскай задуме і ў вакальным, і ў акцёрскім сэнсах — сваім высокім класам выканання, трапным іміджам.

Тэатр Віктара Цыркуновіча — гэта і канцэртныя выступленні, дзе артыст мае магчымасць паказаць сваё майстэрства ў выкананні камернага рэпертуару, оперных арый, старадаўніх рамансаў, песень пра вайну і нават эстрадных шлягераў. Для яго важны ўдзел у такіх праектах, як “Чарадзейны свет аперэты”, “Мюзікл-ГАЛА”, “Барытоны Беларусі пяюць пра каханне”, “Чароўная ноч класікі ў музеі пад адкрытым небам”, “ Музычныя вечары ў Мірскім замку”.

А яшчэ яго тэатр — гэта людзі. Тыя, што ў зале. І тыя, што працуюць поруч: калектыў, падтрымка якога столькі значыць для творчага чалавека! Менавіта калектыў Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра, рупная ўвага яго мастацкага кіраўніцтва і прафсаюзнай арганізацыі паспрыялі вылучэнню В. Цыркуновіча на ўдзел у конкурсе прафесійнага майстэрства работнікаў культуры “Лепшыя імёны-2011”. Ён перамог у сваёй намінацыі, і атрыманне прафсаюзнай прэміі разам з прэстыжным званнем “Лепшы акцёр года” за серыю тэатральных работ у сезоне 2010/2011 гг. з’явілася важным сведчаннем прызнання артыста ў прафесійным асяроддзі — як майстра ў творчым “цэху”.

***На здымку: дыплом конкурсу прафесійнага майстэрства работнікаў культуры “Лепшыя імёны-2011” у намінацыі “Лепшы акцёр года” Віктару Цыркуновічу ўручае старшыня Мінскай гарадской арганізацыі Беларускага прафсаюза работнікаў культуры Віктар Маліноўскі.***

## Зваротная сувязь

# Які памер надбаўкі?

*Адказвае Генадзь Апанасенка, галоўны прававы інспектар працы Мінскага гаркама прафсаюза работнікаў культуры.*

**— Згодна з Дэкрэтам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26.07.1999 г. № 29 “Аб дадатковых мерах па ўдасканаленні працоўных адносін, умацаванні працоўнай і выканаўчай дысцыпліны” павышэнне тарыфнай стаўкі можа быць у памеры да 50 працэнтаў. Калі пры заключэнні кантракта мера стымулявання працы складае 5 працэнтаў, ці можа наймальнік устанавіць яе ў большым ці меншым памеры і пры якіх умовах?**

— Дадатковыя выплаты стымулюючага характару, змяненне велічыні дадатковай меры стымулявання працы знаходзяцца ў кампетэнцыі наймальніка. Пры гэтым неабходна выконваць парадак і ўмовы заключэння кантракта і ўнясення ў яго змяненняў і дапаўненняў.

Змяніць памер дадатковай меры стымулявання працы наймальнік можа толькі па ўзгадненні бакоў шляхам падпісання імі дадатковага пагаднення.

**— Ці можна прыняць на працу па кантракце на 0,5 стаўкі і выплачваць працаўніку павышэнне ў памеры 50 працэнтаў тарыфнай стаўкі?**

— Артыкулам 118 Працоўнага кодэкса прадугледжана, што па ўзгадненні паміж працаўніком і наймальнікам могуць устанаўлівацца — як пры прыёме на працу, так і пасля — няпоўны працоўны дзень альбо няпоўны працоўны тыдзень. Памер павышэння вызначаецца бакамі кантракта ў межах, прадугледжаных заканадаўствам. Так, згодна з падпунктам 2.5 пункта 2 Дэкрэта кантракт, заключаны з працаўніком, павінен прадугледжваць дадатковыя меры стымулявання працы, у тым ліку і павышэнне тарыфнай стаўкі, — не больш як на 50 працэнтаў, калі большы памер не прадугледжаны заканадаўствам. Такім чынам, і пры няпоўным працоўным дні павышэнне можа быць у межах 50 працэнтаў.



**Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры запрашае на выстаўку “Натхненне” твораў у тэхніцы ашыбана (прасаваная фларыстыка) мастачкі Анжалікі Чудзіевіч.**

# Натхнёная прыродай

**Наталля НАСТАСІЧ,**
**старшы навуковы супрацоўнік аддзела экспазіцыі Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры**

Ашыбана — адзін з рэдкіх і старажытных відаў мастацтва. Гэта своеасаблівы жывапіс з дапамогай засушаных кветак, зёлак, лісця, кары, пладоў і насення, якія замацоўваюцца на паперы ці тканіне на прыгожым фоне. У такіх кампазіцыях прыродны матэрыял ажывае, але ў новай якасці, перадаючы непаўторнасць аўтарскага бачання свету, яго думкі, мары, вобразы, якія пануюць у душы. Майстры ашыбаны ствараюць арнаменты, пейзажы, нацюрморты, партрэты і сюжэтныя карціны.

У Японіі гісторыя стварэння такога кшталту твораў налічвае ўжо болей як 600 гадоў. У часы Сярэднявечча воіны-самураі павінны былі акрамя бездакорнага валодання мячом і напісання іерогліфаў умець рабіць мастацкія творы з сухіх кветак, каб спасцігнуць гармонію ў прыродзе і ў самім сабе. А ў Беларусі такія кампазіцыі здаўна ўпрыгожвалі дом: іх размяшчалі на століках і фартэпіяна, буфетах, у дзіцячым пакоі і спальні… Асабліва добра яны глядзеліся зімою, калі не было жывых кветак, як напамін пра вясну і лета, калі прырода паўстае ва ўсім сваім хараставе.

У сённяшні тэхнічны час, калі чалавек адасобіўся ад прыродных законаў і жыве хутчэй як спажывец, мастацтва ашыбаны вяртае нас да вытокаў, да сувязі з роднай зямлёй, калі чалавек адчувае еднасць з навакольным светам, супакаенне, бачыць прыгажосць. З кожным годам ашыбана набывае ўсё большую папулярнасць і развіваецца ў спосабах апрацоўкі матэрыялу і выкладвання карцін з сухіх кветак. Такія работы ствараюцца ўручную і заўсёды ў адзіным экзэмпляры.

Анжаліка Дзмітрыеўна нарадзілася ў 1968 годзе ў Мінску. Закончыла Мінскае мастацкае вучылішча імя А. К. Глебава. У 1988 — 1990-м вучылася ў Інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Я. Рэпіна (Санкт-Пецярбург), у 1992 — 1996 гадах — у Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Цяпер працуе рэстаўратарам па графіцы ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Традыцыямі ашыбаны яна захапілася не так даўно, але ў гэтых творах раскрыліся яе здольнасці, у іх адчуваецца святло і ўнутраная гармонія. Яе карціны дапамагаюць па-новаму зірнуць на прыроду і свет вакол нас. Адчуваеш здзіўленне і захапленне ад работ, зробленых з таго, што расце пад нагамі…

На ўрачыстым адкрыцці выстаўка “Натхненне” аб'яднала мноства таленавітых і творчых людзей. Мастак Аляксей Зінчук павіншаваў гераіню імпрэзы Анжаліку з цудоўным дэбютам і добрай экспазіцыяй, а пісьменніца Вольга Сакалова са сваёй літаратурнай суполкай падаравала сапраўднае свята паэзіі. Фларыст Ларыса Мілько распавяла пра новыя магчымасці, якія адкрываюцца перад аматарамі ашыбаны: і мастацкія, і нават прадпрымальніцкія, таму што такія работы заўсёды эксклюзіўныя. Увесь вечар гасцей суправаджала музыка ў выкананні гітарыста Андрэя Валадзянкова і зусім юнага акардэаніста Аляксандра Якубоўскага.

Кветкі спакон вякоў асацыіраваліся ў чалавека з каханнем, шчырасцю, дабрынёю. Кажуць, што дзеці — кветкі жыцця, пра дзяўчыну — што яна нібы ружа, а знакаміты грамадскі дзеяч Роберт Грын Інгерсан сцвярджаў, што памяць пра шчодра раздадзенае жыццё струменіцца як водарнае віно, а кожны бескарыслівы ўчынак падобны да прыгожай духмянай кветкі. Мастацкія творы з сухіх кветак Анжалікі Чудзіевіч дапамагаюць дакрануцца да прыгажосці навакольнага свету, які яднае ўсіх нас.



Адкрыццё выстаўкі “Натхненне” твораў у тэхніцы ашыбана сталася дэбютам для Анжалікі Чудзіевіч, але тым не менш аўтар заявіла пра сябе як пра сталага мастака з вытанчаным густам, выдатнага каларыста, які добра валодае абраным матэрыялам і адпаведнымі тэхналогіямі.

Усім гэтым адметным характарыстыкам садзейнічае прафесійная дзейнасць у якасці мастака-рэстаўратара па графіцы НММ Беларусі. Сваімі творамі Анжаліка Дзмітрыеўна запрашае гледачоў па-новаму зірнуць на навакольны свет, убачыць ды адчуць яго прыгажосць і глыбіню. Спадзяюся, што гэта экспазіцыя закране чуллівыя струны чалавечай душы, магчыма, адкрые яшчэ і частку невядомага.

***На здымках: работы Анжалікі Чудзіевіч.***

**Вядучы праекта — рэдактар аддзела мастацтва Віктар Кавалёў**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай “Дзівасвет”.**

## З глыбінкі

## Радкі і жыццё

Чалавек трапяткога сэрца і добрых памкненняў, жанчына надзвычайнай сумленнасці і чуласці, Ніна Бурко прыйшла да супрацоўніцтва з раённай газетай даўно. Не адно пакаленне прыхільнікаў “Бярэзінскай панарамы” добра ведае яе прозвішча.

Напісанае Нінай Мацвееўнай у свой час стала здабыткам шырокага кола чытачоў “раёнкі”, а цяпер аб'яднана ў зборнік “Сонца майго дня — людзі!”, выдадзены аддзелам маркетынгу Бярэзінскай раённай бібліятэкі. Героямі замалёвак сталі 57 землякоў, з іх 11 ветэранаў вайны, 9 доўгажыхароў.

Не так даўно адбылася прэзентацыя выдання, на якую былі запрошаны сябры і калегі аўтаркі. Іміджу мерапрыемства найлепшым чынам паспрыяла прысутнасць галоўнага рэдактара часопіса “Алеся”, члена праўлення грамадскага аб'яднання “Беларускі саюз жанчын” Тамары Бунто і загадчыцы аддзела пісьмаў газеты “Звязда” Валянціны Доўнар. Сапраўдным упрыгажэннем сустрэчы сталі 15 землякоў-герояў прэзентаванага зборніка, сярод якіх — ветэран вайны А. Цялюк; герой працы, майстар “Залатыя рукі”, уладальнік сярэбранага медаля ВДНГ СССР і імяннога грэйдара за рацыяналізатарскія прапановы А. Несцяровіч; падпалкоўнік марской авіяцыі М. Касцюкевіч; капітан пасажырскага рачнога судна В. Вайцяховіч.

Гучалі песні ў выкананні “бярэзінскага Кабзона” М. Кожухава, салістак фальклорнага ансамбля “Лявоніха” С. Ерасценкі і Т. Кліменкі, самадзейных артыстаў фальклорнага калектыву “Калінка”.

Яны таксама героі артыкулаў таленавітай журналісткі.

**Тамара КРУТАЛЕВІЧ,**
**Беразіно**

## Юная паэтка з Міншчыны

Пры Чачкаўскай сельскай бібліятэцы (Мінскі раён) працуе аматарскае літаратурнае аб'яднанне з вельмі прыгожай назвай “Літавіца”, дзе юныя таленты абмяркоўваюць паэтычныя пытанні, дэкламуюць свае вершы. Пішуць яны пра прыгожую, родную, любую нашу зямліцу, якая стала крыніцай іх творчасці. І намаганні пачынаючых паэтаў не застаюцца без узнагарод. Так, на XVII абласным злёце Мінскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна “Юныя таленты Міншчыны” Аляксандра Севярын была ўзнагароджана Ганаровай граматай. Найлепшым падарункам для дзяўчынкі стаў фотаздымак са знакамітым пісьменнікам Алесем Бадаком.

Аляксандра займаецца літаратурнай творчасцю з маленства. Піша не толькі вершы, але і песні, якія сама выконвае. І літаральна кожная з іх — падзея, вартая ўвагі і ацэнкі прафесійнага журы. Вясной гэтага года на злёце-аглядзе “Юных пешаходаў” у Бараўлянах А. Севярын атрымала Дыплом за першае месца і каштоўны падарунак. У мінулым годзе Аляксандра ўдзельнічала ў раённым конкурсе патрыятычнай песні ў Сеніцы і заняла другое месца.

**Святлана КОЎЗЕЛЕВА,**
**Мінскі раён**

## Афарызм

*— Хто лепшы ў мастацтве?*
*— Той, хто чалавечны. А як піша — яго справа.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”**
**Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ**



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
аддзел “Кніжны свет” — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by
Пры перадруку просьба спасылацца на “ЛіМ”. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
“Выдавецтва “Беларускі Дом друку” г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 3015
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 23.06.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2988
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12